БІСМІ АЛЛАГІ АР-РАГМАНІ АР-РАГІМ

# БАЙРАМ

## ТАТАРЫ НА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСІ

КВАРТАЛЬНІК
БЕЛАРУСКАГА ЗГУРТАВАННЯ ТАТАРАЎ-МУСУЛЬМАН
«АЛЬ-КІТАБ

№ 4

МЕНСК 1993

Рэдактарская група:

І. Александровіч,

І. Канапацкі,

В. Садыкава,

Г. Фатыхава.

Рэдакцыя "Байрама" выказвае шчырую

п а д з я к у

прафесару Паулю Сутару з Швейцарыі

за грошы, якія ён даслаў нам на выданне квартальніка

настаўнікам І.А.Быхаўцу з Пастаўшчыны і Ф.В.Федараву з Браслаўшчыны, якія даслалі нам вельмі цікавы і карысны матэрыял пра беларускіх татар

Надрукавана у Навагрудку

بِسْمِ ٱللَّهِ ٱلرَّحْمَٰنِ ٱلرَّحِيمِ

Салям алейкум, спадары і спадарыні,
суплямённікі-татары і браты-мусульмане !

Нашы з вамі сустрэчы такія рэдкія сталі да таго ж і нерэгулярнымі, але гэта абумоўлена аб"ектыўнымі і суб"ектыўнымі прычынамі.

Выказам падзяку Аллагу за тое, што нашы настаўнікі мусульманскіх нядзельных школ з любоўю у сэрцы вядуць заняткі, за тое, што бацькі адпраўляюць дзяцей у школы і цікавяцца іх поспехамі у вучобе, за тое, што татары законапаслушныя грамадзяне сваёй Айчыны.

У новым навучальным годзе шмат татарскіх хлопцаў і дзяўчат паступілі на вучобу у вучылішчы, тэхнікумы і універсітэты. Некаторыя з іх у выхадныя дні вывучаюць у Менску турэцкую мову. Хоць яшчэ далёка не усе нашы студэнты далучыліся да мусульманскай еднасці. Вельмі спадзяемся, што спакваля кожны з іх знойдзе да нас дарогу.

Напрыканцы 1993 г. у Менску адбыўся Першы з"езд мусульман Беларусі. Невялікая група мусульман пачала сеяць смуту. Толькі, дзякаваць Аллагу, нічога у іх не атрымалася. Большасць дэлегатаў з"езда выказалася за канстуктыўнае супрацоўніцтва татар па адраджэнні мусульманскай веры і культуры татар, не супроцьпастаўляючы рэлігію і культуру. Было вырашана, што для вывучэння канкрэтнага стану нашых мусульман трэба стварыць мусульманскі інфармацыйны цэнтр. Прыняты Зварот татар-мусульман да ісламскіх навуковых і грамадскіх арганізацый, асобных людзей свету з просьбай аб дапамозе беларускім татарам-мусульманам.

А цяпер некалькі слоў пра тое, што дзеіцца у мусульманскім свеце. Перш за усё пра Татарстан. Нас парадавалі вынікі выбараў у Думу Расіі. Неудзел татар і большасці нетатарскага насельніцтва гэтай рэспублікі — вялікая маральная перамога татарскага народа. Не пажадалі татары выбіраць жырыноўскіх ды і іншых схільных да дыктатуры мядзведзяў, каб яны зноў загналі татар як авечак у кашары. Сродкі масавай інфармацыі Расіі не паказваюць сапраўдны стан рэчаў. Працавіты і цвярозы татарскі народ мае свой хлеб і сёе-тое да хлеба, сам умее кіравацца і не чакае указанняў з Масквы калі, што і як рабіць, не тое, што неаторыя рэспублікі, нават члены ААН. Добра таксама, што нашы сябры з Татарстана дасы-

лаюць нам кнігі, часопісы, навт цэлыя кампленты газет, якія мы тут жа раздаём нашым мусульманам. Даволі часта мы маем і жывую сувязь з паволжскімі татарамі.

Вельмі хвалююць нас справы нашых адзінакроўных братоў — крымскіх татар. Дэпартацыя татар з Крыма, якая адбылася ў 1944 годзе, была зроблена па загаду Сталіна. Многія татары, якія былі старымі, хворымі і нядужымі, памерлі па дарозе у Сібір, Казахстан і Сярэднюю Азію. Маёмасць крымскіх татар была зрабавана. І хоць некалькі разоў друкавалі ў газетах пра рэабілітацыю крымскіх татар, але гэта ўсё толькі словы. Ні зямлю, ні забудовы крымскіх татар не аддаюць рабаўнікі. Расія, якая з"яўляецца правапераемніцай СССР, нічым не дапамагае крымскім татарам, бо яны жывуць у Сярэдняй Азіі і Казахстане, а тым, што з вялікай цяжкасцю пераехалі ў Крым, таксама нічога не даюць, бо яны жывуць на Украіне. Вось і спрабуюць на гэтым рускія шавіністы зрабіць крывавую гульню, супроцьставіць татар украінцам. І хоць мала чым Украіна дапамагае татарам, але большасць іх выбіраюць не рускіх шавіністаў. Каб застрашыць актыўных дзеячаў-татар, нярэдка іх забіваюць. Гэта палітычная расправа пад выглядам звычайнага крымінальнага злачынства ( нядаўна быў забіты Юрый Бекіравіч Асманаў, якога ведалі таксама беларускія татары ).

З вялікай трывогай глядзім мы на Каўказ. Не сціхае вайна паміж армянамі і азербайджанцамі. У Абхазіі, дзе жыве нямала мусульман, ліецца кроў і з боку грузін, а ў грузінскім войску нямала азербайджанцаў, якія жывуць тут спрадвеку. Забіваюць па злой волі начальнікаў мусульмане мусульман. У Сярэдняй Азіі не сціхае пажар, які цягнецца ўжо разам з афганскай трагедыяй другое дзесяцігоддзе.

Пра Блізкі Усход мы ведаем больш падрабязна. Ужо некалькі дзесяцігоддзяў ідзе нікому не патрэбная вайна. Ужо нарадзіліся цэлыя пакаленні дзяцей у лагерах бежанцаў. Людзі жывуць у галечы, многія не маюць ні маёмасці, ні прафесіі. А які таленавіты народ гэтыя палесцінскія арабы! Мы маем магчымасць назіраць іх тут, на Беларусі. Гэта добрыя студэнты, інтэлігентныя людзі, якія ўвесь свой вольны час аддаюць для беларускіх татар, перадаючы ім веды пра Іслам, культуру арабскага народа.

У гэтым нумары "Байрама" ёсць невялікі энцыклапедычны арты-

кул прэ Аракан. "Аб"ектыўная" савецкая інфармацыя ніколі не пісала, не перадавала нам звесткі, як жывецца мусульманам у гэтай краіне. А жывуць мусульмане у камуністычна-фашысцка-будыйскай краіне так, як жылося людзям у Кампучыі ( Камбоджы ) пры Пол Поце!

А што робіцца у Турцыі і Іраку ? Супроць курдаў-мусульман ( глядзі у гэтым нумары "Байрама" кароткі энцыклапедычны артыкул пра курдаў ) ужываюцца усе сродкі вынішчэння людзей — авіяцыя, ракеты, атрутныя рэчывы. Вядома, супроць безабароннага насельніцтва ваяваць лёгка. Толькі тыя, хто кідае бомбы, запускае ракеты, рассявае атруту, гэта ужо не жывыя людзі, гэта маральныя мерцвякі. І гарэць ім вечна у пякельным агні !

У Алжыры і Егіпце — мусульманскіх краінах здараюцца тэрарыстычныя акты. Гінуць людзі. Услужлівыя сродкі масавай інфармацыі крычаць: "Ату, фундаменталістаў !". Толькі сапраўдныя фундаменталісты гэта не тое, што вам навязвае савецкая прэса. Нашых карэспандэнтаў, якія б ведалі арабскую мову, абстаноўку, там няма. А калі ж ёсць, то я хацеў бы пагляддзець ім у вочы. Стварыць адмоўны вобраз фундаменталіста-мусульманіна — гэта "хорошо продуманная и тщательно спланированная стратегия" антымусульманскіх спецслужбаў.

Боснія ! Беларускія татары памятаюць, што дружалюбны народ гэтай краіны дбаў пра нашых мусульман. Там друкаваліся для нас кнігі, там вучыліся на імамаў нашы юнакі. Цяпер сербскія шавіністы, ды іх памагатыя харваты вынішчаюць гэты мусульманскі народ. Расійскія жырынсоўцы, сёй-той з Беларусі за долары праліваюць кроў бязвінных людзей.

Набліжаецца 50-гадовы юбілей вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сотні тысяч воінаў і партызан пахаваны у брацкіх магілах. Святары розных канфесій будуць маліцца за душы палеглых. Пахавана на Беларусі многа ( па нашых ацэнках каля 40 тыс.) мусульман з розных рэспублік былога СССР. Будзе правільна, калі і татары-мусульмане прачытаюць на магілах малітву за душы палеглых.

Пішыце артыкулы, заўвагі, прапановы на адрас:

220086, г.Менск, вул.Славінскага, д.21, кв. 8

Якубу Якубоўскаму

К У Р"А Н

С у р а А л ь - І м р а н
( п р а ц я г )

117. А што датычыцца няверных, — ні маёмасць іх, ні нашчадкі іх не будуць мець сілы супроць Аллага: яны — насельнікі агню і там яны будуць знаходзіцца.

118. Тыя, хто жывуць гэтым днём і трацяць для цяперашняга жыцця, падобныя да сівернага ветру, які губіць ніву людзей беззаконных. І не Аллаг прынёс ім шкоду, але яны самі сабе шкодзяць.

119. О вы, вернікі, не бярыце сабе у блізкія сябры нікога, акрамя адзінаверцаў. Яны абавязкова звядуць вас з розуму. Люба ім бачыць вас у бядзе. Нянавісць іх ужо паказала сябе у іх выразах, а схаванае у іх сэрцы — яшчэ больш таго. Мы растлумачылі вам запаветы, калі вы разумееце.

120. Вось вы тыя, што палюбілі іх, але яны не маюць ласкі да вас. А вы верыце у сваю Кнігу. Калі яны спатыкаюць вас, яны кажуць: "Мы верым", але калі яны паміж сабой, яны грызуць свае кіпцюры ад злосці да вас. Скажыце: "Згіньце вы у злосці вашай!". Сапраўды, добра ведае Аллаг, што схавана у вашых грудзях.

121. Калі што добрае здарыцца з вамі, гэта засмучае іх: а калі ліхое здарыцца з вамі, яны цешацца гэтым. Але калі вы цвёрдыя і праведныя, задумы іх не прынясуць вам аніякай шкоды. Сапраўды, Аллаг разумее справы іх.

122. Ы у час, калі ты ранкам выйшаў з дому, вернікі размясціліся строем перад бітвай. І Аллаг — Усячуючы, Уседны.

123. Калі два атрады ваше задумалі малядушша, хоць Аллаг апекаваўся імі: вернікам трэба давяраць Аллагу.

124. І Аллаг ужо дапамог вам пад Бадрам, калі вы былі слаба-сільнымі. І вось, прымайце Аллага у апекуны, каб вы былі удзячнымі.

125. Калі сказау ты вернікам: "Ці не хопіць для вас таго, што Уладыка ваш дапамагае вам з трыма тысячамі ангелау, пасланых з нябёс ?

126. Так, калі вы цвёрдыя і праведныя, і яны ( ворагі ) адразу кінуцца на вас, Уладыка ваш дапаможа вам пяццю тысячамі анелау, якія нападуць імкліва ( на ворагау )!

127. І Аллаг прызначыу гэта як добрую вестку для вас, каб гэтым успакоіць вашы сэрцы: і дапамога прыходзіць ад аднаго Аллага — Магутнага, Мудрага.

128. Аллаг учыніць гэта, каб знішчыць частку тых, хто не уверавау і каб яны пайшлі ні з чым.

129. Ты не маеш нічога да гэтай справы, ці Ён звернецца да іх, ці Ён іх пакарае, бо яны чыняць зло.

130. Аллагу належыць усе, што ёсць на нябесах, што ёсць на зямлі: Ён даруе каму Ён хоча, і карае таго, каго Ён хоча. І Аллаг — Усёдаравальны, Міласэрны.

131. О вы, вернікі, не бярыце ліхвы ( празмернага прыбытку ); і бойцеся Аллага. Быць можа, вы будзеце шчаслівымі.

132. Бойцеся агню, прыгатаванага для няверных

133. І павінуйцеся Аллагу і Пасланніку, каб аказана была вам Міласэрнасць.

134. І спяшайцеся адзін перад адным, просячы аб дараванні вам Уладыкі вашага, і аб раі, які вялікі як зямля і неба, і які прыгатаваны для тых, хто баіцца Аллага —

135. Для тых, хто ахвяруе у багацці і беднасці, і для тых, хто утаймоувае гнеу і даруе людзям. І Аллаг прыязны да тых, хто робіць дабро;

136. І да тых, хто учыніць дрэнную справу ці зробіць шкоду сабе самому, але успомніць Аллага і просіць аб дараванні за грахі свае — і хто можа даравань за грахі, акрамя Аллага? — і каторыя не упарцяцца свядома у гэтым, што яны зрабілі.

137. Ім узнагарода — дараванне Уладыкі іх, і сады, праз якія цякуць рэкі, дзе яны будуць знаходзіцца; і як жа вялікая узнагарода для тых, хто працуе.

138. Сапрауды, шмат разоу было правасуддзе ажыццёулена і да вас; і вось, падарожнічайце па зямлі і паглядзіце, які жахлівы быу канец тых, якія ставіліся да прарокау як да абманшчыкау.

139. Гэты Кур"ан ёсць ясны доказ людзям і настауленне і павучанне тым, хто баіцца Аллага.

140. І не расслабляйцеся духам, і не сумуйце; і, сапрауды, пераможаце вы, калі вы будзеце вернікамі.

141. Калі б вы пацярпелі паражэнне, то і яны раней пацярпелі паражэнне. Мы заставім такія дні чаргавацца сярод людзей, як перасцярогу, каб Аллаг мог адрозніць вернікау і выбраць сведак з асяроддзя вашага; і Аллаг не любіць няправедных;

142. І каб Аллаг мог ачысціць вернікау і знішчыць няверных;

143. Няужо вы думаеце увайсці у рай раней, чым пазнае Аллаг тых з вас, которыя гатовы былі пайсці змагацца, пазнаць цярплівых сярод вас ?

144. Вы хацелі смерці раней, чым яе спаткалі. Цяпер ужо убачылі і будзеце на яе глядзець.

145. Мухаммед толькі пасланнік. Няма ужо цяпер пасланнікау, якія былі некалі раней яго; калі і ён памрэ ці будзе забіты, то няужо вы павернеце назад ? Калі хто паверне назад, той ніякай шкоды не зробіць Аллагу, але Аллаг узнагародзіць людзей высакародных.

146. Ні адзін чалавек не можа памерці інакш, як з волі Аллага у вызначоны Ім час. І калі хто шукае узнагароды на гэтым свеце, Мы таму даруем яе; хто ж шукае узнагароду у жыцці будучым, таму Мы даруем яе; і, сапрауды, узнагародзім Мы удзячных.

147. А колькі ж было прарокау, якія са сваімі паплечнікамі ваявалі супроць ворагау. Не малеу іх імпэт, што б ні прыходзілася перацярпець на шляху Аллага, і не паддаліся яны цяжкасцям і не унізіліся яны перад ворагам. Аллаг любіць людзей стойкіх.

148. І адводнага слова не вымавілі яны, акрамя як толькі: "Уладыка наш, даруй нам нашы грахі і няцішласць нашых паводзін, і умацуй нас, і дапамажы нам супроць няверных.

149. Аллаг даў нам узнагароду на гэтым свеце, а таксама вялікую узнагароду у будучым свеце: Аллаг любіць людзей, якія чыняць дабро.

150. О вы, вернікі, калі будзеце слухаць няверных, яны прымусяць вас вярнуцца да ранейшага стану, і вы вернецеся на сваю пагібель.

151. Не, Аллаг Заступнік ваш і Ён — Найлепшы памочнік.

152. Паселім у іх няверных сэрцах страх, бо яны далавалі Аллагу сатаварышаў, на што Ён не даў дазволу. Агонь — жыллё ім. А якое ж гэта месца побыту для несправядлівых !

153. І, сапраўды, выканаў Аллаг абяцанне Сваё вам, калі вы забівалі і знішчалі з дазволу Яго, але, калі вы сталі неахайнымі і спрачаліся між сабою адносна загаду і не паслухалі пасля таго, як Ён паказаў вам тое, чаго вы прагнулі, бо сярод вас выявіліся такія, каторыя прагнулі даброт гэтага свету, і сярод вас былі такія, якія прагнулі жыцця на тым свеце. Ён пусціў вас на уцёк, каб выпрабаваць вас. Аллаг ужо дараваў вам, таму што Ён поўны шчодрасці да вернікаў.

154. Калі вы уцякалі, не аглядваючыся ні на каго і Пасланнік заклікаў вас у тым на бітву; тады Ён паслаў вам смутак як узнагароду за смутак, каб не аплаківаці вы таго, што ўслізнула ад вас, ні таго, што здарылася з вамі. І Аллаг добра ведае справы вашы.

155. Пасля гэтай бяды Ён паслаў вам сон, які агарнуў адну частку з вас, а другая частка трывожылася, маючы несправядлівыя думкі пра Аллага, — думкі часоў паганства. Яны гаварылі: "Ці будзем мы мець што небудзь ад гэтай справы ?" Скажы: "Сапраўды, уся слава належыць Аллагу !" Яны хаваюць у сваіх душах тое, што табе не паказваюць. Яны кажуць: "Калі б ад гэтага была нам якая-небудзь выгода, то мы не патрапілі б тут паражэння". Скажы: "Калі б вы нават засталіся у сваіх дамах, то тыя, каторым была прызначана смерць, выйшлі б на месца свайго паражэння, каб Аллагу выпрабаваць

сэрцы вашы, разведаць, што у вас на душы". Аллаг ведае тайны сэрцау.

156. Тыя сярод вас, якія уцякалі, калі сутыкнуліся два войскі - сапрауды, гэта шайтан зрабіу у пакаранне за некаторыя іх праступкі.

157. О вы, вернікі, не прыпадабняйцеся няверным у тым, якія кажуць пра блізкіх сваіх, калі тыя падарожнічаюць па зямлі ці ідуць на вайну: "Калі б яны былі з намі, яны не памерлі бы ці не былі б забітымі." Няхай Аллаг учыніць гэта згрызотай у іх сэрцах. Аллаг дае жыцце і пасылае смерць. І Аллаг ведае справы вашыя.

158. І калі забіты вы ці паміраеце на шляху Аллага, сапрауды, прабачэнне Аллага і міласць Яго ёсць найлепшае з таго, што назапасілі яны.

159. І калі вы памрыце ці будзіце забіты, сапрауды, вы станеце перад Аллагам.

160. І праз міласэрнасць ад Аллага ты стау для іх лагодны. Калі б бну суровы і цвёрдага сэрца, то яны адлаліліся б ад цябе. Так прабач ім і прасі Аллага аб прабачэнні для іх: і радзся з імі у справах праулення: а калі прымеш ра - шэнне, то спадзявайся на Аллага.

161. Калі Аллаг дапамагае вам, ніхто не пераможа вас: але калі Ён адступіцца ад вас, хто можа дапамагчы вам, акрамя Яго ? Вось такім чынам няхай спадзяюцца вернікі на Аллага.

162. І немагчыма, каб прарок ашуквау. Той, хто ашуквае, прыйдзе са сваім ашуканствам у Дзень Уваскрасення. Тады кожная душа атрымае адплату за тое, што дакавала: ніхто не будзе пакрыуджаны.

163. Няужо той, хто мае схільнасць Аллага, падобны на таго, хто выклікау гнеу Аллага ? Яго месцам знаходжання будзе пекла. І якое благое месца гэта для яго !

164. Ёсць для іх у Аллага розныя ступені благадаці; і Аллаг бачыць іх справы.

165. Сапраўды, Аллаг аказаў міласць вернікам, што вылучыў сярод іх Пасланніка з іх аснароддзя, які перадае ім Яго знакі, які ачышчае вернікаў, які вучыць іх Кнізе і Мудрасці, хоць яны былі да гэтага часу ў аблудзе.

166. Калі вас спасцігла няшчасце ( пасля таго, як вы падвергглі іх двум падобным ), навошта пытаць: чаму ? Скажы ім: яно ад іх саміх. Таму што Аллаг Усемагутны.

167. І тое, што спасцігла вас у гэты дзень, калі два бакі сутыкнуліся, адбылося па волі Аллага; і адбылося гэта так, каб Ён мог адрозніць вернікаў:

168. І каб мог Ён адрозніць крывадушнікаў. І было сказана для іх: "Прыдзіце змагацца ў імя Аллага, і адбіце націск ворага"! Яны сказалі: "Калі б мы ведалі, як біцца, вядома, мы пайшлі б". У гэты дзень яны былі бліжэй да няверʼя, чым да веры. Яны вуснамі сваімі гаварылі тое, чаго не было ў іх сэрцах. Аллаг добра ведае тое, што яны хаваюць у сабе.

169. Тыя, якія гаварылі пра сваіх братоў, а самі сядзелі дома: "Калі б нас паслухаліся, то не былі б яны забітымі". Скажы: "Адсуньце смерць ад сябе саміх, калі вы шчырыя !"

170. І не лічыце тых, каторыя былі забітыя на шляху Аллага, што яны мёртвыя. Не, яны жывуць перад тварам свайго Уладыкі, і надзелены дарамі ад Яго.

171. Радуюцца таму, што даў ім Аллаг са Свайей ласкі. Яны радуюцца за тых, хто яшчэ не далучыўся да іх, засталіся ў тыле, бо не будуць яны ведаць страху, ні скрухі.

172. Яны рады міласці Аллага і шчодрасці Яго і таму, што Аллаг не дасць прапасці ўзнагародзе вернікаў.

173. Тым, каторыя былі пакорнымі Аллагу і Яго пасланніку пасля нанесенага воінамі паранення, каторыя рабілі дабро і баяліся Аллага, атрымаць узнагароду.

174. Тыя, каторым гаварылі людзі: "Сабраліся ворагі супроць вас, таму бойцеся іх" — але гэта толькі умацавала веру іх і яны сказалі: "Дастаткова нам Аллага, і Ён — Ахоўнік найлепшы."

175. А пасля вярнуліся яны з вялікаю міласцю ад Аллага і вялікімі шчадротамі, і нічога злога не здарылася з імі; яны

выканалі угоднае Аллагу. Аллаг — уладыка вялікіх шчадрот.

176. Праўда, шайтан робіць памочнікаў сваіх страшнымі, але вы не бойцеся іх, бойцеся Мяне, калі вы вернікі.

177. Няхай не засмучаюць цябе тыя, якія імкнуцца да няверʼя: яны не учыняць ніякай шкоды для Аллага. Не пажадаў Аллаг даць ім шчаслівую долю ў будучым жыцці: там для іх суровая кара.

178. Сапраўды, ты , якія узамен веры ўзялі няверʼе, не учыняць ніякай шкоды Аллагу; яны пацерпяць суровае пакаранне.

179. І няхай не думаюць няверныя, што дараваная Намі ім адтэрміноўка ім на карысць: Мы даем ім доўгае жыцце толькі для таго, каб яны павялічылі свае беззаконні: і нясцерпная мука чакае іх.

180. Непажадана Аллагу пакінуць вернікаў у сучасным стане, пакуль Ён не аддзеліць нядобрых ад добрых. І непажадана Аллагу адкрыць вам скрытае. Але Аллаг выбірае Сваіх Пасланнікаў каго Ён захоча. Дык верце Аллагу і Пасланнікам Яго. Калі вы верыце і знаходзіцеся у праведнасці, то вам будзе вялікая ўзнагарода.

181. І няхай не думаюць тыя, каторыя прагавітыя, што ім дау Аллаг са сваей ласкі, што гэта добра для іх. Наадварот, гэта горшае для іх. У Дзень Уваскрэсення ляжа на іх шыі ярмом тое, чым яны скупіліся. І Аллагу належыць спадчына нябес і зямлі, і Аллагу добра ведамы справы вашыя.

182. Аллаг чуў словы тых, каторыя гаварылі: "Аллаг бедны, а мы багатыя". Мы запішам і гэтыя словы іх, а таксама тое, што яны забівалі прарокаў без усякага права, і скажам: "Адведайце кару пякельным агнем !"

183. Гэта вам за тое, што зрабілі вашыя рукі. Але Аллаг ніколі не бязлітасны да слугаў сваіх.

184. Тым, каторыя сказалі: "Сапраўды, Аллаг загадаў нам не верыць ні аднаму пасланніку, пакуль не прыйдзе ён з ахвярай, якую пагліне агонь" — скажы: "Ужо прыходзілі да вас пасланнікі раней мяне з яснымі доказамі і з тым, пра што вы кажаце. Чаму ж іх забілі, калі вы справядлівыя ?"

وَلِلّٰهِ مُلْكُ السَّمٰوٰتِ وَالْاَرْضِ ۗ وَاللّٰهُ عَلٰى كُلِّ شَىْءٍ

١٩ ع قَدِيْرٌ ﴿١٩٠﴾

اِنَّ فِىْ خَلْقِ السَّمٰوٰتِ وَالْاَرْضِ وَاخْتِلَافِ الَّيْلِ

وَالنَّهَارِ لَاٰيٰتٍ لِّاُولِى الْاَلْبَابِ ﴿١٩١﴾

الَّذِيْنَ يَذْكُرُوْنَ اللّٰهَ قِيٰمًا وَّقُعُوْدًا وَّعَلٰى جُنُوْبِهِمْ

وَيَتَفَكَّرُوْنَ فِىْ خَلْقِ السَّمٰوٰتِ وَالْاَرْضِ ۚ رَبَّنَا مَا

خَلَقْتَ هٰذَا بَاطِلًا ۚ سُبْحٰنَكَ فَقِنَا عَذَابَ النَّارِ ﴿١٩٢﴾

رَبَّنَآ اِنَّكَ مَنْ تُدْخِلِ النَّارَ فَقَدْ اَخْزَيْتَهٗ ۗ وَمَا

لِلظّٰلِمِيْنَ مِنْ اَنْصَارٍ ﴿١٩٣﴾

رَبَّنَآ اِنَّنَا سَمِعْنَا مُنَادِيًا يُّنَادِىْ لِلْاِيْمَانِ اَنْ اٰمِنُوْا

بِرَبِّكُمْ فَاٰمَنَّا ۖ رَبَّنَا فَاغْفِرْ لَنَا ذُنُوْبَنَا وَكَفِّرْ عَنَّا

سَيِّاٰتِنَا وَتَوَفَّنَا مَعَ الْاَبْرَارِ ﴿١٩٤﴾

К у р"а н . Сура Аль-Імран, аяты 190—194

185. Калі яны цябе абвінавачваюць у мане, то падобна гэтаму былі абвінавачаны у мане пасланнікі, якія раней цябе прыходзілі з яснымі доказамі і кнігамі Мудрасці і з Кнігай, якая дае святло?

186. Кожная душа адведае смерці. І вы атрымаеце поўную плату толькі у дзень Уваскрэсення. Хто выратаваны будзе ад агню і будзе уведзены у рай, той будзе мець асалоду. Бо жыццё на гэтым свеце гэта толькі падманная раскоша.

187. Сапраўды, вы будзеце выпрабаваны і праз маемасць вашую, і праз душы вашыя, і, сапраўды, пачуеце вы многа крыўднага і тых, хто атрымаў Пісанне раней за вас і ад многабожнікаў. Але калі вы будзеце мужнымі і будзеце паступаць правільна, то праявіце сапраўдную рашучасць.

188. Тым, каму дадзена Пісанне, Аллаг запаведаў тлумачыць яго людзям і не хаваць Пісанне: а яны кінулі Пісанне за спіну і прамянялі яго за мізэрную плату. Зло ёсць тое, што прыдбалі яны.

189. Не думай, што тыя, якія цешацца тым, што зрабілі і любяць, каб іх хвалілі за тое, чаго не учынілі — не думай, што яны забяспечаны ад пакарання. Для іх кара будзе балючая !

190. Аллагу належыць царства нябёс і зямлі ! Аллаг мае уладу над усім існым.

191. Сапраўды, у стварэнні нябёс і зямлі, у чаргаванні ночы і дня ёсць знаменне для людзей з розумам:

192. Тым, якія памінаюць Аллага стоячы, сядзячы і лежачы на баку ( хворыя ), разважаюць аб сатварэнні нябесаў і зямлі: "Уладыка наш, Ты стварыў гэта нездарма: не, Ты святы, выратуй жа нас ад мукі у агні.

193. Уладыка наш, сапраўды зняважыў Ты таго, каго кідаеш у агонь. У беззаконнікаў не будзе заступнікаў".

194. "Уладыка наш, мы чулі Вяшчальніка, які заклікаў нас да веры: "Веруйце вы ва Уладыку вашага", і мы уверавалі. Уладыка наш, прабач нам учынкі нашыя і ачысці нас ад грахоў нашых і у смерці залічы нас у праведнікі.

195. Уладыка наш, даруй нам тое, што Ты абяцаў нам праз Пасланнікаў Тваіх, і не зняслаўляй нас у Дзень Уваскрасення. Сапраўды, не парушаеш Ты абяцання свайго".

196. І Аллаг адказаў ім: "Не дапушчу Я пагібелі ні адной справы, якую рабілі вы, ні мужчыны ні жанчыны: вы адны ад другіх залежныя. Таксама і тых, які уцяклі і былі выгнаны з дамоў сваіх, цярпелі зняважэнне на шляху Маім, былі у бітвах і былі забітыя, ачышчу Я ад грахоў іх, увяду іх у сады, па якіх цякуць рэкі. Гэта будзе ўзнагарода ад Аллага: у Аллага— цудоўная ўзнагарода.

197. Дык няхай цябе не падманвае спрыт няверных у гэтым горадзе!

198. Кароткачасовая гэтая ўсалода; пасля жылля іх будзе пекла, якое нядтульнае гэта будзе месца !

199. Але тыя, хто баіцца Уладыкі свайго, будуць у раі, па якім цякуць рэкі: і там будуць яны знаходзіцца, раскашуючы пачастункамі Аллага. І тое, што ёсць у Аллага — лепшае для праведных.

200. У ліку тых, хто чытае Пісанне, ёсць такія, хто веруць у Аллага, у тое, што зверху паслана вам і паслана ім; пакорныя Аллагу, яны не прамяняюць гэтых знакаў Аллага на нешта мала каштоўнае. І яны атрымаюць узнагароду ад Уладыкі свайго. Сапраўды, хуткі у разліцы Аллаг.

201. Вернікі ! Будзьце цярплівымі, будзьце цярплівымі адзін да аднаго, будзьце цвёрдымі, і, можа быць, будзеце шчаслівымі.

# З Х А М А І Л А

У нумары 1 — 2 "Байрама" за 1993 г. была надрукавана 36-я сура з Кур"ана — ЯСІН. Гэту суру мусульмане называюць сэрцам Кур"ана. Яна чытаецца за душы памерлых блізкіх, за прыхіль - насць і ласку Аллага да іх душ на тым свеце, за Мухаммеда, які нам перадау ад Аллага рэлігію Іслам, а таксама чытаюць ( пяюць ) ЯСІН і за здароўе тых, якія жывуць і цяпер, але адчуваюць сябе не зусім здаровымі. Пры усіх гэтых выпадках перад ЯСІНам чытаецца уступ ( па-арабску — нійет ) заужды розны пры розных выпадках і затым кароткая, аднолькавая для усіх выпадкау, малітва і затым ужо ЯСІН. Пасля ЯСІНа таксама чытаецца малітва і на заканчэнне — зноу нійет, але які адрозніваецца ад уступнага.

У гэтым нумары "Байрама" мы друкуем уступныя нійеты для некаторых выпадкау ( на арабскай мове арабскай графікай і кірыліцай для тых, хто не ўмее чытаць на-арабску ), а у наступных нумарах працягнем друкаванне нійетау і малітвау перад ЯСІНам і пасля яго.

З а у в а г а : Г̄ — цвёрдае ( рускае ) Г: А́ — мяккае А : Х̄ — цвёрдае Х.

НІЙЕТ ЗА ПРЫХІЛЬНАСЦЬ, ЛАСКУ АЛЛАГА:

اِلٰهِی یَا رَبِّ نِیَّتْ اِتْدِیمْ قُرْاٰنْ كَلَامُ اللّٰهْ دَنْ سُورَةِ

یٰسٓ وَاِخْلَاصْ هُمْ غَیْرِ سُورَلَرْ اُوقُومَغْ اللّٰهْ رِضَا

سِیچُونْ یَا رَبِّ سَنْ قَبُولْ وَمَقْبُولْ اَیْلَیْ خَالِصًا مُخْلِصًا

لِلّٰهِ تَعَالٰی

ІЛЯГІ Я РЭББІ НІЙЕТ ІТДІМ КУР"АН КЯЛЯМУ-ЛЛАГ ДАНЬ СЎРЭТЬ ЯСІН УА-ІХЛЯС ГУМ Г̄АЙРЫ СЎРЭЛЕР УКУМАГ̄А АЛЛАГ РЫЗА СІЧУНЬ Я РЭББІ СЕНЬ КАБУЛЬ УА-МЕКБУЛЬ ЭЙЛЕЕ Х̄АЛІСАН МУХЛІСАН ЛІЛЛЯГІ ТА'АЛЯ.

### НІЙЕТ ЗА ПРАРОКА МУХАМЕДА

الٰهی یا ربّ نیّت ایتدیم عزیز وشریف قرآن کلام
الله دن سورهٔ یٰس واخلاص هم غیری سورلری اوقیمغ
الله رضاسی ایچون حضرت رسول الله نین پاک روحی
اوچون حبیبون سوول قیلون محمد مصطفی نین یا الله
اوقودوغیم سن قبول ومقبول ایلیه خالصاً مخلصاً لله
تعالی ۞

ІЛЯ́ГІ Я РЭ́ББІ НІЙЕ́Т ІТДІ́М 'АЗІ́З УА-ШАРИ́Ф КУР"А́Н КЯЛЯ́МУ-ЛЛА́Г
ДА́НЬ СУ́РЭТЫ Я[illegible]ІН УА-ІХЛЯ́С ГУМ ҒА́ЙРЫ СУ́РЭЛЕ́Р УКУ́МАҒА АЛЛА́Х РЫЗА́
СІЧУНЬ [illegible]ДРАТЫ РАСУЛЮЛ-ЛА́Г НІН ПАКІ́ Р[illegible]ХЫ́ УЧУ́НЬ ХА[illegible]БІ́БУН САУВА́ЛЬ
КЫЛКЕ́НЬ МУХАММЕ́Д МУСТАФА́ НІН Я АЛЛА́Г УКУДУҒУМІ́ СЕ́НЬ КАБУ́ЛЬ УА-
МЕКБУ́ЛЬ ЭЙЛЕЕ ХА́ЛІСАН МУ́ХЛІСАН ЛІЛЛЯ́ГІ ТА'АЛЯ́.

### НІЙЕТ ЗА ДУШУ МАЦІ

الٰهی یا ربّ نیّت قیلدیم سنون رضان اوچون ودخی
منیم انا سینین روحینه یٰس سورهٔسی فاتحه الصلوات ۞

ІЛЯ́ГІ Я РЭ́ББІ НІЙЕ́Т КЫЛЬДЫ́М СЕНІ́Н РЫДА́НЬ УЧУ́НЬ УА-ДАХЫ́ МАНІ́М
АНА́ СІНІ́НЬ РУ́ХЫНА ЯС'І́Н СУ́РЭІ ФАТЫ́ХА-ССАЛЕВА́Т.

## АЛЛАГ ВЕДАЕ УСЁ

Спалар Мустафа меў трох сыноў: Саліма, Мурада і Алі. Вельмі усіх любіў і хацеў, каб выраслі добрымі мусульманамі. Сам Мустафа таксама быў добрым чалавекам. Рабіў усё што мог, каб выканаць запаветы Аллага.

Аднойчы яму захацелася праверыць сваіх сыноў, як яны засвоілі асновы Ісламу. Даў кожнаму з іх па перніку і сказаў: "З"ешце гэтыя пернікі ў такім месцы, дзе б ніхто вас не мог бы убачыць, а калі усё з"ясце — прыдзіце да мяне".

Салім узяў пернік і пайшоў у свой пакой. Зачыніў дзверы з сярэдзіны і з"еў пернік, упэўнены ў тым, што цяпер яго ніхто не мог убачыць за ядой.

Мурад пайшоў у склеп, упэўнены, што яго там ніхто не убачыць і ў зусім цёмным склепе з"еў свой пернік.

Алі доўга думаў пра тое, дзе знайсці такое патаемнае месца, якое нікаму не ведамае і там спакойна з"есці смачны пернік. І не мог знайсці такога месца. Як толькі ён пра якое месца думаў, то адразу ж прыпамінаў сабе, што і там Аллаг яго убачыць, і не мог з"есці пернік.

Салім і Мурад вярнуліся і расказалі бацьку, што зрабілі. Алі вярнуўся і аддаў бацьку пернік, кажучы: "Няма месца, скрытага перад Аллагам, таму я не мог з"есці свой пернік".

Мустафа вельмі ўзрадаваўся таму, што сказаў Алі і параіў Саліму і Мураду, каб мелі навуку з учынку брата. Мовіў так: "Любыя сынochкі, памятайце заўжды, што Аллаг ведае усё і бачыць усё. Ён заўсёды з намі. Ніколі не павінны чыніць нічога благога, нават скрытна".

---

### Хадзіс

Мусульманская вера — гэта шчырасць. Мы спыталі: " У адносінах да каго ? " Ён адказаў: " У адносінах да Аллага, Яго Кнігі ( Кур"ана ), Яго пасланніка, правадыроў мусульманства, і ў адносінах да простых мусульман".

( Хадзіс прыводзіцца у Мусліма )

# НЕБЯСПЕЧНЫ ПРАЦІЎНІК ПРАВАВЕРНЫХ МУСУЛЬМАН

Абдуллаг Аль-Хабашы з роднага горада Харэр у Эфіопіі быў выгнаны 20 гадоў таму за тое, што сеяў смуту сярод мусульман. Ён, відаць, часткова быў вінаваты у тым, што мясцовыя ўлады закрывалі школы, у якіх мусульмане вывучалі Кур"ан ( у гэтай дзяржаве амаль палавіну насельніцтва складаюць мусульмане ). Мусульмане Эфіопіі былі незадаволены дзеяннем Аль-Хабашы і ен пераехаў у Саудаўскую Аравію, але ні там, ні у Сірыі, куды пераехаў пазней, ен быў непажаданым чалавекам. Жыў пры мячэцях на міласціну спагадлівых мусульман. Пазней апынуўся у Ліване.

Абставіны яго з"яўлення і пражывання у Ліване да гэтага часу малавядомы, аднак падтрымка яго некаторымі сіламі з боку замежных арганізацый паказвае, што за Аль-Хабашы і яго групай стаяць сілы, зацікаўленыя ва ўнясенні расколу сярод мусульман-суннітаў.

Абапіраючыся на сумесь розных ідэй і школ старажытнагрэчаскай філасофіі, Аль-Хабашы гавораць аб тым, што Аллаг мае такія ж якасці, як і чалавек, што Кур"ан — гэта не слова Аллага, а слова архангела Джыбрыла ( Джабраіла ), што Аллаг не усёмагутны і т.д. І вось, у Аль-Хабашы паявіліся прыхільнікі і паслядоўнікі, якія пачалі нападаць словам і збройна на прававерных мусульманскіх вучоных. Злабадзённымі сталі у мусульманскіх сем"ях процістаянне дзяцей і бацькоў, абвінавачванне адных і другіх у нявер"і.

Абдуллаг Аль-Хабашы нападае на самых паважаных і вядомых вучоных, якія працуюць на карысць Ісламу, нападае нахабна і са злосцю, нянавісцю, вышуквае у іх дзеяннях памылкі.

Усе мусульмане, якія хочуць застацца на прававерных пазіцыях, павінны ведаць сваіх праціўнікаў. Найлепшай зброяй у барацьбе з гэтымі праціўнікамі — добрае веданне асноў Ісламу, выкладзеных у Кур"ане, у хадзісах прарока Мухаммеда.

---

Хадзіс

Той з вас, хто бачыць злачынства, няхай адхіліць сваей рукой; калі ён не ў стане зрабіць гэта, то сваім голасам ( крыкам ); калі ж ён не ў стане зрабіць і гэта, то асудзіць злачынства хоць у сэрцы — але гэта ужо самая слабая ступень веры.

( Гэты хадзіс прыводзіцца у Мусліма )

# ПЕРШЫ З"ЕЗД МУСУЛЬМАН БЕЛАРУСІ

Адбыуся у Менску 17 джумазіль-авваля 1414 Хіджра
( 1 лістапада 1993 года )

Заслухаушы і абмеркаваушы даклад Прэзідэнта Беларускага аб"яднання татарау-мусульман "Аль-Кітаб" Абу-Бекіра Шабановіча "Праблемы і шляхі нацыянальнага адраджэння беларускіх татарау-мусульман" і выступленне дэлегата з Гродна Алі Крыніцкага па гэтым жа пытанні, з"езд адзначае, што "Аль-Кітаб", яго прауленне і актывісты правялі пэунную работу па адраджэнні традыцый і звычаяу татар у галіне культуры, рэлігіі, абароне сацыяльных правоу мусульман.

Разам з тым з"езд лічыць, што прауленне аб"яднання "Аль-Кітаб" і яго падраздзяленні на месцах яшчэ недастаткова выкарыстоувалі магчымасці для рэлігійнага выхавання моладзі у духу Ісламу, яе больш шырокаму далучэнню да справы адраджэння нацыі, па прыцягненню увагі ісламскай грамадскасці краін Азіі, Афрыкі і Еуропы да пытанняу аднаулення і будауніцтва мячэцяу, да адраджэння і умацавання духу Ісламу сярод найбольш схільнай да яго часткі насельніцтва Беларусі — татар, праяуляюць марудлівасць у справе адраджэння і арганізацыі мусульманскіх абшчын у месцах кампактнага пражывання татар.

З"езд мусульман прыняу пастанауленне і зварот да ісламскіх краін, ісламскіх цэнтрау і арганізацый

## З В А Р О Т

З"езда мусульман Беларусі да ісламскіх краін, ісламскіх цэнтрау і арганізацый

Мусульмане Беларусі, якія сабраліся у Менску 17 джумазіль-авваля 1414 Хіджра ( 1 лістапада 1993 г. ) на свой першы у незалежнай Рэспубліцы Беларусь з"езд для вырашэння актуальных пытанняу адраджэння Ісламу, духоунай і матэрыяльнай культуры татар, лічаць неабходным давесці да ведама народау ісламскіх краін, ісламскіх цэнтрау і арганізацый сваю наступнае:

На Беларусі Іслам падтрымлівауся і перадавауся з пакалення у пакаленне на працягу шасці стагоддзяу з часоу пасялення на гэтых землях татар. Тут будаваліся мячэці, служыліся малебны, вучыліся дзеці чытаць Кур"ан і малітвы, выконваліся законы шарыяту.

У гады таталітарызму ваяўнічы атэізм, які стаў дзяржаўнай палітыкай, прычыніў вялікі урон Ісламу на Беларусі. Многія мячэці былі зачынены, скарыстоўваліся не па прызначэнні, разбураліся. У цяперашні час на 12,5 тыс. татар, што жывуць на тэрыторыі Беларусі, зберагліся і дзейнічаюць дзве мячэці — у гарадскім пасёлку Іўе і у горадзе Навагрудак Гродзенскай вобласці ( апошняя у стадыі аднаўлення ).

З распадам Савецкага Саюза і утварэннем суверэннай Рэспублікі Беларусь, прыняццем яе Парламентам ( Вярхоўным Саветам ) закона аб свабодзе веравызнання, стала магчыма свабодна збірацца, вывучаць Іслам. Перад намі, паслядоўнікамі прарока Мухаммеда, паўстала цяжкая задача адраджэння Іслама. Для гэтага трэба будаваць і адбудоўваць мячэці, мець літаратуру, грашовыя сродкі, людзей, якія ведаюць Іслам, вучыць дзяцей, прыцягваць моладзь, стварацьь джаміяты ( ужо вельмі мала засталося людзей, якія калісьці вучыліся на святароў, умеюць чытаць Кур"ан, выконваць усе мусульманскія абрады ).

Рэспубліка Беларусь перажывае у сучасны момант вельмі цяжкі у эканамічным плане час, і дзяржава не можа аказаць істотную дапамогу сваім грамадзянам у вырашэнні праблемы па будаўніцтву мячэцяў, выдзяленні памяшканняў для культурных цэнтраў, правядзення з"ездаў, канферэнцый і г.д.

З"езд мусульман Беларусі звяртаецца з просьбай да народаў мусульманскіх краін, ісламскіх цэнтраў і арганізацый, асобных грамадзян, якія спачуваюць справе Іслама, аказаць дапамогу мусульманам Беларусі у аднаўленні і будаўніцтве мячэцяў ці малітоўных дамоў у Менску, Гродна, Навагрудку, Лоўчыцах, Слоніме, Клецку, Смілавічах, культурных цэнтраў у Менску, Гродна, Іўе, Навагрудку; у навучанні дзяцей Іслама за мяжой; у забеспячэнні літаратурай; у арганізацыі лагераў ( мухайемаў ) для моладзі з навучаннем Іслама; у падтрымцы інвалідаў, нямоглых і гаротных.

Дапамогу і ахвяраванні просім накіроўваць на рублёвы разліковы рахунак Мусульманскай рэлігійнай абшчыны у г.Менску № 701902 у Менскбізнесбанку ( код банка 153001739 ) ці валютны рахунак 201070555 у Менскбізнесбанку.

З мэтай строгага уліку дапамогі, якая паступае, і расходаванне фінансавых сродкаў, атрымання сапраўднай інфармацыі аб стане спраў у адраджэнні Іслама на Беларусі просім падтрымліваць кантакты толькі з асобамі, якія маюць на тое паўнамоцтвы ад праўлення Беларускага аб"яднання татараў-мусульман "Аль-Кітаб".

## ТРЭБА СТВАРЫЦЬ МУСУЛЬМАНСКІ ІНФАРМАЦЫЙНЫ ЦЭНТР

Чалавек заўсёды клапаціўся пра тое, каб мець ежу, жыллё, вопратку і абутак, неабходны ў краінах з халодным кліматам. Цяпер жа да гэтых найважнейшых перадумоў жыцця трэба дадаць і патрэбнасць у інфармацыі. Быць паінфармаваным вельмі важна для нашых татар-мусульман, бо жывём мы распрушана на вялікай тэрыторыі, нават у межах такога вялікага горада як Менск.

Для адраджэння нашага народа трэба мець інфармацыю пра кожную татарку, пра кожнага татарына ( зусім дабравольна, толькі калі ў чалавека ёсць жаданне даць звесткі пра сябе ).

Звесткі будуць збірацца пра татар, якія дасягнулі ўзросту 14 год і больш. Звесткі будуць карыснымі для "Клуба знаёмстваў", службы занятасці, аказання бытавых паслуг насельніцтву, аказання маральнай і матэрыяльнай дапамогі, службы кл[...]пату і кантролю за здароўем і аздараўленнем дзяцей дашкольнага і школьнага ўзросту ў межах Беларусі, а пры паяўленні магчымасці і за мяжой.

Для гэтай працы неабходна запрасіць маладых ініцыятыўных людзей, якія ад чыстага сэрца жадаюць хоць нешта змяніць у гэтым жыцці, прынесці хоць крыху карысці людзям, праявіць міласэрнасць і аказацца там, дзе іх чакаюць.

Нам хацелася б, каб на месцах пражывання татар ствараліся невялікія ячэйкі з 3 -- 5 чалавек ( уласныя карэспандэнты ) якія б паведамлялі нам пра найбольш важныя падзеі сваіх мусульманскіх абшчын, пра свае праблемы і радасці, стваралі мясцовы летапіс. Найбольш цікавыя матэрыялы будуць надрукаваны ў квартальніку "Байрам".

Спачатку будуць пасланы ў вялікія джаміяты ( абшчыны ) анкеты з лістом, дзе будзе ра[с]тлумачана канкрэтна тое, што найбольш цікава і што паслужыць для абагульнення атрыманых дадзеных. Анкеты запаўняць у вольнай форме ( як чалавек гаворыць, так і піша ). Было б вельмі карысна, каб Вы рабілі Вашы прапановы па форме, па стылю работы мусульманскага інфармацыйнага цэнтра.

Будуць узяты на ўлік людзі, якія маюць будаўнічыя спецыяльнасці. У далейшым на будаўніцтва мячэці ў Менску і іншых гарадах будуць запрошаны мусульмане-будаўнікі.

Усю інфармацыю і паштовую карэспандэнцыю накіроўвайце на адр[ас] : 220104, г.Минск, а/я 206, И.М.Вороновичу.

# А р а к а н

## П а в а ж а н ы  ч ы т а ч !

З дня на дзень усе мацней баляць раны мусульманскай абшчыны, кожны дзень мы бачым новыя прыцясненні мусульман. Тут мы раскажам пра трагедыю мусульманскай вобласці Аракан, аб былой і сучаснай гэтай драме.

Аракан — гэта не імя, не проста слова, не забытая планета у Сусвеце. Аракан — гэта адна з нацый мусульман, чыя Бацькаўшчына, правы і годнасць растаптаны будыйска-фашысцка-камуністычным рэжымам Бірмы. Камісія па правах чалавека, Арганізацыя Аб"яднаных Нацый і Савет Бяспекі толькі час ад часу разглядаюць гэтую праблему, але не звяртаюць на яе належнай увагі.

Г е а г р а ф і ч н а е  с т а н о в і ш ч а . Вобласць Аракан размешчана на паўднёвым захадзе Бірмы ( М"янмы ). Яе абмываюць воды Бенгальскага заліва, яна мяжуе з дзяржавамі Бангладэш, Індыя. Горны хрыбет Ракхайн аддзяляе яе ад уласна будыйскай Бірмы, якая на працягу стагоддзяў прыгнятае мусульманскае насельніцтва Аракана. Па афіцыйных звестках плошча вобласці Аракан складае 36,7 тыс. кв. км. Аднак у мінулыя часы плошча вобласці была у 4 разы большая !

Н а с е л ь н і ц т в а дасягае амаль 4 млн. чалавек. Доля мусульман каля 70 %. Тут жывуць таксама будысты, хрысціяне і язычнікі.

А д м і н і с т р а ц ы й н ы  ц э н т р — Акяб ( Сітуэ ). У горадзе сучасны аэрапорт, адміністрацыйныя ўстановы, базы узброеных сіл для падаўлення мусульманскага насельніцтва.

### Гістарычны і палітычны агляд

Мусульман Аракана называюць "ракхайнамі". Гэтая назва паходзіць ад старадаўняй арабскай назвы Аракана — Ракхайн. Упершыню жыхары Аракана пазнаёміліся з Ісламам у першым стагоддзі пасля Хіджры ( 8 ст. еўрапейскага летазлічэння ). Менавіта у гэты час першыя арабскія купцы-мусульмане дасягнулі Аракана. У наступныя стагоддзі пашырэнне Ісламу працягвалася. Першая ісламская дзяржава узнікла на тэрыторыі Аракана у 1430 годзе і праіснавала даволі працяглы прамежак часу.

За 350 гадоў змяніліся 47 ісламскіх правіцеляў Аракана. Ісламскія дынасты і правілі да 1784 года, калі вобласць была захоплена будыйскім бірманскім войскам. У 1824 годзе Аракан становіцца брытанскай калоніяй у складзе Індыі.

У 1948 годзе Бірма атрымала незалежнасць. Нягледзячы на супрацiўленне мусульманскага насельніцтва вобласці, брытанскія імперыялісты, пакідаючы калонію, далучылі Аракан да будыйскай Бірмы. З гэтага часу мусульмане падвяргаюцца ганенню, а будыйскія ўлады Бірмы чыняць над імі гвалт. У далейшым становішча мусульман яшчэ пагоршылася. З прыходам да ўлады ў Бірме вайсковых на чале з генералам Не Вінам у 1962 годзе, становішча мусульман стала крытычным. Пры сучасным рэжыме генерала Самунга жыццё мусульман Аракана стала немагчымым.. Урад Бірмы праводзіць падрыхтаваную і сплянаваную палітыку, накіраваную на генацыд супроць мусульман і выгнанне іх з Аракана, каб ператварыць вобласць у аднаканфесійную будыйскую правінцыю.

## Праблема мусульман-ракхайнаў, якія жывуць у Аракане

Мусульмане, якія жывуць у Аракане, церпяць жорсткія ганенні і прыцясненні з боку бірманскага ўрада і бірманскіх вайскоўцаў. Ніжэй прыведзены прыклады бязмежных рэпрэсій, пад пагрозай якіх мусульмане павінны пакідаць сваю Бацькаўшчыну і ўцякаць у Бангла - дэш, суседнія дзяржавы, якія самі знаходзяцца на мяжы галечы.

1. Новы закон аб грамадзянстве і месцы пражывання, які прыняты ў Аракане ў 1982 годзе, пазбаўляе мусульман-ракхайнаў права пражываць у Аракане.

2. Мусульмане пазбаўлены права перамяшчэння, як унутры краіны, так і за яе межамі.

3. Арышты і забойствы, лютасць, з якой адносяцца да бязвінных мусульман у канцэнтрацыйных лагерах падобны да тых, што вяршылі германскія фашысты на акупаванай тэрыторыі СССР у час Другой сусветнай вайны.

4. Прымусовая мабілізацыя мусульман на цяжкія работы без якой-небудзь кампенсацыі ( будаўніцтва дарог), забеспячэнне бірманскай арміі ў цяжкадаступных горных раёнах, вайсковы пастой ( г.зн. забеспячэнне жыллём і ежай салдат без якой-небудзь аплаты ).

5. Высылка мусульман, пазбаўленне даху над галавой без магчымасці

знайсці які-небудзь прытулак, у той час, як у дамы і фермы, што належалі мусульманам, усяляюцца будыйскія сем"і.

6. Канфіскацыя вакуфаў і вакуфнай зямлі — калектыўнай уласнасці абшчын.

7. Канфіскацыя сродкаў вытворчасці і сельскагаспадарчых прылад у мусульман. Забарона ўвазіць харчовыя тавары прыводзіць да таго, што ў правінцыі не хапае сродкаў харчавання і мусульмане галадаюць.

8. Мусульманам забаронена займацца гандлем.

9. У мусульман няма ніякай магчымасці ўладкавацца на дзяржаўную службу. Тыя нямногія мусульмане, якія раней працавалі ў дзяржаўным апараце, былі вымушаны падаць у адстаўку.

10. Перад мусульманамі стаяць непераадольныя цяжкасці пры паступленні ва універсітэты і сярэднія спецыяльныя школы. Што датычыцца рэлігійных навучальных устаноў, то яны знаходзяцца ў такім стане, што выкананне ўскладзеных на іх задач немагчыма. Гэта тлумачыцца рознымі прычынамі: а) адсталасць метадаў навучання; б) школы не падрыхтаваны для заняткаў; в) нястача фінансавых сродкаў; г) нястача падручнікаў і паперы.

11. Разбурэнне мячэцяў і мусульманскіх школ, апаганенне мусульманскіх святынь.

12. У раёнах, дзе пражываюць мусульмане, часта праводзяць аблавы і вобыскі.

13. Гвалт над мусульманамі, знявага старых.

14. Распальванне кроўнай кланавай і племянной варожасці супроць мусульман.

15. Безупыннае разбурэнне мусульманскай культуры.

Да ўсяго гэтага трэба дадаць, што рэпрэсіі і тэрор, распачатыя супроць мусульманскага насельніцтва, узмацніліся апошні час. Усё гэта выклікае рэзкае павелічэнне колькасці бежанцаў сярод мусульман-ракхайнаў. У студзені 1992 года больш за 100 тысяч мусульман было вымушана пакінуць Бацькаўшчыну і выехаць у Бангладэш.

## Праблемы мусульман-ракхайнаў, якія пражываюць за межамі Аракана

У Бангладэш і іншых суседніх краінах, куды вымушаны былі вые - хаць бежанцы-мусульмане, яны сутыкнуліся з сур"ёзнымі цяжкасцямі, сярод якіх: а) праблема жылля; б) праблема харчавання; в) вельмі нізкі ўзровень медыцынскага абслугоўвання і недахоп лекаў; г) праблема навучання дзяцей мусульман; д) яўны недахоп увагі і дапамогі з боку міжнародных і праваахоўных арганізацый.

## Уся ўлада належыць будыстам

Уся ўлада ў правінцыі сканцэнтравана ў руках людзей, якія вызнаюць будызм. Мусульмане выкінуты з дзяржаўных пасад. Для іх немагчыма служба ва ўзброеных сілах і ў апараце кіравання. Мусульмане пазбаўлены свабоды перамяшчэння. Такім чынам, Аракан аказаўся адгароджаным ад навакольнага свету. Была ўстаноўлена поўная ін - фармацыйная блакада з боку будыйскай Бірмы. У выніку такой сітуацыі мусульманскі народ Аракана аказаўся адрэзаным ад астатніх народаў. Сусветная грамадскасць нічога не ведае пра трагедыю мусульман-ракхайнаў. Аракан аказаўся адрэзаным ад сваіх братоў-мусульман усяго свету.

Аракан — зона зачыненая для наведвання, усе звесткі пра сацыяльна-эканамічнае становішча мусульман, пра сітуацыю ў галіне культуры і аховы здароўя даводзяцца да ведама бірманскага кіраў - ніцтва і становяцца дзяржаўнай тайнай. Рэжым замоўчвае і скажае факты ў прапагандысцкіх мэтах. Асноўная задача урадавых колаў Бірмы — не дапусціць, каб аб"ектыўная інфармацыя пра зверствы ў Аракане сталі вядомы сусветнай грамадскасці.

## Грубае парушэнне права свабоды веравызнання

Пазіцыя будыйскага ўрада па пытаннях веравызнання забараняе мусульманам наведванне мячэцяў. Даходзіць да таго, што мусульманам забараняюць выходзіць са сваіх хат. Бірманскі урад не дазволіў ні аднаму бірманскаму грамадзяніну звяршыць хадж. З прыходам да улады генерала Не Віна ў 1962 годзе ў сацыялістычнай Бірме Іслам быў абвешчаны галоўным ворагам дзяржавы. Малалетніх мусульманскіх дзяцей адбіраюць і памяшчаюць у прытулкі і выхоўваюць камуністамі. Гэтыя дзеці ўжо не маюць ні самасвядомасці, ні веры ў Аллага. Улады Бірмы, праводзячы падобныя акцыі, імкнуцца абмежаваць пашырэнне Ісламу.

# ГІСТОРЫЯ ДЗЯРЖАВЫ ІДЭЛЬ-УРАЛ
( п р а ц я г )
## І д э л ь - У р а л п а д р у с к і м і г а м

### Першы раздзел — Змаганне за самастойнасць

У 1552 годзе 15-га кастрычніка ( па новаму стылю ) пасля крывавай бітвы, хоць Казань пераходзіць у рукі рускіх, але цюрка-татары ( чаму цюрка-татары — аб гэтым пасля ), арганізаваўшы шматлікія партызанскія атрады, перашкаджаюць арміі Івана Жахлівага рухацца углыб краіны і не даюць ей спакоэ у самой Казані, нападаючы на горад і знішчаючы асобныя атрады рускіх, якія спрабавалі выйсці з крэпасці.

У 1553 годзе за 60 вёрст ад Казані, пры упадзенні ракі Меша у Волгу, цюрка-татарамі была узведзена крэпасць "Меша-Тамак", якая была узята рускімі праз 4 гады пасля пабудовы. Цюрка-татары пасля страты крэпасці працягваюць барацьбу, адначасова звяртаюцца за дапамогай да турэцкага султана, крымскага хана і да нагайскай арды, але ніякай рэальнай дапамогі не атрымліваюць ні з Турцыі, ні з Крыма, а нагайцы, якія прыйшлі на дапамогу, заняліся грабежніцтвам, тым самым дапамагаючы ворагам. Цюрка-татары павінны былі весці вайну на двух франтах. Уся другая палова 16-га стагоддзя поўная крывавых падзей.

Як толькі пала Казань, рускія пачалі уводзіць маскоўскія парадкі і умацоўваць крэпасць. Частка цюрка-татарскага насельніцтва, якое выратавалася ад знішчэння, пагрому і палону, была выгнана з Казані. Уладамі былу прызначаны намеснік з памочнікамі, а у 1555 годзе была створана епархія з епіскапам Гурнем на чале, надзеленым і шырокімі свецкімі паўнамоцтвамі. Пачалася хрысціянізацыя мусульманскага насельніцтва, разбурэнне мячэцяу і пабудова на іх месцы цэркваў і манастыроў. Адначасова з гэтым пачалася руская каланізацыя, прычым у першую чаргу з самой Казані. Усе палацы, дамы, землі, пакінутыя ранейшымі гаспадарамі, былі раздадзены рускім. Выключэннем была невялікая група мурзаў маскоўскай арыентацыі, якая на некаторы час не падвяргалася рэпрэсіям. Наколькі жорсткімі і няшчадными былі пераможцы у адносінах да заваяваных, бачна з таго, што да гэтай пары ( да

20-га ст. — заувага рэд. ) няма ніводнай цюрка-татарскай вёскі на адлегласці 30 верст ад Казані.

Каланізацыя адбывалася хуткім тэмпам. Частка рускіх сялян прыйшла па прымусу Масквы, гэта значыць была гвалтоўна пераселена, а другая частка складалася з збеглых прыгонных, якія на гэтай новай "землі казанскай" атрымалі 10-гадовую волю. Разам з рускімі сялянамі прыходзіла на зямлю "паганых бусурманаў" вялікая колькасць праваслаўнага духавенства ( як белае, так і чорнае ), якое далёка было ад "непраціўлення злу", са зброяй у руках устанаўлівала праваслаўе. Па ініцыятыве архіепіскапа Гермагена у 1593 годзе быў абвешчаны указ цара Федара Іванавіча аб тым, што мячэці і школы пры іх у заваяваных землях павінны быць разбураны ("мечети же татарские все пометати и татарам мечети одноличво не ставити и конечно татарские известт" ). Вядома, такая палітыка не магла супакоіць насельніцтва заваяванага краю, а таму у час смуты ( канец дынастыі Рурыкавічаў — пачатак дынастыі Раманавых ) ёсць момант, калі магчыма было вызваліцца з няволі. Цюрка-татары у гэты час уступаюць у кантакт з палякамі і імкнуцца вярнуць сваю самастойнасць. Казанскае ханства фактычна аддзяляецца ад Масквы, прычым Казань, як сталіца ханства, у 1612 годзе вяртае сваю самастойнасць.

На жаль, справы Ілжэ-Дзмітрыя, з якім цюрка-татары трымалі адзіны фронт, правальіліся у час канца смуты у Маскве. У выніку цюрка-татары зноў пацярпелі паражэнне. Упартае змаганне цюрка-татар і імкненне іх да самастойнасці давалі Маскве, што заваяваны край утрымаць толькі збройнай сілай немагчыма. Вось чаму на Земскі сабор 1613 года былі запрошаны і прадстаўнікі казанцаў, якімі на маскоўскі трон вылучаецца кандыдатура некалькіх прынцаў з роду казанскіх ханаў. У зацверджанай саборам грамаце знаходзіцца 7 подпісаў казанскіх князёў і мурзаў, якія падпісаліся ад імя Казанскага ханства, якое уваходзіла у склад Маскоўскай дзяржавы. Масква імкнецца прыцягнуць на свой бок мурзаў і князёў.

Усе усходнія справы Масквы вяліся пры дапамозе цюрка-татар. Цюрка-татарскія генералы камандуюць рускімі войскамі і, як служылыя людзі, атрымліваюць узнагароды маёнткамі і прыгоннымі ся-

лянамі. Цюрка-татары свядома імкнуцца выкарыстаць гэтую магчымасць і стараюцца захапіць у свае рукі камандныя вяршыні. Дзякуючы таму за кароткі прамежак часу у самой Расіі ствараецца значны па колькасці і моцны клас багатых цюрка-татарскіх мурзау і памешчыкау.

Масква, пабойваючыся, імкнецца аслабіць гэты клас і з гэтаю мэтаю у 1628 годзе абвяшчае указ, які забараняе памешчыкам-мусульманам валодаць прыгоннымі-хрысціянамі. А у 1648 годзе гэты указ быу паутораны у яшчэ больш энергічных выразах з дадаткам, што памешчыкам-мусульманам, якія пераходзяць у хрысціянства, пакідаюцца іх маенткі з прыгоннымі-хрысціянамі. Шматлікія баяры ( цюркскае бай ір — знатны чалавек ) з цюрка-мангольскімі прозвішчамі сталі паяуляцца менавіта пасля гэтага указа.

Такая палітыка Масквы не магла уціхамірыць край і прымірыць яго — наадварот, яна яшчэ больш узмацніла варожасць і, калі пачалося паустанне Сцяпана Разіна, то усё цюрка-татарскае насельніцтва было на баку паустанцау. Пры штабе Разіна былі цюрка-татары ( напрыклад, Асан Бікбулатау ), якія ад імя Сцяпана Разіна пісалі лісты на цюрка-татарскай мове, заклікалі казанцау далучацца да Разіна і "быць заадно" супроць Масквы. Вось чаму, калі князь Баратынскі ішоу з карным атрадам на выручку акружанага паустанцамі Сімбірска, то яму прышлося удзельнічаць у чатырох сур"ёзных баях каля вусця ракі Казанкі з цюрка-татарамі. Прычым з рапарты гэтага князя відно, што "татары, которые в рейтарах и сотнях худы и немощены, с первого боя утекли, а начальные люди в полк ко мне не бывали и живут по деревням".

Каланізатарская і клерыкальная палітыка Маскоускай дзяржавы настроіла супроць сябе не толькі цюрка-татар, але і былых да гэтага часу лаяльнымі фінскія плямёны ( марыйцы, мардва, удмурты і інш. ), якія далучыліся да цюрка-татар "былі заадно" з Разіным.

Гвалтоунае адабранне зямельных угоддзяу у мурзау і памешчыкау-мусульман выклікала новы грамадскі элемент — гандляроу-шляхту, якія атрымалі назву: "служилые торговые татары".

У краіне, дзе гвалт і тэрор змяняліся паустаннямі і барацьбой за самастойнасць, не магло быць і мовы пра нармальнае эканамічнае, а тым больш культурнае развіцце. Да гэтага трэба дадаць

ямчэ і тое, што пажары 1672 і 1694 г. у Казані знішчылі увесь горад і ён, пабудаваны рукамі цюрка-татарау, страціу свой нацыянальны характар. У агні загінулі не толькі ацалелыя пасля разгрому і вынішчэння людзей дамы, навучальныя установы, бібліятэкі і г.д., але і многія дакументы гісторыі. У наш час цяжка узнавіць поўную карціну старажытнай, культурнай цюрка-татарскай Казані.

Вось пры якіх цяжкіх абставінах для цюрка-татар прайшло 17-е стагоддзе. Нічога добрага не абяцала і 18-е стагоддзе.

18-е стагоддзе пачалося рэпрэсіямі "прагрэсіунага" Пятра І-га, накіраванымі на абязлічванне цюрка-татар на нацыянальным і рэлігійным, так і на эканамічным фронце. Найбольшага развіцця гэтыя імкненні рускай палітыкі дасягнулі у час Елізаветы Пятроуны, калі дзейнічала Новахрышчэнская кантора, якая мела нават узброеныя атрады. "Новахрышчэнская кантора чыніла вялікія гвалты над мясцовымі жыхарамі " ( Вараб"ёу. Матэрыялы культуры казанскіх татар. С.31 ).

І сапраўды: разбураны былі сотні мячэцяу, сурова каралі мусульманскіх святарау і пад рознымі зачэпкамі адбіралі землі у цюрка-татарскіх весак, каб потым перадаць іх рускім каланістам і манастырам. Прычым, каб канчаткова вытравіць сярод татар ідэю самастойнасці. была сцерта нават бачнасць Казанскага ханства, якое да гэтай пары упраўлялася асобным намеснікам і падпарадкоувалася спецыяльнаму "Казанскаму прыказу" у Маскве. У час арганізацыі губерняу, пры Пятры І-м Масква "скарыстала момант" і утварыла Казанскую губерню, назначыла губернатара. Такім чынам, край, які да гэтага афіцыйна называуся "Казанскім ханствам", стау называцца "Казанскай губерняй". На гэтае дзеянне урада цюрка-татары адказалі паустаннем. У 1708 годзе паустанцы, разбіуши урадавыя войскі, наблізіліся да Казані і захапілі яе. З данясення казанскай адміністрацыі таго часу вядома, што усе "инородческое" сялянства далучылася да паустанцау. Такім чынам цюрка-татарам удаецца аднавіць самастойнасць Казанскага ханства, хоць ненадоуга. Пётр І-ы хутка арганізавау вялікае войска і вярнуу сабе Казань. Адчуваючы нескаронасць казанцау, ён бесчалавечна стау выкарыстоувць драконаускія законы да нерускага насельніцтва а у асаблівасці, да цюрка-татар, як у самой Расіі, так і у занятых рускім войскам абласцях.

Указам 1713 года Пётр I-ы адмяніў прывілеі "татарскіх служылых людзей", пры гэтым ва ўказе гаворыцца наступнае: "Вялікі гасудар указаў у Казанскай і Азоўскай губерні басурманам магаметанскай веры, якія маюць маёнткі і вотчыны, і прыгонных, і дзелавых людзей хрысціянскай веры, сказаць ... каб яны, бусурмане, хрысціліся на працягу паўгода, а як прымуць хрэст, і тымі маёнткамі і вотчынамі валодаюць ім па-ранейшаму, а калі яны за паўгода не ахрысціцца, то і маёнткі і вотчыны, з людзьмі і сялянамі узяць і адпісаць на яго вялікага гасудара і без указа нікому не аддаваць". Аднак гэты ўказ не дасягнуў сваёй мэты: мясцовая адміністрацыя паведамляла, што жадаючых ахрысціцца было мала. Адмоўны ж вынік указа быў вельмі значны. Але урад, нягледзячы на гэта, працягваў сваю палітыку. Так, указам 30 студзеня 1718 года усе мурзы і служылыя "инородцы" ад 15 да 60 гадоў былі прыпісаны у асобны клас — "приписанних к корабельним рабочим". Яны лічыліся за Адміралцейскай канторай і на прымусовай рабоце па рубцы і трялёўцы лесу для пабудовы караблёў.

Новаутвораны клас уяўляў сабою новы від прыгонных. Гэта катаржная праца была настолькі цяжкой, што прыпісаныя або, як іх называлі у народзе, лашманы цэлы век змагаліся за сваё вызваленне. Далей, указам 19 студзеня 1722 г. хлопчыкі цюрка-татары ад 10 — 12 гадоў былі прыцягнуты да вайсковай службы ( называліся яны кантаністамі ). У 1731 г. быў абвешчаны новы указ, у якім сказана, што " за новокрещен ( тыя татары-мусульмане, якія прынялі хрысціянскую веру — заўвага рэд. ) всякие подати и сборы править с некрещен не с одних только тех, в коих уездах будут воспринявшие веру православную, но и всей Казанской губернии, на оных оставшихся в неверии раскладывая взыскать".

Акрамя гэтага, тых, хто ахрысціўся, вызвалялі ад рэкрутчыны, а узамен таго бралі у рэкруты тых, хто заставаўся пры рэлігіі бацькоў. На гэтыя рэпрэсіі урада цюрка-татары адказалі паўстаннямі, якія вядомы у гісторыі пад назвамі Ільмяк-абз ( 1735 ) і Кара Сакала ( 1739 ). Паўстанні гэтыя былі жорстка задушаны. Ганенне і прыцясненне цюрка-татараў прадаўжвалася з падвоенай сілай. Цяжкія дні цюрка-татар настаді з адкрыццём "Новокрещенконторы" у эпоху "благочестивой дщери Великого Петра".

( п р а ц я г б у д з е )

## ДА ПЫТАННЯ УДЗЕЛУ ТАТАР У ПАРТЫЗАНСКІМ РУХУ НА БЕЛАРУСІ У ГАДЫ ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ

Агульнавядома, што у беларускай гісторыяграфіі значнае месца займаюць праблемы падзей Вялікай Айчыннай вайны. У апошнія два дзесяцігоддзі беларускімі гісторыкамі падрыхтавана шэраг прац абагульняючага характару, у якіх раскрыты розныя бакі барацьбы народа супроць нямецка-фашысцкіх захопнікау.

На мой погляд, недастаткова распрацаваным з"яуляецца пытанне удзелу у барацьбе з ворагамі розных нацыянальных груп насельніцтва, якое спрадвечна жыло на Беларусі, а таксама тых, хто па розных прычынах аказауся у час вайны на акупаванай тэрыторыі.

З майго боку было б некарэктным гаварыць, што нацыянальны склад партызан не разглядауся. Падлічана і апублікавана ( Беларусь у Вялікай Айчыннай вайне 1941 — 1945. Энцыклапедыя. Мн., 1990. С.16 ), што сярод партызан на Беларусі былі беларусы — 71,19 %, рускія — 19,89 %, украінцы 3,89 %. Далей без лічбавых паказчыкау называюць літоуцау, латышоу, грузін, казахау, армян, узбекау, азербайджанцау, малдаван. Паказана, колькі сярод партызан было прадстаунікоу замежных дзяржау: палякау 3 тыс., славакау і чэхау 400, югаславау 235, венграу 70, французау 60, бельгійцау 31, аустрыйцау 24, галандцау 16, немцау каля 100.

У манаграфіях, асобных артыкулах, у мемуарах удзельнікау партызанскага руху і падполля называюць удзельнікау многіх народау СССР і замежных краін, якія змагаліся супроць фашызму.

Вайна аднолькавай бядой адгукнулася для усіх людзей Савецкага Саюза. Беларусы, рускія, украінцы, палякі, яурэі, казахі, грузіны, татары — прадстаунікі больш за 70 нацыянальнасцей змагаліся у радах беларускіх партызан. Так, у партызанскім атрадзе "Іскра", які дзейнічау у Мінскай вобласці, было 26 прадстаунікоу розных народау. У брыгадзе імя М.В.Фрунзе, дыслацыраванай у Беластоцкай вобласці, на дзень злучэння з Чырвонай Арміяй налічвалася: 307 беларусау, 137 рускіх, 49 украінцау, 37 яурэяу, 8 палякау, 2 татарына. Асноуную масу партызан складалі мясцовыя жыхары, частка прыходзіла з акружэнцау і уцекачоу з палону, некаторыя былі з службоуцау акупацыйнай адміністрацыі. Напрыклад, у брыга-

дзе імя В.М.Молатава, якая дзейнічала у Баранавіцкай вобласці, 387 партызан былі жыхарамі Беларусі, 71 уцяклі з палону, 6 акружэнцау, 14 перайшлі з нямецкіх акупацыйных адміністрацыйных устаноу.

Як відаць, склад беларускіх партызанскіх фарміраванняу быу даволі стракаты. Кожны прадстаунік свайго народа, апынууўшыся у складзе беларускіх партызан, імкнууся змагацца супроць адзінага ворага — германскага фашызму.

Замацаваны ідэалагічны пастулат, што у СССР утварылася новая гістарычная супольнасць — савецкі народ, не стымуляваў працу даследчыкау на вывучэнне праблем нацыянальных узаемаадносін на розных гістарычных этапах. Разам з тым, неабходна падкрэсліць, што усякая акцэнтацыя, тым больш проціпастауленне адной нацыянальнай групы людзей другой, як і замоучванне, — навукова няправільна і шкодна у сацыяльна-палітычным развіцці грамадства. Аб гэтым яскрава сведчаць падзеі у многіх рэгіёнах былога Савецкага Саюза. Гістарычныя урокі павінны дапамагаць пазбегнуць памылак, рабіць неабходныя вывады у будаунііцтве нацыянальных адносін паміж людзьмі, а не падбухторваць народы да супрацьстаяння і вайны.

Яскравым прыкладам узаемадзеяння людзей розных нацыянальнасцей быу партызанскі рух, дзе не было міжнацыянальных супярэчнасцей. Вывучэнне падзей Вялікай Айчыннай вайны, узаемаадносін паміж людзьмі у гэты складаны час, на нашу думку, павінна садзейнічаць узаемаразуменню паміж рознымі нацыянальнасцямі.

У гады вайны татарскі народ, як і іншыя прадстаунікі народау СССР, самаахвярна змагауся супроць германскіх агрэсарау. Аб гэтым пераканауча сведчыць той факт, што сярод Героеу Савецкага Саюза — 161 татарын. Прадстаунікі татарскага народа не толькі мужна змагаліся на франтах вайны, але і у падполлі і у партызанах. У працэсе падрыхтоукі гэтага артыкула я вывучыу архіуныя дакументы пяці партызанскіх брыгад, якія у першай палавіне 1944 г. дзейнічалі на тэрыторыі Баранавіцкай, Беластоцкай і Брэсцкай абласцей. Дакументальныя крыніцы сведчаць, што у брыгадзе імя В.П.Чкалава змагаліся татары: Разяпау Петр Абзэравіч, Ахмадулін Якау Аляксеевіч, Сабрыеу Гелтымі Сабрыевіч, Цітырбаеу Нагай, Быкава Ганна Барысауна, Кінжаметау Куджай, Муха Адам Мустафавіч, Валееу Хан Валеевіч. У брыгадзе імя І.В.Сталіна змагалі -

ся:Яладзінау Аляксандр, Хаткевіч Даулет Султанау, Кабірау Ісмаіл Ідрысавіч, Калямау Міхаіл Міхайлавіч, Найгубекау Тагір Ісмаілавіч. У брыгадзе А.Неускага ваявалі Салікау Іван Ільіч, Валетау Садзік Абсаліхавіч, Хубееу Ібрагім Ахацьевіч, Сафу Ібрагім Маметавіч. У брыгадзе імя Ул.І.Леніна змагаліся Кадырау Сібатула, Абдулаліеу, Галімау Ахмед Мітра, Дзенікоеу Канстанцін Я...імавіч, Закірау Міхаіл Захаравіч, Гусманау Самот, Пхмене..., Гайфудзінау Сальфі Канстанцінау, Бікошау Науджан Фазілевіч.

Даволі шырокай прадстаулена геаграфія гэтых людзей. З 26 татар-партызан 5 чалавек з'яуляюцца жыхарамі Беларусі. Муха Алам і Бікава Ганна да вайны жылі у Менску, Даулет Султанау Хаткевіч у вёсцы Касцевічы Радашковіцкага раена. Ісмаіл Кабірау у вёсцы Каменічкова Іуянецкага раена. Аляксандр Яладзінау з вёскі Павуцце Дзяржынскага раена. Астатнія былі ураджэнцамі розных рэгіенау Савецкага Саюза Так Кінжаметау быу родам з Керчы, Саорыеу з Казані, Шішымбаеу і Разепау з Башкірыі, Валееу з Казахстана.

Розным быу сацыяльны склад татар-партызан. Асноуную частку складалі рабочыя і калгаснікі. Да прызыву у Чырвоную Армію працавалі настаунікамі Дзенікоеу і Валееу.

Дакументы паказваюць, што шлях у партызаны быу дастаткова складаным. Да пачатку вайны 21 чалавек знаходзіліся у радах Чырвонай Арміі на тэрыторыі Беларусі. У першыя месяцы вайны многія апынуліся у нямецкім палоне, частка трапіла у акружэнне і асела у населеных пунктах. Так, партызан атрада "За Савецкую Радзіму" брыгады імя В.П.Чкалава Ахмадулін Я.А. да пачатку вайны быу сяржантам 121 АТБ. У ліпені 1941 г. уступіу у партызаны. У снежні 1942 г. сталі партызанамі былы танкіст Яладзінау А. радавым Хаткевіч Д. і Найгубекау Т. У розны час 1943 г. партызанамі раней названых брыгад сталі 17 чалавек і 5 чалавек у 1944 годзе.

Прыведзеныя прыклады паказваюць, што, па-першае, савецкія воіны-татары, якія апынуліся на акупаванай тэрыторыі, засталіся вернымі воінскай клятве і са зброяй у руках набліжалі час вызвалення беларускай зямлі. Па-другое, — дакументальныя крыніцы сведчаць, што у час суровага выпрабавання у шэрагах беларускіх партызан не існавала праблем міжнацыянальнага супрацьстаяння.

беларусы, рускія, украінцы, яурэі, татары , людзі іншых нацыянальнасцей былі аб"яднаны адзінай ідэяй — барацьба з ворагам. Разам ішлі у атаку, грамілі апорныя пункты акупантау, ахвяруючы свае жыцці за свабоду і незалежнасць Радзімы і перамаглі.

Па-трэцяе, — вывучэнне невялікай колькасці архіуных крыніц ( 5 з 213 брыгад і 258 асобных атрадау ) дае падставу гаварыць, што на гэтым шляху даследчыкау чакаюць новыя адкрыцці. Патрэбна глыбокае, мэтанакіраванае даследаванне удзелу татар у партызанскім руху на захопленай ворагам тэрыторыі Беларусі, якое дасць больш поуную і аб"ектыуную карціну развіцця партызанскай барацьбы на беларускай зямлі.

Архіуныя дакументы даюць права сцвярджаць, што прадстаунікі татарскага народа карысталіся аутарытэтам і павагай сярод партызан. Некаторыя з іх займалі камандныя пасады. Камуніст К.Дзенікоеу быу камандзірам аддзялення, камсамолец А.Цхменау быу камандзірам дыверсійнай групы. За мужнасць і адвагу у барацьбе з ворагам былі прадстаулены да узнагароды Даулет Султанау, Хаткевіч, Абдулаліеу, Цхменау.

Не усе дажылі да вызвалення Беларусі. Выконваючы баявое заданне загінуу партызан Я.А.Ахмадулін. Чытаем скупыя радкі архіуных дакументау: "Ахмадулін Якау Аляксеевіч, народжаны у Марыйскай АССР Парамонінскага раёна Тасіта-Арлоускага сельсавета у вёсцы Тасіта-Арлоука. Загінуу у няроуным баі у вёсцы Строчицы Мінскага раёна 28 снежня 1943 г. Пахаваны на могілках у вёсцы Шціч". У красавіку 1944 г. варожая куля абарвала жыццё 30-гадовага партызана П.А.Разяпава.

Даволі цяжка прасачыць увесь баявы шлях партызан. Дакументы сведчаць, што пасля злучэння партызанскіх брыгад з часцямі Чырвонай Арміі большасць нашых патрыётау была накіравана у дзейную армію і органы унутраных спрау.

Карэспандэнт квартальніка "Байрам" звярнуўся да Любові Міхайлаўны Драбовіч, каб яна прааналізавала новую кнігу, над якой працавала са сваімі калегамі. Нас цікавіць, хто з ураджэнцаў Татарстана загінуў у Вялікую Айчынную вайну і пахаваны на тэрыторыі Гродзенскага раёна ( без горада Гродна ).Прааналізаваўшы каля 2 тысяч прозвішчаў ( усяго пахавана не менш за 4 тыс. воінаў Чырвонай Арміі і партызан, але многія пахаваны як безыменныя ), яна выпісала шэраг прозвішчаў, у тым ліку і татар або іншых мусульман. Ніжэй мы друкуем яе артыкул і спіс ураджэнцаў Татарстана, якія навечна засталіся на Беларусі каля горада Гродна.

## НАВЕЧНА Ў ПАМЯЦІ

У выдавецтве "Беларуская Энцыклапедыя" імя П.Броўкі выйшла з друку чарговая кніга ў серыі гісторыка-дакументальнай хронікі "Памяць", прысвечаная Гродзенскаму раёну. Тэрыторыя гэтага раёна мае свае асаблівасці, звязаныя, у асноўным, з тым, што раён размешчаны каля дзяржаўнай граніцы Рэспублікі Беларусь з Польшчай і Літвой.

Кніга расказвае пра гісторыю раёна, яго культуру, знакамітых людзей. Вялікі раздзел у кнізе прысвечаны Вялікай Айчыннай вайне. Раён першы прыняў на сябе удар фашысцкага нашэсця. Герaічна змагаліся тут воіны Чырвонай Арміі з пагранічных, будаўнічых ( перад вайной тут будаваўся Гродзенскі умацаваны раён ), стралковых, авіяцыйных і іншых часцей, што дыслацыраваліся на граніцы і недалёка ад яе. Сярод абаронцаў былі і жыхары раёна, прызваныя на вайсковыя зборы, мабілізаваныя на будаўніцтва абарончых умацаванняў. Некаторыя з іх ужо другі раз удзельнічалі ў баях з фашыстамі — у 1939 г. ім давялося ваяваць у складзе Польскай Арміі.

Фашысты разлічвалі на хуткі поспех, але ніводная застава не здалася ім без бою. Праявіўшы стойкасць і гераізм, пагранічнікі змагаліся да апошняга патрона і апошняга дыхання і амаль усе загінулі. Тыя, хто застаўся ў жывых, пасля працяглых баёў, вымушаны былі адступіць і пакінуць Гродзеншчыну. Воіны, што трапілі ў акружэнне і не змаглі прарвацца праз варожае кальцо, уключыліся ў партызанскую барацьбу.

Байцы, што загінулі ў няроўных баях, навечна засталіся на гродзенскай зямлі. Імёны многіх засталіся невядомымі, як невядомы час іх гібелі і дакладнае месца пахавання. Спіс воінаў Чырвонай Арміі — пагранічнікаў, якія загінулі ў першыя дні вайны, складзены на аснове архіўных дакументаў, успамінаў баявых сяброў загінуў-

шых, няма ініцыялаў. Гэта ўсё, што пакінула нам аб іх паяць. Хто яны ? Рускія, башкіры, узбекі, казахі, украінцы ... а мо татары ? Ці адкажа нам хто на гэта ? Хутчэй за ўсё — не. А раптам нехта пазнае сярод іх свайго бацьку, брата, сябра. Ёсць тут некалькі фотаздымкаў, у т.л. і групавых. На тварах іх застылі ўсмешка, мужнасць, гонар і надзея. Але, на жаль, і тут толькі прозвішчы. Хто яны ?: Ашраў — снайпер 3-й заставы, Бадзенаў, Каздохаў, Калмыкаў, Марфін, Надыршын, Саляхаў, сяржант, інструктар службовых сабак 3-й заставы, Салосаў Г., радавы 3-й заставы, загінуў 22.6.1941 г., Шарыпаў Аляксандр Рыгоравіч ( Шаіх Гарыфанавіч ), нарадзіўся ў 1910 г. ў г.Казань, палітрук, намеснік начальніка 3-й заставы па палітчасці. Побач у кнізе ёсць і фота А.Г.Шарыпава.

На стар. 200 ў кнізе ёсць фатаграфія Адырхаева Барыса Муткаевіча, лейтэнанта, начальніка вучэбнай заставы, загінуў 24.6.1941 каля ракі Котра ... Побач спіс воінаў 56-й стралковай дывізіі 4-га стралковага корпуса. Толькі прозвішчы. Магчыма, сярод іх ёсць прадстаўнікі татарскага народа ?

Амараў, нар. ў Казахстане, сяржант 213-га стралк. палка.
Сатараў ( Саратаў ), радавы І-й стралк. роты І-га стралк. батальёна 184-га стралк. палка.
Сузім, капітан 184-га стралк. палка.
Цяртычны, лейтэнант 184-га стралк. палка.
Табол, мал. лейтэнант, камандзір І-га ўзвода вучэбнай роты 213-га стралк. палка.
Хуака, старшына 213-га стралк. палка.
Цэнтоўскі, капітан 184-га стралк. палка.
Цыбезаў, сяржант.

Сярод воінаў 85-й стралковай дывізіі таксама трапляюцца прозвішчы, магчыма, татарскія ...

Антыньшаў, палітрук 103-га стралк. палка.
Апахулаў, радавы 103-га стралк. палка. Загінуў 24.6.1941 г.
Атнагулаў, ст. лейтэнант 103-га стралк. палка.
Баландзін В., нар. ў 1921, курсант, 141-ы стралк. полк, загінуў 23.6.1941 г.
Хасанаў, зброўтар 103-га стралк. палка. Загінуў 24.6.1941 г.
Халікаў, нар. ў 1921, курсант, 141-ы стралк. полк, загінуў 23 чэр 1941 г.

Цыгляр, радавы, радыст, загінуў 24.6.1941 г.

22 — 25 чэрвеня 1941 г. каля г.п. Сапоцкін загінулі воіны 9-га артылерыйска-кулямётнага батальёна 68-га умацаванага раёна, сярод іх:

Разаеў Б. ( Барат ), курсант вучэбнай роты.

Хабіраў Адзіб ( Хадзіб ) Хікматулавіч, нар. ў 1920 г. на ст. Буздзяк, Башкірыя, радавы 2-й роты. Ёсць у кнізе на стар. 204 і фота А.Хабірава.

На 205 стар. кнігі "Памяць" спіс воінаў 27-й стралковай дывізіі 3-й арміі, якія загінулі 26 .6.1941, пахаваны каля в.Грабяні. Сярод іх:

Аронаў Піхвас Рахваелавіч, нар. ў 1922, курсант вучэбнай батарэі 75-га гаубічнага арт. палка.

Бесарабаў, лейтэнант, камандзір 2-й кулямётнай роты 132-га стралк. палка.

Нуштаеў Н.М., нар. ў 1921, курсант вучэбнай батарэі 75-га гаубічнага арт. палка.

Турахаджаеў Абдувалі, нар. ў 1920, курсант вучэбнай батарэі 75-га гаубічнага артпалка.

Шамсітдзінаў Ахман Іскандэравіч, нар. ў 1920, курсант вучэбнай батарэі 75-га гаубічнага арт. палка.

Амаль 200 старонак у кнізе "Памяць. Гродзенскі раён" займаюць спісы загінуўшых. Ёсць тут і спіс воінаў Чырвонай Арміі, якія загінулі ў 1944 годзе. Гродзеншчына была вызвалена 24 ліпеня 1944 г. ў ходзе двух наступальных аперацый — Беластоцкай і Вільнюскай. Вызваляючы гродзенскую зямлю, савецкія воіны праявілі сапраўдны гераізм і волю да перамогі, дзеля якой не шкадавалі ні сіл ні жыцця. Сотні іх назаўсёды засталіся ў гэтай зямлі, аддаўшы за яе свабоду самае дарагое — свае жыццё. Вечная памяць аб іх высокім подзвігу будзе жыць у сэрцах гродзенцаў. Сёння іх імёны навечна упісаны ў кнігу "Памяць. Гродзенскі раён". Пагартаем старонкі кнігі, пазнаёмімся з гэтым мартыралогам. Большасць загінуўшых - ураджэнцы 1920 — 1926 гадоў. Розныя ў іх прозвішчы, розныя імёны, розная нацыянальнасць. У кнізе пра нацыянальнасць не пішацца, усіх іх аб"яднала, парадніла вайна, а пасля і брацкая магіла. Калі паглядзець больш уважліва, можна прачытаць, адкуль яны прызываліся ў Чырвоную Армію, дзе нарадзіліся. Ёсць сярод іх і тыя, чый лёс

быў звязаны з Татарстанам. Магчыма, кніга гэта дапаможа сённяшнім жыхарам Татарстана сустрэцца з імі праз гады, а мо нехта убачыць сярод іх сваю крывінку, свайго брата, бацьку, сябра. Чытайце кнігу "Памяці", мо той, хто лічыўся 50 гадоў прапаўшым без вестак, выйдзе з небыцця і вы сустрэнецесь з ім на брацкай магіле каля помніка...

У в. Верцялішкі Верцялішкаўскага сельсавета пахаваны

Таліпаў Самазан, нарадзіўся ў 1920 г. у в.Кумазан Мамадышскага раёна, гв. радавы 24-га гв. кавалерыйскага палка 5-й гв. кавалерыйскай дывізіі, загінуў 17.6.1944 г.

У в. Гожа Гожскага сельсавета пахаваны:

Глушкоў Васіль Яўстаф"евіч, нар. у 1899 г. у Татарыі, радавы 1158-га стралковага палка 352-й стралк. дывізіі, загінуў 18.7.1944

Ягораў Мікалай Ягоравіч, нар. у 1903 г. у г.Казань, ст. сяржант, 1158-га стралковага палка 352-й стралковай дывізіі, загінуў 18.7.1944 г.

У в. Індура Індурскага сельсавета пахаваны:

Дварэцкі Міхаіл Аляксандравіч, нар. у 1924 г. у в. Сахараўка Аляксееўскага раёна, Татарыя, мал. сяржант 451-га стралк. палка 64-й стралк. дывізіі, памёр ад ран 23.7.1944 г.

Ісаеў Васіль Іванавіч, нар. у 1893 г. у пасёлку Мед-Лано, Татарыя, радавы 290-га знішчальнага супрацьтанкавага арт. палка, загінуў 23.7.1944 г.

Сакалоў Васіль Іванавіч, нар. ў 1925 г., у Чырвоную Армію прызпрызваны з Татарыі, мал. сержант 500-га арт. палка 199-й стралк. дывізіі, загінуў 23.7.1944 г.

Фактулаў ШаяІсламавіч, у Чырвоную Армію прызваны з Татарыі, радавы, курсант асобнай вучэбнай стралковай роты 199-й стралк. дывізіі, загінуў 23.7.1944 г.

У в. Сухая Даліна Індурскага сельсавета пахаваны:

Гур"янаў Макар Аляксеевіч, нар. у 1915 г. ў в.Вішнеўка, Татарыя, радавы 830-га стралк. палка 238-й стралк. дывізіі, загінуў 16.7.1944 г.

Іваноў Васіль Рыгоравіч, нар. у 1926 г. у в.Кербык-Серма, Татарыя, радавы 551-га стралк. палка 64-й стралк. дывізіі, загінуў 19.7.1944 г.

Манапау Фаяз Султанавіч, нар. у 1926 г. у в.Нурбак, Татарыя, радавы 451-га стралк. палка 64-й стралк. дывізіі, загінуу 16.7.1944 г.

Нурулін Ярула Нурулаевіч, нар. у 1912 г. у в.Дзяушава Апастаускага раёна, Татарыя, радавы 451-га стралковага палка 64-й стралк. дывізіі, загінуу 16.7.1944 г.

У в.Свіслач Квасаускага сельсавета пахаваны:

Аляксееу Пукро Аляксеевіч, нар. у 1905 г. у в.Варглет, Татарыя, радавы 354-га арт. палка 139-й стралк. дывізіі, загінуу 21.7.1944 г.

Барысау Сцяпан Ягоравіч, нар. у 1900 г. у в.Чувашскае Іванаускае Новашашмінскага раёна, Татарыя, радавы 433-га стралк. палка 64-й стралк. дывізіі, загінуу 23.7.1944 г.

Ягорау Пётр Меркур"евіч, нар. у 1905 г. у г.Казань, лейтэнант, камандзір агнявога узвода 440-га стралк. палка 64-й стралк. дывізіі, загінуу 19.7.1944 г.

Осіпау Мікалай Канстанцінавіч, нар. у 1925 г. у г.Бугульма, Татарыя, радавы 364-га стралк. палка 139-й стралк. дывізіі, памёр 20.7.1944 г. у 220-м асобным медсанбаце.

У в.Кашчёука Кашчёускага сельсавета пахаваны

Рожын Пётр Сямёнавіч, нар. у 1925 г. у в.Гарый Елабужскага раёна, Татарыя, радавы 167-га сапёрнага батальёна 64-й стралк. дывізіі, загінуу 19.7.1944 г.

На станцыі Парэчча Парэцкага сельсавета пахаваны

Ахмятзянау Ідрыс, нар. у 1909 г. у в.Вялікая Бірыза Арскага раёна, Татарыя, радавы 198-га танкавага палка 64-й гв. кавалерыйскай дывізіі, загінуу 22.7.1944 г.

У в.Грандзічы Путрышкаускага сельсавета пахаваны:

Яусюцін Сямён Цімафеевіч, нар. у 1925 г. у с Куркул Аляксееускага раёна, Татарыя, мэл.сяржант 174-й стралк. дывізіі, загінуу 15.7.1944 г.

Фазалееў Адзіп Шарыгулаевіч, нар. ў 1926 г. ў в. Сярэднія Цітаны Аляксееўскага раена, Татарыя, радавы І-й асобнай гв. штурмавой інжынерна-саперная брыгады, загінуў 22.7.1944 г.

Шуйскі Аляксей Іванавіч, нар. ў 1904 г., ў Чырвоную Армію прызваны з Татарыі, радавы 1586-га зенітнага арт. палка 47-й зенітнай арт. дывізіі, загінуў 20.7.1944 г.

У в.Путрышкі Путрышкаўскага сельсавета пахаваны:

Міфтахутдзінаў Фасхутдзін, нар. ў 1905 г. ў в.Тахтала, Татарстан, мал. сяржант 885-га стралк. палка 290-й стралк. дывізіі, памёр ад ран 17.7.1944 г.

Сулагаеў Якаў Андрэевіч, ў Чырвоную Армію прызваны Першамайскім РВК, Татарыя, радавы 1158-га стралк. палка 352-й стралк. дывізіі, загінуў 15.7.1944 г.

Ярулін Карым Ярулавіч, нар. ў 1924 г. ў в.Вялікая Шухота, Татарыя, гв. радавы 22-га гв. кавалерыйскага палка 5-й гв. кавалерыйскай дывізіі, загінуў 15.7.1944 г.

У г.Скідзель пахаваны:

Барсукоў Мікалай Кузьміч, нар. ў 1925 г. ў в. Аулаш, Татарыя, ст. сяржант, камандзір аддзялення 364-га стралк. палка 139-й стралк. дывізіі, загінуў 17.7.1944 г.

Гацін Гарыф Набілла, нар. ў 1926 г. ў в.Ніжні Салман, Татарыя, радавы 433-га стралк. палка 64-й стралк. дывізіі, занінуў 15.7.1944 г.

Гелязаў Рамазан, нар. ў 1926 г. ў в. Салаўі Балтасінскага раена, Татарыя, радавы 885-га стралк. палка 290-й стралк. дывізіі, загінуў 15.7.1944 г.

Зарыпаў Ансара, нар. ў 1926 г., ў в.Кутлужы Чыстапольскага раена, Татарыя, радавы 58-га знішчальнага супроцьтанкавага арт. палка, загінуў 13.7.1944 г.

Зорын Ілья Васілевіч, нар. ў 1926 г. ў в.Куціма, Татарыя, радавы 882-га стралк. палка 290-й стралк. дывізіі, загінуў 14.7.1944 г.

Мальчыкау Аляксандр Рыгоравіч, нар. у 1924 г. у в.Рускае Рыбна-Слабодскага раёна, Татарыя, радавы 1270-га стралк. палка, 380-й стралк. дывізіі, памёр ад ран 26.7.1944 г.

Мінгазау Рауф, нар. у 1922 г. у в.Новы Кашыт, Татарыя, радавы 830-га стралк. палка 238-й стралк. дывізіі, загінуу 23.7.1944 г.

Насыпау Фейзулла, нар. у 1912 г. у в. Н.Алім Актанышскага раёна, Татарыя, яфрэйтар 885-га стралк. палка 290-й стралк. дывізіі, загінуу 14.7.1944 г.

Сабірау Гайтанур Сабіравіч, нар. у 1926 г., Татарыя, радавы 433-га стралк. палка 64-й стралк. дывізіі, загінуу 15.7.1944 г.

Сагдзіеу Гасман Хабібулавіч, нар. у 1926 г., Татарыя, в. Сярэднія Сарды Арскага раёна, радавы 885-га стралк. палка 290-й стралковай дывізіі, загінуу 18.7.1944 г.

Салахіеу Абдул, нар. у 1925 г. у в.Дваполя-Арташ Сабінскага раёна, Татарыя, радавы 885-га стралк. палка 290-й стралк. дывізіі, загінуу 15.7.1944 г.

Сеурыкау Анатоль Антонавіч, нар. у 1925 г., у Чырвонай Арміі па прызыву Аляксееускага РВК, Татарыя, старшына 584-га стралк. палка 199-й стралк. дывізіі, загінуу 17.7.1944 г.

Сінгатулін Шагудала, нар. у 1906 г. у Пілаеускім сельсавеце Татарыі, радавы 609-га стралк. палка 139-й стралк. дывізіі, загінуу 16.7.1944 г.

Тазетдзінау Існаіл Бурганавіч, нар. у 1926 г. у в.Шалі Пястрэчынскага раёна, Татарыя, радавы 433-га стралковага палка 64-й стралк. дывізіі, загінуу 15.7.1944 г.

Уакімау Сабір, нар. у 1904 г. у в.Дзясем Атнінскага раёна, Татарыя, радавы 882-га стралк. палка 290-й стралк. дывізіі, загінуу 15.7.1944 г.

Хакімау Габдула Хакім, нар. у 1926 г. у в.Асян, Татарыя, радавы 433-га стралк. палка 64-й стралк. дывізіі, памёр ад ран 19.7.1944 г. у 109-м медсанбаце.

Чарноу Павел Ільіч, нар. у 1925 г., у Чырвоную Армію прызваны Казанскім РВК, мал. сяржант 2-й корпуснай арт. брыгады, загінуу 21.7.1944 г.

У гар. пасёлку Сапоцкін пахаваны :

Гайнулін Мубарак Халавіч, нар. у 1926 г. у Татарыі, радавы 455-га стралк. палка 42-й тралк. дывізіі, загінуў 18.7.1944 г.

Галіулін Галімула Карымулавіч, нар. у 1921 г. у в.Адаева, Татарыя, радавы 330-й стралк. дывізіі, загінуў 20.7.1944 г.

Гараеў Сахан, нар. у 1926 у в. Старыкарлай Арскага раёна, Татарыя, радавы 1019-га стралк палка 307-й стралк. дывізіі, загінуў 23.7.1944 г.

Ліпатаў Міхаіл Рыгоравіч, нар. у 1914 г. у в. Вялікая Куйча Рыбна-Слабодскага раёна, Татарыя, радавы 330-й стралк. дывізіі, загінуў 22.7.1944 г.

Логінаў Георгій Ігнатавіч, нар. у 1901 г. у Татарыі, радавы 1111-га стралк. палка 330-й стралк. дывізіі, загінуў 21.7.1944 г.

Мінушын Шайдула ( Шайдут ), нар. у 1900 г. у в.Каракошла, Татарыя, радавы 455-га стралк. палка 42-й стралк. дывізіі, загінуў 19.7.1944 г.

Мухамедаў Зінур, нар. у 1918 г. у в.Дзюкава Мензелінскага раёна Татарыя, гв.радавы 24-га гв. кавалерыйскага палка 5-й гв. кавалерыйскай дывізіі, загінуў 18.7.1944 г.

Мухамедшын Фаіз Галімзанавіч, нар. у 1917 г. у Татарыі, лейтэнант, камандзір роты 90-га стралк. палка 95-й стралк. дывізіі, памёр ад ран 21.7.1944 г.

Нурмаліеў Саід, нар. у 1926 г. , у Чырвоную Армію прызваны Калінінскім РВК, Татарыя, радавы 673-га стралк. палка 220-й стралк. дывізіі, загінуў 24.7.1944 г.

Файткулін Гайфула Ігматуілавіч, нар. у 1908 г. у в. Цердач, Татарыя, ст. лейтэнант, камандзір роты 459-га стралк. палка 42-й стралк. дывізіі, загінуў 17.7.1944 г.

Шмонеў Мартын Паўлавіч, нар. у 1903 г. У Чырвонай Арміі прызваны Муслюмаўскім РВК, Татарстан, радавы 653-га стралк. палка 220-й стралк. дывізіі, загінуў 28 7.1944 г.

Шчудінін Ілья Мітрафанавіч, нар. у 1926 г. у в. Б.Верацягі, Татарыя, радавы 1019-га стралк. палка 307-й стралк. дывізіі, загінуў 23.7.1944 г.

Яканін Мікалай Дзмітрыевіч, нар. у 1918 г. У Чырвоную Армію прызваны Цыцюшскім РВК, Татарыя, мал. сяржант 660-га арт. палка 220-й стралк. дывізіі, загінуў 20.7.1944 г.

# ПРОБНЫЯ АРТЫКУЛЫ ДЛЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЧНАГА ДАВЕДНІКА "ТАТАРЫ БЕЛАРУСІ, ЛІТВЫ І ПОЛЬШЧЫ"

АБАВЯЗКІ МУСУЛЬМАНІНА, маральная неабходнасць верыць толькі у адзінага Аллага ( الإيمان بالله Аль-Іману бі Аллагі), у ангелаў ( الإيمان بالملائكة Аль-Іману біль-маляікяты ), у адкравенне Аллага — Кур"ан ( الإيمان بالكتب Аль-Іману біль-кютубу ), у пасланнікаў Аллага ( الإيمان بالرسل Аль-Іману бір-русулі ), Судны Дзень ( الإيمان باليوم الآخر Аль-Іману біль-яуміль-ахыры ), у Божае прадвызначэнне лёсу чалавека ( الإيمان بالقضاء والقدر Аль-Іману біль-кадаі вал -кадары ).

У сваім паўсядзённым жыцці мусульманін кіруецца правіламі, якія называюць арканам — пяццю апорамі, на чым трымаецца Іслам. Гэта Шахада ( شهادة няма боства акрамя Аллага, а Мухаммед яго пасланнік ), Салят ( الصلاة малітва пяць разоў у суткі ), Саўм ( الصوم ), Закят ( الزكاة " падатак на карысць бедных ), Хадж ( الحج паломніцтва у святы месяц Рамазан ).

Мусульмане жывуць згодна з нормамі паводзін, запісаных на свяшчэнным Кур"ане, Сунне, Ісламскім праве, выкладзеным у Шарыяце. Мусульманін павінен абараняць сваю Радзіму, сваю веру і сваю годнасць ( гл. Джыхад ).

Беларускія татары выконваюць абавязкі мусульманіна, абараняюць сваю Бацькаўшчыну — Беларусь, шануюць звычаі і нормы паводзін, прынятыя у Рэспубліцы Беларусь.

АБАСА, 80-я сура з Кур"ана. Складаецца з 42 аятаў. Названа ад слова у І-м аяце і абазначае з а д у м а ў с я, с п а х м у р к е ў. Сура складаецца з фрагментаў, якія паходзяць з даўняга мекканскага перыяду. Назва суры з"яўляецца рэмінісцэнцыяй ( водгаласам у памяці ) пэўнай падзеі. У І7 — 42 аятах сказана аб тым, з чаго Аллаг стварыў чалавека, пра даброты, створаныя для чалавека Аллагам, напамінак пра Судны Дзень, узнагароду праведнікам і кару грэшнікам.

АБУ ГАНІФА ( 699, г.Куфа ў Іраку — 767, Багдад ), А б у Х а н і ф а і б н С а б і т , вялікі арабскі вучоны, тэолаг і прававед, імам, заснавальнік фікга і ганіфіцкага масгабу. Вотчым Абу Ганіфа быў з роду прарока Мухаммеда і выконваў абавязкі шыіцкага імама. Абу Ганіфа нарадзіўся пасля смерці прарока Мухаммеда, але ведаў людзей, якія бачылі Прарока жывым ( такіх людзей называюць асгаба ). Спачатку Абу Ганіфа займаўся гандлёвымі справамі, затым вывучаў ісламскія навукі, філасофію ( у тым ліку філасофію мутазілітаў — прадстаўнікоў першага вялікага напрамку у мусульманскай філасофіі, тэалогіі і вальнадумстве), абрады ( наведаў мячэці многіх мусульманскіх краін, здзейсніў хадж у Мекку, вучыўся там у мусульманскіх багасловаў). Сам, ці з дапамогай шматлікіх вучняў, напісаў кнігі "Аль-фікг аль-акбар" ( "Вялікі фікг" ), "Аль-алім ва-л-мутааллім" ( "Вучоны і вучань" ). На падставе Кур"ана і Сунны ён склаў 500 тыс. юрыдычных казусаў, выдаў 69 тыс. пісаных фітваў — багаслоўска-прававых заключэнняў. Мусульманскія вучоныя гісторыкі называюць яго імамам аль-азам — вялікім імамам.

У Абу Ганіфа была вельмі пераканаўчая логіка. Ён паспяхова дыскутаваў па прававых пытаннях. У сваіх суджэннях апіраўся на логіку і розум. Заснавальнік малікіцкага асгабу Малік ібн Анас гаварыў: "Логіка Абу Ганіфы настолькі пераканаўчая, што калі ён скажа, што дрэва — золата, то і дакажа гэта". Пра яго казалі таксама: "Калі вера аддаліцца да зоркі Венера, то на зямлю яе верне імам Абу Ганіфа".

Абу Ганіфа быў богабаязным і набожным чалавекам, вёў аскетычны спосаб жыцця. Ён адмовіўся ад пасады суддзі, каб не пакрыўдзіць каго-небудзь і не зрабіць грэх. Таму Абу Ганіфа быў больш юрыстам-тэарэтыкам, чым практыкам. Пра яго расказвалі, быццам даведаўшыся, што у Куфе прадаюць мяса крадзеных авечак, ён сем гадоў не еў бараніну, каб не дапусціць грэх — есці крадзенае мяса.

АД, адзін з старажытных народаў Аравіі, які загінуў. Упамінаецца у Кур"ане сярод прыкладаў таго, як Аллах знішчыў людзей, якія жылі у дабрабыце, але ганарлівых і адрынуўшых Пісанне. Кур"ан упамінае пра іх дастатак, іх высокі рост і аб іх няверы, за якое яны былі пакараны засухай, а пасля страшным ветрам, які іх знішчыў без слядоў.

Пасляхуранічныя паданні рассказваюць аб тым, як адзіты ( жыхары Ада ) паслалі у Мекку хадакоу прасіць, каб пайшоу дождж. Ім было прапанавана выбраць адну з хмар. Выбраная імі самая цёмная і прынесла з сабой самы страшны вецер ( рых сарсар ), ад якога выратаваліся толькі пасланы Аллагам прарок Гуд і некалькі праведнікау. Адзітамі названы мудрэц Лукман і магутны цар Шаддад, будаунік храма няверных — храма зат ал-Імада.

АСГАБ, а л - А с г а б, а л - А с х а б ( ас-сагаба, мн. лік ад сагіб — староннік; па-беларуску адз. лік ужываецца звычайна у форме асгаб, мазгаб, мн. лік — асгабы ) — паплечнікі Мухаммеда, людзі, якія былі цесна звязаныя з Прарокам ці прымалі удзел у яго паходах. Пазней асгабамі сталі называць усіх, хто бачыу Мухаммеда хоць раз, нават будучы дзіцем. Ал-асгабы складалі ядро і самую стойкую частку першых мусульманскіх армій. Вышэйшы слой асгабау складалі мухаджыры і ансары.

Адметнае значэнне асгабау у гісторыі Ісламу вызначаецца тым, што пасля смерці Мухаммеда яны зберагллі яго вучэнне. Расказы асгабау пра словы і чыны Мухаммеда ( хадзісы ) разам з іх асабістым прыкладам і меркаваннямі склалі Сунну — найважнейшую кампаненту ( састаунуюю частку ) этыка-прававога вучэння Ісламу. Тыя людзі, якія непасрэдна знаёмыя з асгабамі, называлі табіінамі. Адным з табіінау быу Абу Ганіфа.

ГАНІФІЦКІ АСГАБ. Х а н і ф і ц к і а с х а б, Х а н і ф і ц к і м а з х а б, прававая школа, якая атрымала вялікае пашырэнне у сунніцкім Ісламе. Аснову гэтага асгаба заклау славуты арабскі вучоны-прававед Абу Ганіфа.

У Атаманскай ( Турэцкай ) імперыі афіцыйнае прызнанне ганіфізму зрабіла асгаб самым папулярным. Турэцкі вучоны-багаслоу Гасан Басры Джантай у прадмове да кнігі Абу Ганіфы "Фікг акбар" ( "Вялікае права" ) піша, што асгаб Абу Ганіфы найлепшы з асгабау, самы ліберальны і самы просты".

Ганіфіцкі асгаб адрозніваецца ад іншых асгабау Сунны найбольшай талерантнасцю. Заснавальнікі другіх прававерных школ Ісламу — Малік іб Анас, Ахмада Ібн Ганбала, аш-Шафі'і лічылі сябе вучнямі Абу Ганіфы

У Ганіфіцкім асгабе тры галоуныя прынцыпы: рай ( асабістая думка прававеда, заснаваная на падставе розуму і сэнсу ), к'ійас

( суджэнне па аналогіі ) і ісціхсан ( перавага ). Вучэнне Абу Ганіфы дало магчымасць прававедам даволі свабодна дзейнічаць у рашэнні юрыдычных пытанняў у залежнасці ад канкрэтных абставін і мясцовых умоў. Менавіта гэты метад садзейнічаў у пашырэнні ганіфізму у розных рэгіёнах мусульманскага свету ( у тым ліку у Паволжы, Крыме і сярод татараў Беларуска-Літоўскай дзяржавы ).

ГУЛ, джыны жаночага роду, асабліва варожыя да людзей. Змяняюць свой выгляд. прываблiваюць падарожнікаў, забіваюць іх і з"ядаюць. Прадстаўленне аб гулах існавала у арабаў і да прыняцця Ісламу. ( упамінаюцца у паэме Таабаты Шаррана ). Вобраз гулаў пашыраны у фальклоры. Мужчынскі аналаг гулаў носіць назву к у т р у б.

ДЖАННА ( па-арабску сад ), найбольш пашыраная сярод мусульман назва р а ю . Паводле Ісламу увойдуць у рай пасля Суднага Дня праведныя мусульмане і мусульманкі, у тым ліку і палеглыя за справу Аллага ( гл. Джыхад ). Пра джанну згадваецца няраз у Кур"ане, дзе рай названы с а д а м в е ч н а с ц і ( у дужках падаецца нумар суры , пасля двукроп"я — нумар аята , 25:16, 9:73 ), сады раю ( 18: 107 ), с я д з і б а с п а к о ю ( 6:127 ) м е с ц а з н а х о д ж а н н я ( 40:42 ), у з н е с л а е м е с ц а ( 83:18 ).

У Кітабе татар называецца некалькі ( да васьмі ) аддзелаў Джанны: Дарусселям ( 2 ), Джаннет-уль-мава ( 3 ), Джаннет-уль-хульд ( 4 ), Джаннет-уль-наім ( 5 ), Джаннет-уль-Фірдэус ( 6 ), Даруулькарар ( 7 ) і Джаннет адні́н ( 8 ).

ДЖЫН, д ж ы н ы , духі, нярэдка ліхія і злыя. Прадстаўленне аб джынах было у Аравіі у даісламскі перыяд. Язычнікі лічылі іх неакрэсленымі боствамі і несправядліва ставілі поруч з Аллагам ( гл. у Кур"ане суру 37, аят 158; суру 6, аят 100 ). Джынам прыносілі ахвяру, да іх звярталіся за дапамогай ( Кур"ан, сура 72, аят 6 ).

Згодна з мусульманскай традыцыяй, джыны створаны Аллагам з бяздымнага агню і уяўляюць сабою паветраныя ці вогненныя целы, якія маюць розум. Яны могуць прымаць любую форму і выконваць загады. Некаторыя джыны уверавалі у Мухаммеда і дапамагалі пашыраць Іслам. Джыны, звязаныя з Іблісам, шкодзяць людзям. Адрозніваюць тры класы джынаў: гул, іфрыт і сілат.

Джынам прысвечаны шматлікія працы мусульманскіх багасловаў.

Падпарадкаванне джынаў волі чалавека складала адну з праблемаў, якімі займаліся акультныя навукі мусульманскага сярэднявечча. Расказы аб джынах з"яўляюцца прыналежнасцю фальклору народаў, якія вызнаюць Іслам ( у тым ліку беларускіх, літоўскіх і польскіх татар, якія злых джынаў называюць ферэямі ).

ДУХІ, згодна з міфалогіяй, якая бытуе у беларускіх, літоўскіх і польскіх татар, існуюць добрыя духі джыны і злыя — ферэі.

ІФРЫТ, від джынаў, якія вылучаюцца надзвычайнай сілай. Упамінаюцца у Кур"ане ( сура 27, аят 39 ). У фальклоры арабскіх народаў іфрытаў часам лічаць душы памерлых.

КУРДЫ, к у р д, або к у р м а н д ж ( саманазва ), народ у Паўднёва-Заходняй Азіі. Агульная колькасць больш за 13 млн. чалавек ( па некаторых ацэнках да 20 млн. чалавек ). Размешчаны кампактна у Іране ( 4 млн. чалавек ), Турцыі ( больш за 5 млн.), Іраку ( у асн. у Курдскім аўтаномным раёне, 3 млн. ), Сірыі ( 0,63 млн. ), невялікія групы — у іншых краінах Азіі і Еўропы. У Закаўказзі, Сярэдняй Азіі і Казахстане каля 0 12 млн. курдаў. Адносяцца да індa-сяродземнаморскай расы вялікай еўрапеоіднай расы. Курдская мова належыць да заходняй ( курдскай ) падгрупы іранскай групы індa-еўрапейскай сям"і. Дыялекты: паўночныя (курманджы, заза ) і паўднёвыя ( саранi ) і інш. Курды ведаюць мовы тых народаў, з кім жывуць па суседству. Пісьмо на арабскай графічнай аснове, у Турцыі і Сірыі на лацінцы, на тэр. былога СССР — на кірыліцы.

Большасць курдаў — мусульмане-суніты ( ёсць шыіты ); ёсць таксама прыхільнікі сінкрэтычных культаў ( язіды і інш. ).

Курды — аўтахтоннае ( спрадвечнае ) насельніцтва гістарычнай вобласці Курдыстан. Да пачатку 20 ст. курды аб"ядноўваліся у саюзы плямён, якія падзяляліся на дробныя рода-племянныя групы. У 14 — 18 стагоддзях знаходзіліся у намінальнай залежнасці ад Ірана і Асманскай імперыі.

Ва усіх краінах падвяргаюцца дыскрымінацыі. У Сярэдняй Азіі і Казахстане апынуліся у выніку дэпартацыі у гады таталітарнага рэжыму у СССР.

Нацыянальны прыгнёт у месцах пражывання курдаў прыводзіў і прыводзіць да шматлікіх паўстанняў у Курдыстане, якія падаўля -

юцца з прымяненнем авіяцыі і атрутных рэчываў. У адказ на гэта некаторая частка курдаў займаецца тэрорам, у тым ліку далёка за межамі Курдыстана.

У 20 ст. ў курдаў развіваюцца працэсы кансалідацыі, асабліва ў Іраку і Іране, дзе значная колькасць людзей гэтай нацыянальнасці занята на нафтаздабычы і нафтаперапрацоўцы.

Пераважаюць традыцыйныя заняткі: напаўкачавая жывёлагадоўля ( буйная рагатая жывёла, авечкі і козы ), земляробства ( збожжавыя, садоўніцтва, тытунь ).

Летняе жыллё качэўнікаў — шацёр з некалькіх радоў жордак, пакрытых шарсцяной тканінай. Зімовым жыллём у горных раёнах служыць зямлянка ці напаўзямлянка з земляным купалападобным ці плоскім перакрыццем, у якім адтуліна для выхаду дыму і асвятлення. Бэлькі перакрыцця абапіраюцца на слупы. Жыллё земляробаў у перадгорных і раўнінных раёнах і гарадах аднапавярховыя, глінабітныя ці з каменю дамы, прамавугольныя ў плане, з плоскім дахам. Гаспадарчыя пабудовы побач з жылымі, нярэдка маюць агульны ўваход.

Традыцыйная вопратка мужчын мае некалькі варыянтаў. Агульныя элементы — шырокія шарсцяныя шаравары, бязевая рубаха з разрэзам на грудзях і доўгімі рукавамі, да якіх прышыты кавалкі тканіны ( факіана ), пояс ( пэштэн ), шарсцяная камізэлька, а ў зімовы час шарсцяная куртка ці доўгая лямцавая накідка, галаўны убор ( калаў ), зверху абматаны вялікай хусткай, звычайна з кутасамі. Абутак ( клаш ) адзяюць на шарсцяныя робленыя шкарпэткі.

Жаночая вопратка — шаравары, доўгая рубаха, сукенка-рубаха з факіэча, камізэлька, пэштэн. У курдаў Турцыі, паўночна-заходняга Ірана, Сірыі і Закаўказзя жанчыны адзяваюць таксама спадніцы і фартухі.

Пераважае мяса-малочная ежа. У земляробчых раёнах пашыраны стравы з пшаніцы, рысу, вострыя прыправы з гародніны, у Іраку, Сірыі — з баміі, у гарах — з пажыўных траў.

Фальклор — песні, танцы, у тым ліку карагодныя з завадатарам карагода і інш. Развіта вытворчасць дываноў, вырабаў з шэрсці, металічнага посуду, чаканка, разьба па дрэве.

ЛЕГЕНДА ПРА ФЕРЭЯ. Занатавана польскім вучоным С.Крычынскім у 1930-х гадах на Наваградчыне. Кароткі змест: "Позна вечарам мусульманін адзін пайшоў у лазню каб памыцца. Падыходзячы да будынка, ён убачыў, што ў вакне блішчыць агеньчык. Паглядзеў, хто б так позна мог там быць. Аказалася, што мыецца нячысцік-ферэй. Каб яго прагнаць, мусульманін абышоў лазню, паючы азан. Вельмі перастрашаны ферэй стаў прасіцца:"Выпусці мяне. Скажы, чаго ты жадаеш, усё табе зраблю." У мусульманіна было шмат работы ў гаспадарцы, распачата вялікая будоўля, з якой ён адзін не мог справіцца. Вось і рашыў чалавек, што можна выкарыстаць дармавую працу. Дамовіўся ён з ферэям, што той будзе тры гады працаваць у мусульманіна, але пасля смерці гаспадара яго душа пяройдзе ва уладанне нячысціка.

Тры гады ферэй працаваў у мусульманіна, перарабіў усю работу і пайшоў. Прайшлі гады, усе знаёмыя мусульманіна зайздросцілі яму, што ў яго такая спраўная гаспадарка. Толькі ён быў неспакойны, усё думаў пра душу. Нарэшце, памёр. Згодна з дамовай, да мусульманіна прышоў ферэй са сваімі таварышамі і забраў душу." Выснова: не трэба аднаму мусульманіну позна вечарам ці ноччу хадзіць у будынак, дзе няма і не можа быць Мутір, не трэба мець ніякіх спраў з ферэямі.

МЕСЯЦЫ І ДНІ. Сучасны мусульманскі каляндар захаваў назвы месяцаў, якія існавалі да прыняцця арабамі Ісламу. У даісламскім арабскім календары было 12 месяцаў па 29 і 30 дзён і дадатковы 13-ы месяц, які меў 10-11 дзён, якія называлі аййам ан-насі ( дадатковыя дні). Пасля прыняцця Ісламу арабамі, ранейшы каляндар быў зменены, але назвы месяцаў захаваліся. Такім чынам першы месяц ( назвы іх падаюцца так, як цяпер называюць арабы; у беларускіх татар гэтыя назвы крыху зменены, гл. табліцу ) м у х а р р а м у н ( забаронены ), паходзіць ад таго часу, калі яшчэ да Ісламу усім плямёнам, што жылі на Аравійскім паўвостраве, забаранялася весці несправядлівыя войны паміж сабой. Другі месяц, с а ф а р у н ( жоўты ), як тлумачаць арабскія вучоныя, паходзіць ад назвы жаўтуха ( гепатыт ) на якую найчасцей хварэлі ў гэтым месяцы ( да Ісламу гэты месяц быў летам ). Наступныя месяцы: р а б і й у н а л ь - а ў у а л ю ( першая вясна ) і р а б і у н а л ь - с а н і ( вясна другая )даўней прыпадалі на восень ( тады ў пустынях выпадаў дождж і ажывала раслліннасць ), а слова рабіун у той час абазначала як вясну, так і восень. Д ж у м а д а а л ь - у л я і д ж у м а д а

аль-ссані ( замаразак другі ) былі зімовымі месяцамі, а сваей назвай абавязаны ад частага у гэты час замярзання вады. Сёмы месяц раджабун ( устрымацца ), падобная як і мухаррамун, быў месяцам без вайны і адсюль назва. Пасля яго наступае ша"банун ( разыходжанне ). У гэты месяц у даісламскі час адбываліся войны і грабежніцкія напады. Дзевяты месяц, рамаданун ці рамазанун ( спякотны ) быў названы так ад вялікай гарачыні. Прарок Мухаммед прызначыў гэты месяц для посту ад узыходу да заходу сонца ( гл. Саўм ). Дзесяты месяц шаууалюн ( сядлаюць вярблюдаў ). У гэты месяц качавыя жывёлаводы пакідаюць месца сваіх часовых стаянак. Апошнія два месяцы года — зіль-ка"ада ( месяц стаянкі — у гэтым месяцы жывёлаводы спынялі вандроўку ) і зіль-хадджа ( месяц падарожжа ), які быў прысвечанны падарожжу для пакланення ў храме ў г.Мекка. Мухаммед захаваў традыцыю наведвання Меккі мусульманамі ( гл. Хадж ).

Супастаўная табліца назваў месяцаў

І — арабская, П — Клецкі Хамаіл, Ш — іншыя Хамаілы

| І | П | Ш |
|---|---|---|
| І. мухаррамун | мухаррэм | мухаррам |
| 2. сафарун | сафар | сафар |
| 3. рабйун аль-ауualю | раббі уль-авваль | рабі аль-аўваль |
| 4. рабйун аль-ссані | раббі уль-ахыр | рабі ас-сані |
| 5. джумада аль-уля | джумазіль-авваль | джумада аль-уля |
| 6. джумада аль-ссані | джумазіль-ахыр | джумада аль-ахіра |
| 7. раджабун | раджаб | раджэб |
| 8. ша"банун | шаўбан | шаабан |
| 9. рамаданун | рамазан | рамазан |
| І0. шаўуалюн | шаўвал | шавваль |
| ІІ. зіль-ка"да | зіль-каадда | зу-ль-каадда |
| І2. зіль-хадджа | зіль хадджа | зу-ль-хадджа |

Заўвага: у беларускіх назвах месяцаў ёсць недарэчнасць, да якой амаль усе прывыклі. У сакавіку не набярэш соку, у красавіку яшчэ не цвітуць краскі-кветкі, у лістападзе няма лістоў, бо яны апалі ў верасні і кастрычніку. Май — слова не беларускае ( неафіцыйна гэты месяц называюць траўнем ). Назву месяца чэрвень [illegible] вытлумачыць.

Месяц у мусульман складаецца з чатырох тыдняў. Новыя суткі і новая дата, таксама як і у габрэяў, пачынаюцца, калі заходзіць сонейка і паяўляюцца зоркі на небе. Напрыклад, у еўрапейцаў да 12 гадзін ночы ( 24 гадзін ) лічыцца чацвер, а у мусульман ужо пачалася пятніца.

У Аль-Кітабах і Хамаілах пераважаюць беларускія назвы дзён, але трапляюцца і арабскія, крымскататарскія і казанскататарскія назвы. Пятніцу нашы татары найчасцей называюць джума ад арабскага слова жумату, што азначае дзень сабрання, якое найчасцей адбываецца у мячэці, а калі мячэці няма, то у малітоўным доме, нават пад небам ( у арабскіх краінах вельмі рэдка бывае дажджлівае надвор"е ). У гэты час адбываецца калектыўнае маленне — джума-намаз. Мусульмане слухаюць хутбу — маральную пропаведзь імама, муллы ці запрошанага ўлема — вучонага.

У побыце арабаў месяц прынята дзяліць на дзве часткі. У першую палавіну месяца дата ідзе па парадку, а у другую палавіну кажуць, напрыклад: да канца месяца 10 дзён, да канца месяца 5 дзён. І тут няма нічога дзіўнага, бо калі спытаць у чалавека пра час, то ён можа адказаць: 7 гадзін і 50 хвілін, або інакш: без 10 хвілін будзе 8. І мы гэта зразумеем.

Супастаўная табліца назваў дзён тыдня

I — беларуская, II — арабская, III — казанскататарская, IV — крымскататарская

| I | II | III | IV |
|---|---|---|---|
| панядзелак | існайну | дүшэмбе | базар эртеси |
| аўторак | суляcаў | сишэмбе | салы |
| серада | арабіаў | чэршэмбе | чаршенбе |
| чацвер | хамісу | пэнҗешэмбе | першенбе |
| пятніца | жумату | җомга | джума |
| субота | ссабту | шимбэ | джума эртеси |
| нядзеля | ахду | якшэмбе | базар |

РАЙ, а р - Р а й ( погляд, думка, суджэнне ), у мусульманскім праве пераважна азначае уласную незалежную думку або суджэнне законаведа ( фікга ), на падставе якой ён выказвае якое-небудзь прававое рашэнне. Узнікненне спецыфічнага паняцця ар-Рай па традыцыі звязваецца з халіфам Умарам ( Амарам, які правіў арабамі-мусульманамі у 634 -- 644 гадах ). Ён паслау Абдаллага бен Масуда, аднаго з паплечнікау Мухаммеда, у Ірак у якасці суддзі і настаўніка мусульманскай веры з наказам судзіць "як ведзіш і мяркуеш" ( бі-р-рай ва-н-назар ). Пры тым халіф растлумачыу, што пад ар-Раем разумееца суджэнне па аналогіі ( гл. Кійас ) грамадская карысць ( ал-маслаха ). За іракскімі паслядоунікамі Абдаллага бен Масуда замацавалася назва "прыхільнік незалежнай думкі" ( астаб ар-Рай ) у процілегласць медынскім факігам, названым "прыхільнікамі падання" ( астаб ал-хадзіс ). У пазнейшыя часы паняцце ар-Рай як комплекс рацыянальных метадау, што прымяняліся для даследавання прававых казусау, высноу прававых нормау і прымянення іх на практыцы, выйшла з ужытку і было паглынута паняццем іджціхад, або асацыіравалася з галоуным паняццем катэгорыі ар-Рай — ал-кійас ( гл. Кійас ).

СУДАН, Р э с п у б л і к а С у д а н ( афіц. назва Г у м х у р ы я а с - С у д а н ), дзяржава у Пауночна-Усходняй Афрыцы. Плошча 2,5 млн. кв. км. Насельніцтва звыш 26 млн. чалавек ( 1993), Сталіца — Хартум. Адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел: 9 штатау, якія складаюцца з 18 правінцый. Да абвяшчэння незалежнасці у 1956 г. — сумеснае уладанне Вялікабрытаніі і Егіпта ( Англа-Егіпецкі Судан ). Заканадаучы орган — Народны Парламент ( 1989) Глава дзяржавы — Прэзідэнт.

П р ы р о д а . Судан займае пауночна-усходнюю частку Афрыканскай платформы. Большая частка паверхні — плато вышынёй ад 300 да 1000 — 1500 м: Дарфур, Кардафан і інш. Над плато узвышаюцца астанцовыя горы і масівы ( г.Мара, 3088 м ). На поунача — пясчаная Лівійская і пясчана-каменістая Нубійская пустыні; на поудні — адгор"і Усходне-Афрыканскага пласкагор"я ( г.Кіньеты, 3187 м — найвышэйшы пункт краіны ); на усходзе — адгор"і Эфіопскага нагор"я. Клімат пераходны ад экватарыяльнага мусоннага ( на поудні ) да трапічнага пустыннага ( на поунача ). Сярэднемесячная тэмпература на поунача ад 15° да 35 °С, на поудні — ад 25° да 30 °С. Ападкау на поунача менш за 100 мм у год ( здараюц-

ца гады, калі ападкаў не бывае зусім ); на поўдні — ад 1000 да 1400 мм. Галоўная рака — Ніл, пераразае краіну з поўдня на поўнач ( у паўднёвым Судане Ніл называюць Бахр-эль-Джэбель, затым Белы Ніл, пасля зліцця з Блакітным Нілам — уласна Ніл ). Галоўныя прытокі: Эль-Газаль, Собаль, Блакітны Ніл, Атбара. Значная частка тэрыторыі не мае сцёку ( галоўным чынам на поўначы ).

З поўначы на поўдзень з павелічэннем увільгатнення змяняюцца трапічныя пустыні, паўпустыні і апустыненыя тыповыя і высакатраўныя саваны ( у адгор"ях Усходне-Афрыканскага і Эфіопскага нагор"я ), а таксама па далінах рэк — трапічныя і галерэйныя лясы. Ёсць 2 вялікія нацыянальныя паркі і некалькі прыродных рэзерватаў.

Н а с е л ь н і ц т в а . Больш за палавіну насельніцтва складаюць суданскія арабы. Жывуць таксама нубійцы ( у даліне Ніла ), беджа; на поўдні — негроідныя народы ( нуэр, шылук і інш. ); каля заходніх граніц — народы Цэнтральнага і Усходняга Судана ( азандэ, фор і інш. ). Афіцыйная мова — арабская. 70 % вернікаў ( на поўначы ) вызнаюць Іслам, каля 25 % ( на поўдні ) захоўваюць традыцыйныя вераванні; ёсць хрысціяне. Найбольш населены даліны Ніла і яго прытокаў. 11 % насельніцтва — качэўнікі, 18 % — напаўкачэўнікі. Гарадское насельніцтва — больш за 1/3. Найбольшыя гарады ( 1993 г., млн. чал. ): Хартум 2, Амдурман 2, Паўночны Амдурман 2 ( гэтыя гарады зліліся ў адзін вялікі горад ), Порт-Судан 0,3 на беразе Чырвонага мора. 2/3 насельніцтва занята ў сельскай гаспадарцы.

Г і с т о р ы я . Тэрыторыя Судана заселена чалавекам з найстаражытнейшых часоў. У 2-м тысячагоддзі да н.э. паўночную частку Судана — Нубію няраз заваёўвалі егіпецкія фараоны. У 1-й палавіне 8 ст. да н.э. у Нубіі ўзнікла рабаўладальніцкая Напацкая дзяржава, якая захапіла і ўтрымлівала Егіпет да сярэдзіны 7 ст. да н.э. У 6 ст. да н.э. сфарміравалася дзяржава Мераэ, у перыяд яе росквіту значнага развіцця дасягнулі сельская гаспадарка, рамёствы, паявілася першае ў Афрыцы алфавітнае ( ці літарнае) пісьмо ( т.зв. мераіцкае пісьмо ), у сярэдзіне 4 ст. н.э. большая частка дзяржавы Мераэ заваявана Аксумскім царствам. У 3 — 6 ст. у Судан пранікла хрысціянства, тут склаліся дзве хрысціянскія дзяржавы — Мукура на поўначы, Алоа на поўдні. З сярэдзіны 7 ст. у Судан пачалі пранікаць арабскія плямёны, з 9 ст. распаўсюджваўся Іслам. У 14 — 16 ст. узніклі мусульманскія султанаты Дарфур

і Сенар. Найбольш пашыранай мовай на тэрыторыі Судана стала арабская. У 1-й палавіне 19 ст. Судан заваяваны Егіптам. У канцы 60 — пачатку 70-х гадоў Вялікабрытанія, умацаваўшыся ў Егіпце, пачала пашыраць свой уплыў і на Судан. У ходзе паўстання махдзістаў ( 1881 — 1898 ) узнікла феадальная тэакратычная дзяржава ( 1885 — 1898 ). У 1899 г. падпісана англа-егіпецкае пагадненне, якое прадугледжвала сумеснае кіраванне Суданам ( т.зв. кандамініум) фактычна Судан быў англійскай калоніяй. Каланізатары ўвялі сістэму т.зв. ускоснага кіравання — кіраўнікам плямён і феадалам перадавалася некаторая адміністрацыйная і судовая ўлада.

Суданцы вялі ўпартую барацьбу за вызваленне, у 20-я гады узніклі першыя палітычныя арганізацыі, якія узначальвалі антыанглійскія выступленні. Уздым нацыянальна-вызваленчага руху пачаўся пасля 2-й сусветнай вайны. Паскорыўся працэс развіцця капіталістычных адносін. Ліпеньская рэвалюцыя 1952 г. у Егіпце дала новы штуршок барацьбе народаў Судана. У 1953 г. Вялікабрытанія падпісала англа-егіпецкае пагадненне, якое прызнавала за суданцамі права на самавызначэнне і устанаўлівала права на "пераходны" перыяд для паступовай перадачы ўлады суданскаму ураду. 1.1.1958 у Судане пры падтрымцы рэакцыйных сіл адбыўся дзяржаўны ваенны пераварот, у выніку якога распушчаны парламент, палітычныя партыі, прафсаюзы, павялічылася залежнасць краіны ад замежнага капіталу. Антыдэмакратычная унутраная палітыка ваеннага рэжыму абвастрыла супярэчнасці на поўдні Судана, дзе узмацніўся сепаратысцкі рух. У кастрычніку 1964 г. пачалася ўсеагульная забастоўка. У выніку народнага руху, падтрыманага арміяй, у кастрычніку 1964 г. рэжым ваеннай дыктаруры скінуты. У новы урад упершыню у гісторыі Судана увайшлі прагрэсіўна-дэмакратычныя сілы. У лістападзе 1964 г. урад адмяніў надзвычайнае становішча, адноўлена легальная дзейнасць усіх палітычных партый. У пачатку 1965 г. рэакцыя разгарнула наступленне супроць дэмакратычных сіл і дамаглася іх выхаду з урада. У краіне адноўлена ўлада рэакцыйнага блока кампрадораў, племянных вярхоў, уладальнікаў буйных памесцяў, чыноўнікаў. У выніку выступлення 25.5.1969 рэвалюцыйна-дэмакратычных армейскіх колаў, падтрыманых дэмакратычнай грамадскасцю, улада перайшла да Рэвалюцыйнага савета, які абвясціў Судан Дэмакратычнай Рэспублікай. Камуністы увайшлі ва урад. Распрацаваны 5-гадовы план эканамічнага развіцця, вызначаны мерапрыемствы па развіццю нацыянальнай эканомікі, поўдню краіны дадзена рэгіянальная аўтаномія, асла-

блены пазіцыі феадальных племянных вярхоу. У галіне знешняй палітыкі урад Судана абвясціу антыімперыялістычны, антыкаланіяльны курс. 19 — 22.7.1971 група леванастроеных афіцэрау зрабіла няудалую спробу дзяржаунага перавароту. Жорсткія рэпрэсіі супраць удзельнікау "руху 19 ліпеня" урад пашырыу і на камуністау: пакараны смерцю генеральны сакратар кампартыі А.Х.Махджуб, генеральны сакратар Федэрацыі рабочых прафсаюзау Судана Ш.А.Шэйх. Адзіная легальная палітычная арганізацыя — Суданскі сацыялістычны саюз ( заснавана у 1972 г. )

Г а с п а д а р к а . Судан — аграрная краіна. Сельскагаспадарчыя землі знаходзяцца ва уладанні дзяржавы, абшчын, прыватных гаспадарак. Ёсць буйнатаварныя і прыватныя гаспадаркі. Апрацоувaецца 18 % тэрыторыі ( у тым ліку 10 % арашаецца ), на лугі і пашы прыпадае каля 10 %, большая частка тэрыторыі пад пустынямі. Асноуную таварную прадукцыю дае земляробства ( паліуное — у далінах Ніла і яго прытоках, багарнае — на поудні ). Найважнейшая экспартная культура — бавоунік, па збору якога ( 200 тыс. т бавоуны-валакна ) Судан займае 2-е месца ( пасля Егіпта ) сярод краін Афрыкі. Асноуныя раёны вырошчвання бавоуніка: Гезіра — міжрэчча Белага і Блакітнага Ніла, а таксама даліны рэк Атбара, Белы і Блакітны Ніл. Вырошчваюць таксама кунжут ( 836 тыс. т ) і арахіс ( 900 тыс. т ) — на багары у асноуным на плато Кардафан і у басейне ракі Блакітны Ніл. Паусюдна высяваюць сорга ( асноуная харчовая культура, 5 млн. т збор у 1993 г. ). На поуначы — фінікавая пальма. Збор гуміарабіка ( 42 тыс. т ).

Жывёлагадоуля — асноуная крыніца існавання качэвой і напаукачэвой жывёлагадоулі. Пагалоуе ( млн. галоу ): буйной рагатай жывелы каля 20, авечак каля 20, козау каля 13. Рыбалоуства ( галоуным чынам на рэках ) развіта слаба. Нарыхтоука трапічнай лекавай сыравіны.

Здабываюць хромавую ( 23 тыс. т ), марганцавую ( 200 тыс. т ) руды, соль ( 32 тыс. т; з марской вады ). Перапрацоука сельскагаспадарчай сыравіны ( бавоунаачышчальная, тэкстыльная, скуранаабутковая, маслабойная, кансервавая, цукровая і іншая прамысловасць ). У вялікіх гарадах - маслабойная, нафтаперапрацоучая, цэментная, дрэваапрацоучая прамысловасць. Галоуныя прамысловыя цэнтры: Хартум, Амдурман, Порт-Судан, Атбара. Вытворчасць электраэнергіі больш за 1200 млн. кВт.гадз.

Даужыня чыгункі 5,5 тыс.км, аутамабільных дарог 21,4 тыс. км,

у тым ліку асфальтаваных каля 6 тыс. км). Важны марскі порт — Порт-Судан. Экспарт: каля 90 % — сельскагаспадарчая прадукцыя, у тым ліку бавоўна, арахіс, кунжут, гуміарабік. Асноўныя знешнегандлёвыя партнёры: Кітай, арабскія краіны і краіны Паўднёва-Усходняй Азіі.

Архітэктура, выяўленчае мастацтва. Старажытныя помнікі мастацтва Нубіі і Старажытнага Егіпта на тэрыторыі Судана адносяцца да 20 — 18 ст. да н.э. Зберагліся рэшткі архітэктурных помнікаў розных эпох ( царскіх палацаў, цэркваў, мячэцяў ). Народнае жыллё — круглыя ў плане глінабітныя хацiны ( у земляробчых раёнах ) і каркасныя дамы, накрытыя шкурамі і цыноўкамі ( у качавых народаў ). Традыцыйныя віды народных мастацтваў: апрацоўка металу, пляценне з травы і ратангу, вырабы са скуры, драўляная скульптура, складаная разьба і выпальванне на дрэве. З 1950 гадоў развіваецца прафесійнае мастацтва. Мастакі Х.Абас, А.О.Бешыр, М.Куа, А.Хамід, І. ас-Салах, А.М.Шыбраін, апіраючыся на мясцовыя традыцыі, асвойваюць вопыт еўрапейскага мастацтва.

СУДАНСКІЯ АРАБЫ, араба-суданцы, суданцы, народ, асноўнае насельніцтва Судана. Агульная колькасць каля 30 млн. чалавек, пераважная колькасць у Судане, часткова ў сумежных краінах. Падзяляюцца на некалькі дзесяткаў абласных і родава-племянных груп: шаігія, барабра, джаалійн і іншыя — у даліне Ніла; хасанійя, руфаа — на Белым Ніле; фунгі і іншыя — на Блакітным Ніле; шукрыйя, гавазама і іншыя — на поўдні Чырвонаморскай правінцыі; баггара — у саванах Кардафана, Дарфура, Бахр эль-Газаля і усходняга Чада; кабабіш, хававір, хамар, хомран і іншыя — на поўнач ад баггара. Адносяцца да мяшаных груп Судана, ёсць прадстаўнікі негроіднай расы. Размаўляюць на дыялекце арабскай мовы з шэрагам паддыялектаў і мясцовых гаворак. Суданскія арабы — мусульмане-сунніты.

Першыя групы арабаў праніклі ў Судан з Егіпта і з Аравіі праз Чырвонае м. ў 7 ст. У 9 — 10 ст. у выніку змяшання іх з афрыканцамі утварыліся араба-суданскія плямёны, якія разам з арабамі Верхняга Егіпта пачалі пасоўвацца на тэрыторыю хрысціянскіх нубійскіх дзяржаў, а затым на захад ад воз. Чад. На гэтай вялікай тэрыторыі адбывалася змяшанне арабаў з насельніцтвам рознага этнічнага паходжання, якое страціла сваю мову і рэлігію,

але зберагліі антрапалагічны тып і гаспадарча-культурн я асаблі - васці. Араба-суданскія плямёны і саюзы плямён у 1820 г. былі заваяваны Егіптам і фармальна далучаны да Асманскай імперыі. Стварылася арабамоўнае гарадское насельніцтва, якое з"явілася ў выніку змяшання еўрапейцаў, туркаў, чаркесаў, егіпцян з эфіопамі і паўднёвымі суданцамі. Кансалідацыя суданскіх арабаў, якая адбывалася адначасова з арабізацыяй разнастайных этнічных груп, узмацнілася ў час махдзісцкага паўстання ( 1881 — 1898 ) і махдзісцкай дзяржавы. У 20 ст. ( перыяд англа-егіпецкага кандамініуму і незалежнасці ) працягвалася пашырэнне арабскай мовы і культуры сярод насельніцтва Судана і кансалідацыі яго ў араба-суданскую народнасць. Сфармавалася нацыянальная буржуазія, рабочы клас і інтэлігенцыя, утварыліся палітычныя партыі.

Рост нацыянальна-вызваленчага руху прывёў да абвяшчэння Судана ў 1956 годзе незалежнай дзяржавай, узмацнення працэсаў нацыя - нальнай кансалідацыі.

У гаспадарцы асноўнае значэнне мае ворыўнае паліўное земля - робства ( проса, ячмень, пшаніца, бабовыя, агароднінныя і бахчавыя культуры, фінікавая пальма і інш. ). Асноўная таварная культура — бавоўнік. У Дарфуры і на поўдні пашыраны матыжнае земляробства ( сорга, проса, кукуруза і інш. ). Частка суданскіх арабаў ( кабабіш і інш. ) займаюцца качавым ( вярблюды, козы, авечкі ) і напаўкачавой ( буйная рагатая жывёла ) жывёлагадоўляй ( баггара і інш. ).

Тыпы жылля разнастайныя: у суданскіх арабаў у Нубіі пашыраны саманныя дамы з плоскім ці купалападобным дахам, у даліне Блакітнага Ніла — круглыя хаціны з галінак дрэў і чароту; трапляюцца хаціны на слупах-палях; качавое насельніцтва жыве ў палатках.

Традыцыйны касцюм асабліва пашырыўся у час махдзісцкай дзяржавы, у асноўным агульнаарабскага ( гл. Арабы ) тыпу з шэрагам мясцовых асаблівасцей; характэрны мужчынскі галаўны убор — цюрбан. Традыцыйная кухня уключае агульнаарабскія ( праснакі, падліўкі з бабовых і прыправамі, малочныя прадукты ), афрыканскія ( піва з сорга — мізр ) і мясцовыя стравы. Сістэма роднаснасці арабскага тыпу.

Сярод мусульман вылучаюцца прыхільнікі суфійскіх ордэнаў, якія сапернічаюць паміж сабой. Членства ў некаторых ордэнаў ідзе па спадчыне па бацькоўскай лініі і нярэдка ахоплівае цэлыя вобласці і рода-племянныя групы.. Зберогся музычны і паэтычны фальклор.

СЯМ"Я. Абавязкі мужа і бацькі. Правілы аб маральных абавязках чалавека да свайго сямейства устаноулены прарокам Мухаммедам, як піша "Шарыят ал-Іслам", наступныя: па Сунне галаве сям"і належыць паступаць такім чынам: бацька павінен паводзіць сябе у адносінах да сям"і у найвышэйшай ступені маральна; паводле выказвання Мухаммеда ( хадзіс ), найлепшы з людзей той, хто добры і карысны для сваей сям"і. Муж павінен памяркоуна адносіцца да недахопау сваей жонкі; наогул адносіцца да яе міласціва, чалавекалюбна і мякка. Звяртацца па магчымасці далікатна і ласкава, высакародна і дастойна мужчыны. Утрымліваць яе без прыцяснення і старацца па магчымасці рабіць ёй прыемнае, адпаведна з яе утрыманнем у доме бацькоу.

Усё гэта уваходзіць у абавязкі мужа, таму што жанчына лічыцца стварэннем слабым і, акрамя таго, не зусім самастойным, больш ці менш залежным ад свайго мужа. Муж павінен старацца цярпліва пераносіць засмучэнне, якое прычыніла яму жонка. Некаторыя з арабскіх мудрацоу гаварылі, што перанесеная адна прыкрасць ад жонкі раўняецца дваццаці прыкрасцям, якія прыдзецца перанесці ад іншых. Інакш кажучы, калі перажывеш прыкрасць ад жонкі, пазбавішся ад многіх непрыемнасцей, як, напрыклад, з прычыны адплаты: дзеці пазбавяцца ад тумака; посуд — ад разбіцця, конь — ад плёткі; вопратка — ад раздзірання; госць — ад непрыемнай сцэны і г.д.

Адносна парад мужа з жонкай: яны дапускаюцца толькі у малых і наогул чыста хатніх справах, у справах сур"ёзных трэба быць з жонкай асцярожным і трымаць язык за зубамі.

У "Шары" прыводзіцца наступны расказ. У Імама Шакіка жонка была ліхая. Калі яму параілі развясціся з жонкай, ён сказау: "Дапусцім, яна дрэннага нораву, але ж я лічуся выхаваным; калі ж паступлю з ёй так, як яна са мной, то і я буду такім жа, ды, акрамя таго, я баюся, што з прычыны яе дрэннага нораву ніхто не будзе утрымліваць яе. Прычыну усіх звадак трэба прыпісаць сабе і дапусціць, што калі б я сам быу добрага нораву, то і жонка была бы добраю."

Таксама не след у другі раз браць шлюб без уважлівых прычын на гэта. Адным словам, муж павінен адносіцца да сваей жонкі як мага лагодна, быць з ёю як мага добрым і справядлівым. Неабходна нават дапамагаць ва усіх яе хатніх справах.

Па словах імама Газалі, Мухаммед гаварну: "Дапамога сваей сям"і сцішае гнеў Аллага і павялічвае благадаць".

Нельга таксама застаўляць жонку працаваць акрамя дому ( на прадпрыемстве, ва установе ); хатнія ж работы лічацца яе абавязкам. Калі ж жанчына сама пажадае працаваць на прадпрыемстве ці ва установе, то гэта добрая і пахвальная справа.

Маральныя абавязкі бацькі да сваіх дзяцей, паводле Сунны, павінны быць, як піша "Шарыят ал-Іслам" наступныя: бацька павінен быць лагодным, справядлівым і міласэрным у абыходжанні са сваімі дзецьмі, а таксама павінен вучыць іх Ісламу, пісьменнасці і клапаціцца пра тое, каб яны былі дасведчанымі ў карысных рамёствах. Падарункі для дзяцей — хлопчыкаў і дзяўчынак, павінны быць аднолькавымі ( раўназначнымі ), але раздачу падарункаў трэба пачынаць з дзяўчынак, бо ў іх сэрца больш далікатнае, чым у хлопчыкаў.

Сагаба Анас перадае, што Мухаммед казаў, што калі чалавек пайшоў на рынак і купіў які-небудзь гасцінец ці падарунак сваім дзецям, то зрабіў вялікую добрую справу, прыемную Аллагу справу, і раіў пачынаць раздачы з дачок.

Маральнай справай чалавека Мухаммед лічыў выкананне абавязкаў да крэўных ( сілаі-рахм ), такіх як спытаць пра здароўе крэўных, хоць бы праз ліст, пастарацца выканаць іх просьбы і па магчымасці не адмаўляць. Калі ж крэўны апынецца ў бядзе, рабстве, то трэба старацца яго выбавіць. Павага і шанаванне павінны быць па парадку старшынства: паводле хадзіса, абавязак старэйшага брата перад малодшым ёсць як бы абавязак бацькі перад сынамі.

ТАТАРСТАН. Рэлігія. Татары вызнаюць мусульманскую веру сунніцкага толку, толькі татары-крашэны ( гл. Крашэны ) з"яўляюцца хрысціянамі. Як сведчаць гістарычныя крыніцы і археалагічныя раскопкі, продкі сучасных татар — булгары пачалі пераходзіць у Іслам ужо ў першыя гады IX ст. і гэты працэс завяршыўся у 922 г. абвяшчэннем Ісламу афіцыйнай рэлігіяй Волжскай Булгарыі.

Іслам, які прышоў на змену язычніцтву як ідэйна і арганізацыйна развітая рэлігія, стаў важным фактарам станаўлення культуры булгар і важным кампанентам нацыянальнай самасвядомасці. Ён сцэментаваў народ і дазволіў яму нават пасля знікнення дзяржаўнасці пад іншай этнічнай назвай захаваць сябе як адзіны этнас.

Прынящце Ісламу адкрыла булгарам магчымасць далучэння да перадавой араба-мусульманскай культуры, шырокага пранікнення у Волга-Кам"е пашыраных на Усходзе навукова-філасофскіх і літаратурна-мастацкіх ідэй. А гэта у сваю чаргу адыграла вельмі істотную ролю у развіцці культуры, навукова-філасофскай думкі булгарау.

З далучэннем да Ісламу быу закладзены фундамент і для асветы. З прынящцем Ісламу у булгар наладжваецца пэуная сістэма навучання. Мусульманская школа у булгара-татар з"явілася важным фактарам іх нацыянальнай кансалідацыі і самазахавання.

Прынящце Ісламу адыграла вырашальную ролю у пераутварэнні духоуных асноу грамадскага жыцця. Як і любая іншая рэлігія, Іслам уключае у сябе агульначалавечыя нормы маралі, прапаведуе ідэалы справядлівасці, любові, гуманнасці, духоунага удасканалення, асуджае жорсткасць, гвалт, дух абагачэння, дабіваецца укаранення новай шкалы каштоунасцей, што пакінула глыбокі след у гісторыі і бытавых традыцыях булгара-татар.

У XIII ст. Волжская Булгарыя неаднаразова перажывала цяжкія патрасенні, з розных бакоу нападалі на яе чужынцы, пакідаючы пасля сябе вялікія разбурэнні. Нягледзячы на гэта, народ, які сфарміравауся на яе тэрыторыі, выжыу і зберог сваю самабытнасць. Сілай, якая мацавала яго адзінства, этнічную цэласнасць, быу Іслам.

Цяжкія выпрабаванні выпалі на долю татар пасля пакарэння Казанскага ханства Іванам Жахлівым. З 1552 года татарскі народ знаходзіуся пад двайным прыгнётам.

Супроць мусульман на працягу чатырох стагоддзяу ужываліся усе віды уціску — прамыя рэпрэсіі, эканамічнае уздзеянне, рэлігійная зневага. Так, у 1756 г. у Казанскай губерні было разбурана 418 мячэцяу, у Сімбірскай — 98, Астраханскай — 29 мячэцяу.

Нягледзячы на сацыяльна-эканамічны і нацыянальны уціск, палітыка-прававыя ганенні і мэтанакіраваную русіфікацыю, татарскі народ і на гэты раз выжыу, зберог сваю культуру. У гэтым вырашальную ролю адыграу Іслам, які стау асновай яго нацыянальнай свядомасці, ідэалагічнай апорай у зберажэнні нацыянальнай самабытнасці. Шматвяковыя рэлігійныя і нацыянальныя праследаванні з боку царскага урада і праваслауных місіянерау прывялі да кансервацыі сярод татар-мусульман рэлігійных нормау.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі рэлігія становіцца прыватнай справай кожнага грамадзяніна. У сапраудднасці ж была афіцыйная ідэалогія — рэлігія — замянілася новай — марксісцка-ленін-

скім вучэннем аб камунізме, якое па сутнасці аказалася новай формай сакральнасці ( рэлігійнага культу ).

Праваслаўнае духавенства паставілася ў цэлым да савецкай улады варожа: праваслаўе траціла прывілеяванае становішча дзяржаўнай рэлігіі. Мусульманскае ж духавенства, якое да рэвалюцыі знаходзілася ў прыніжаным становішчы, рэагавала дваяка. Адна частка, звязаная з капіталам, была настроена варожа ў адносінах да новага ладу. Другая частка падтрымлівала рэвалюцыю і першыя крокі савецкай дзяржавы. Лаяльныя адносіны татар да новай улады тлумачацца часткова уплывам прамусульманскай плыні ўнутры партыі бальшавікоў, выразнікам якой быў М.Султан-Галіеў. Ён і некаторыя мусульманскія багасловы спрабавалі паказаць, што ёсць шмат агульнага ў ідэях сацыялізму, камунізму і Ісламе.

Пасля разгрому султан-галіеўскага "нацыянал-укланізму" адносіны да Ісламу становяцца непрымірымымі. Кіно, тэатры, музеі, клубы, бібліятэкі, перыядычныя выданні — усё выкарыстоўваецца як сродак барацьбы супроць рэлігіі. Падрыхтоўкай атэістаў пачынае займацца ў 1922 г. Татарскі камуністычны універсітэт. Прыняты тады ж закон, які патрабаваў абавязковай рэгістрацыі рэлігійных аб"яднанняў, практычна ануляваў абвешчанае раней аддзяленне рэлігіі ад дзяржавы.

Перыяд барацьбы з "нацыянал-укланістамі" супаў з калектывізацыяй і раскулачваннем. Муллаў нярэдка раскулачвалі ў першую чаргу, пазбаўлялі іх грамадзянскіх правоў. У перыяд масавых рэпрэсій 30-х гадоў мусульманам акрамя агульных для усіх абвінавачванняў прад"яўлялі абвінавачван          цюркізме і панісламізме. "Ворагамі народа" абвяшчаліся не толькі актыўныя працаўнікі пераходу з арабскай графікі на лацінку (          ), а затым кірыліцу ( 1939 г.) але і тыя, хто захоўваў кнігі, напісаныя арабскай графікай, нават свецкага зместу. Многія кнігі палілі, іншыя хавалі на мізарах у магілы продкаў.

Культавыя установы зачыняліся або знішчаліся зусім. На 1 красавіка 1939 г. з 1598 мячэцяў і 560 цэркваў, што дзейнічалі на тэрыторыі рэспублікі да рэвалюцыі, 817 скарыстоўвалі пад культурныя установы — школы, клубы і інш., 159 — для гаспадарчых патрэб, па прызначэнні дзейнічала толькі 612.

У сямейным побыце татар, асабліва сельскіх, рэлігійныя абрады працягвалі шырока бытаваць, часта паралельна з новымі. Захаванню гэтага спрыяў і той факт, што адпраўляць рэлігійны абрад у якасці неафіцыйнага муллы можа любы мужчына, які ведае асновы веравучэння і абраднасць.

У гады Вялікай Айчыннай вайны адбылося некаторае паслабленне атэістычнай работы і ажыўленне набожнасці. Духавенства звярнулася да вернікаў з заклікам абароны Радзімы на фронце і ў тыле. У мячэцях збіралі грошы, адзенне, харчы для фронта, дзіцячых дамоў і г.д.

У 50-я гады пасля больш-менш лаяльных адносін дзяржавы да рэлігіі ў гады вайны і пасляваенныя часы, гэтыя адносіны сталі менш цярпімымі, пачалася новая паласа забаронаў.

У 60 — 80-я гады на тэрыторыі рэспублікі было праведзена некалькі этнасацыялагічных даследаванняў, якія дазволілі прасачыць тэндэнцыю развіцця набожнасці сучасных татар. Па матэрыялах даследаванняў апытанае насельніцтва размеркавалася наступным чынам.

Адносіны да рэлігіі вясковых жыхароў
( у працэнтах )

| Групы насельніцтва па адносінах да рэлігіі | 1967 г. | 1980 г. | 1989 г. |
|---|---|---|---|
| Вернікі | 17,9 | 15,7 | 43,4 |
| Нястойкія вернікі | 19,7 | 14,9 | 19,1 |
| Індыферэнтныя ( абыякавыя ) | 46,6 | 59,1 | 12,3 |
| Атэісты | 15,8 | 10,3 | 24,1 |

Сярод татар назіраецца павышаная колькасць людзей, якія адзначаюць рэлігійныя святы і выконваюць абрады. Так, доля такіх асоб павялічылася з 1967 да 1980 і 1989 гадоў адпаведна з 30,8 % да 51,7 % і 57,9 %. Пры гэтым сярод татар, продкі якіх вызнавалі Іслам, Курбан-Байрам, Рамазан-Байрам і іншыя святы адзначалі 43,5% рэспандэнтаў ( апытаных ) 1980 года і 51,5 % — 1989 г. Сярод крашэнаў Вялікдзень, Раждство, Тройцу, Прастольныя святы адзначалі адпаведна 62,9 % і 85,7 %.

Пры гэтым трэба адзначыць, што набожнасць татар дастаткова па-

вярхоўная. Вынікі даследавання, праведзенага ў канцы 60-х гадоў, паказалі, што сярод вернікаў- мусульман поўны ( пяціразовы ) намаз звяршалі 19,2 %, пятнічныя — 9 %, па рэлігійных святах — 14,6 %, пасцілі ў Рамазан — 60 %. Вынікі апытвання, праведзенага ў 1989 г. ў вёсках і ў 1990 г. — у Казані, ведчаць пра тое, што не больш за 4 % асоб, якія назваліся вернікамі і няцвердымі вернікамі ў першым выпадку і 8,3 % — у другім — наведваюць мячэці, а 29,5 % і адпаведна 13,9 % — моляцца дома. Адметна, што 66,7 % прадстаўнікоў гэтай групы ў вёсках і 77,8 % у Казані не наведваюць мячэці, але лічаць сябе мусульманамі.

Відаць, на пэўным этапе развіцця этнасу, ва ўмовах, калі знікае нацыянальная спецыфіка матэрыяльнага побыту, страчваецца мова, забываецца гісторыя народа, менавіта рэлігія іграе кампенсатарную ролю ў адраджэнні нацыянальнай самасвядомасці. Яна, рэлігія, выконвае і ахоўную функцыю, стрымлівае размыванне спецыфікі, забяспечвае такім чынам выжыванне этнасу.

На працягу многіх стагоддзяў у выніку здольнасці Ісламу дапасавацца да мясцовых умоў і традыцый, яго рэгламентацыі ўсіх бакоў жыцця людзей, адбылося цеснае ўзаемапранікненне культуры і побыту народа і рэлігіі. 47 % апытаных у 1989 г. ў вёсках і 58 % — у Казані лічаць, што захаваць нацыянальную культуру без рэлігіі немагчыма і наўрад ці магчыма. Сярод татарскай творчай інтэлігенцыі такіх поглядаў прытрымліваецца больш за 80 %.

З канца 80-х гадоў назіраецца "адліга" ва ўзаемаадносінах дзяржавы і мусульманскіх рэлігійных арганізацый. Аб гэтым сведчыць шырока адзначаная ў краіне ўрачыстасць з нагоды 1100-годдзя ( па Хіджры ) прыняцця Ісламу ва Усходняй Еўропе і 200-годдзя ўстановы ДУМЕСа — Духоўнага Упраўлення Мусульман Еўрапейскай часткі СССР і Сібіры ( у Сярэдняй Азіі, на Каўказе і Беларусі ёсць свае духоўныя ўпраўленні ), якія адбылися ў Башкартастане і Татарстане ў 1989 г. Даволі часта адбываюцца выступленні святароў па тэлебачанні, радыё, на старонках газет і часопісаў. Павялічылася колькасць афіцыйна зарэгістраваных рэлігійных арганізацый. Так, у 1988 г. было зарэгістравана 19 мусульманскіх абшчын, а ў 1991 г. налічвалася 208 абшчын.

Талерантнасць і павага да рэлігійных пачуццяў вернікаў, прынянцце рэлігіі ў якасці нормы на ўзроўні дзяржаўнай ідэалогіі, становяцца ўсе больш пашыранымі ў грамадскай свядомасці.

ФЕРЭІ ( араб. фарӣй ), ф і р э і , ф е р э і . Паводле фальклору беларускіх, літоўскіх і польскіх татар на свеце існуе вельмі многа варожых чалавеку духаў — ферэяў. Яны нічога дрэннага не могуць зрабіць для Аллага, але шкодзяць людзям. Ферэі жывуць у змрочных лясах, у балотах, у разбураных храмах, на могілках, на пустэчах. Праходзячы каля такіх месц трэба прачытаць адпаведнае дуа ( малітву ). Ферэі могуць прыняць выгляд чалавека, жывёлы або пачвары. Выходзяць яны са сваіх логвішчаў у сутонне ( змяркание ), пасля вячэрняй малітвы людзей і пачынаюць шкодзіць. У такі час небяспечна нават вымаўляць слова ферэй. Найбольш небяспечны з ферэяў Ібліс ці Шайтан. Паводле вераванняў нашых татар, ферэі могуць пранікнуць у цела чалавека і выклікаць цяжкае захворванне. Выгнаць ферэя з цела чалавека можна толькі з дапамогай малітваў і заклінанняў ( гл. Кура́нне, фалджэй ). Татары, як і навакольнае хрысціянскае насельніцтва, лічаць, што у час смерці за душу памерлага вядуць змаганне ангелы і ферэі. Калі чалавек паміраё, то за яго душу трэба маліцца, нельга да пахавання пакідаць цела памерлага без прагляду вернікаў. Захаваліся шматлікія легенды пра ферэяў Гл. адпаведны артыкул, а таксама арт. Ферэйская хвароба ).

ШАРБЕТ ( арабс. сарба ), салодкі ахаладжальны напітак. Робяць на аснове натуральнага соку ягаднага ці садавіннага. Шарбет можа быць густы ці вадкі, суадносіны вады і сіропу 3:І, 5:І. Характэрна ў іх утрыманне вострых і фарбавальных рэчываў, якія ўзмацняюць смакавую і зрокавую прывабнасць. Часцей за ўсё шарбет гатуюць з граната, абрыкосаў, вінаграду, клубніцы, вішні, лімонаў, а таксама яблыкаў, ігрушаў, тутоўніку. Для гэтага ягады ці садавіну мыюць, ачышчаюць і здрабняюць, засыпаюць цукрам і пакідаюць на І0 — І2 гадзін ( лепш на суткі ), каб выйшаў сок. Да соку дадаюць ваду і цукар і гатовы цукровы сіроп гатуюць на слабым агні, абавязкова памешваючы. Даводзяць да кіпення і здымаюць з агню, цэдзяць праз сіта. Затым дадаюць прысмакі, араматызатары, фарбавальнікі. Найчасцей скарыстоўваюць ваніль, ванілін, апельсінавую і лімонавую цэдру, алей з ружы, шафран. Напітак рыхтуюць у эмаліраваным ці фарфоравым посудзе. Падаюць гасцям на вяселлі, у час свята. П"юць ахалоджаным, часам з ільдом. Шарбет як сезонны напітак упамінаецца ў старадаўніх татарскіх кнігах — Аль-Кітабах.

ШУАЙБ, Шу"айб, прарок, якога паслаў Аллаг да народа асгаб ал-Айка ( агл Мадйан ). Згодна Кур"ану, ён заклікаў свой народ пакланяцца толькі Аллагу, не ашукваць людзей, не пашыраць бязбожжа, заклікаў помніць пра лёс тых, хто раней не верыў прарокам, пра народы Нуга, Гуда, Саліга, Лута. Шуайбу павершла толькі невялікая частка жыхароў Мадйана, большасць палічыла яго апантаным, чараўніком і махляром. Яго папракалі за нязнатнае паходжанне, пагражалі закідаць камянямі, выгнаць. Ад тых, хто паверыў у Аллага патрабавалі адрачыся і вярнуцца да веры бацькоў. Але прававерныя не сталі язычнікамі, заклікалі Аллага рассудзіць іх з няверными. Настала жорсткае пакаранне — "лямант", "землятрус". Усе, хто не паверыў Шуайбу, загінулі і "апынуліся ранкам у сваіх дамах ляжачымі ніц і мертвымі" Пра Шуайба сказана ў Кур"ане ў наступных сурах ( першая лічба, пасля працяжніка лічба азначае нумар аяў ). Суры: 7 — 85 — 93; II — 84 — 95; I5 — 78; 26 — I76 — I9I; 29 — 36 і 37; 38 — I3; 50 — I4.

ШУАРА, Аль-Шуара, Аш-Шуара, 26-я сура з Кур"ана. Складаецца з 227 аятаў. Названа ад слова ў 224-м аяце ( у некаторых выданнях Кур"ана гэты аят ідзе пад нумарам 225 ) і абазначае слова паэты. Звязана з пазіцыяй старажытнаарабскіх паэтаў і іх былой ролі ў арабскай грамадскасці перад Ісламам, падкрэслена розніца паміж паэтам і Прарокам. Ворагі Мухаммеда часам сцвярджалі, што Мухаммед толькі паэт-прадказальнік і больш ніхто, тым больш што ў няпісанай гісторыі арабаў было перакананне, што паэты натхняюцца джынамі ( духамі ).

Сура гэта складаецца з кароткага ўступу і сямі расказаў аб місіях пракокаў, пасланых да розных народаў: Мусы ( Майсея ), Ібрагіма ( Аўраама ), Нуха ( Ноя ), Саліга ( Саліха ), Лута ( Лота ) і Шуайба. Гэтыя расказы маюць на мэце падкрэсліць вернасць Аллагу яго пасланнікаў у час, калі няверннікі праследавалі і супраціўляліся пасланнікам, аднак панеслі за гэта заслужаную кару. Сура указвае, што ўсе пасланнікі Аллага прыходзілі з той самай прарочай місіяй. Адметнасцю гэтай суры з"яўляецца рэфрэн: "Сапраўды, у тым ёсць знак, хоць большасць людзей не вераць ! Сапраўды, твой Уладар ёсць Магутны, Літасцівы !"

## СЛАВУТЫ МУСУЛЬМАНСКІ ДЗЕЯЧ

Атаулла Баязітау ... Цяпер мала каму што-небудзь можа сказаць гэтае імя. Вось ужо больш за 70 гадоу яно знаходзіцца у забыцці. А між тым гэта быу адзін са славутых татарскіх асветнікау і грамадскіх дзеячау. Яго ведалі усе мусульмане Расіі, у тым ліку татары Беларусі, Літвы і Польшчы.

Атаулла ( Гатаулла ) Баязітау нарадзіуся у 1846 годзе у сяле Цемгенева ( Цюбенау ) Касімаускага павета Разанскай губерні у сям"і вясковага муллы. Цікауны, здольны хлопчык пачатковую адукацыю атрымау ад бацькі, які навучыу яго арабскай графіцы і мове, пазнаёміу з асновамі Ісламу і Шарыяту. Затым падлетак паступіу у вышэйшае медрэсе у сяле Чатаева ( Чутай ), у якім праз тры гады пасля заканчэння вучобы быу настаунікам логікі і філасофіі. У кастрычніку 1870 года Баязітау вытрымау экзамен у Арэнбургскім духоуным сабранні і атрымау годнасць імама-хатыба, джалія-мударрыса ( кіраунніка духоунай абшчыны, кіраунніка-настауніка ). Касімауская абшчына Санкт-Пецярбурга, да якой дайшлі чуткі пра выдатнага маладога мударрыса, запрасіла яго у 1871 годзе на вакантную пасаду імама, у выніку чаго Баязітау пакідае правінцыю і пераязджае у Санкт-Пецярбург, у Адміралцейскую частку сталіцы — на Мойку, д.22.

Дзякуючы арганізатарскім здольнасцям новага імама-хатыба, касімаускім татарам удаецца вылучыцца у асобны другі мусульманскі прыход, ахунам якога выбіраюць Баязітава. Пад апекай Баязітава, акрамя цывільнага насельніцтва, знаходзіцца таксама мусульманскі прыход часткі імператарскай гвардыі Санкт-Пецярбургскага гарнізона.

У 1880 годзе Баязітау быу запрошаны у Азіяцкі дэпартамент Міністэрства замежных спрау на пасаду перакладчыка з цюркскіх моу, а у 1888 годзе ен ужо выкладае цюркскія мовы у навучальным аддзяленні усходніх моу у тым жа дэпартаменце

Наогул, Баязітау валодау многімі усходнімі і еурапейскімі мовамі, пісау на татарскай, рускай, арабскай і мове фарсі ( персідскай ). Санкт-Пецярбург — вялікі цэнтр сусветнай культуры і навуковы цэнтр, з унікальнымі кнігасховішчамі, з усходнім аддзяленнем універсітэта — дазволіу Баязітаву пазнаёміцца з рускай рэлігійнай філасофіяй, а таксама з працамі вядомых заходнееурапейскіх філосафау, ісламаведау. Сярод іх — "Рэлігія іслама" Канілляка,

"Магамет і Каран" Давенпорта, "Жыццё Магамета" Бозварта Сміта, "Жыцце Магамета" Вашынгтана Ірвінга, "Хрысціянская рэлігія, яе філасофскія прынцыпы і яе ворагі" Джона Джосефа Лена, "Гісторыя арабскай цывілізацыі" Лебона і інш. Баязітаў вывучае ў арабскіх перакладах з старажытнагрэчаскай працы Еукліда па матэматыцы, Пталемея — па геаграфіі і астраноміі, Гіпакрата — па медыцыне, Арыстотэля — па філасофіі. Што ж датычыцца вялікіх арабскіх мусульманскіх вучоных, філосафаў і урачоў — Авіцэнны, ар-Разі ( Разеса ), аль-Баттані, Ібн-Хальдуна, аль-Газалі Шарыфуль-Аллят — то іх працы ён прачытаў яшчэ ў медрэсе. Як казаў Баязітаў, веды і навука ёсць бясцэнны перл, дзякуючы ведам Адам і стаў халіфам на зямлі.

Грамадская і асветніцкая дзейнасць Баязітава праходзіла ў Паўночна-Заходнім, аддаленым ад мусульманскіх цэнтраў, рэгіёне Расіі. Многія татары па волі гістарычных падзей жывучы на Беларусі, у Літве і Польшчы, паступова забылі родную мову і не былі знаёмы з арабскай графікай. Менавіта для іх ахун Баязітаў у 1897 годзе склаў невялікую брашуру "Шарыят аль-Іслам" ( "Запаведзі Ісламу" ), у якой асноўныя аяты Кур"ана былі напісаны кірыліцай і суправаджаліся перакладамі на рускую мову.

Шматлікія артыкулы, нарысы, у асноўным па ісламазнаўству, патрабавалі сістэматычнага, рэгулярнага выдання. У верасні 1905 года Баязітаў заснаваў першую у Расіі татарскую газету "Нур" ( "Святло" ) на казанскім дыялекце.

Спачатку гэтая газета друкавалася у друкарні вядомага татарскага кнігавыдаўца Ілляса Бараганскаг , якая знаходзілася на Бальшым праспекце Санкт-Пецярбургскай стараны у доме 45, рэдакцыя ж знаходзілася ў Касімаўскім прыходзе па адрасу: Мойка, д.22. У газеце "Нур" асвятляліся пытанні духоўнага і грамадскага жыцця татарскай дыяспары Санкт-Пецярбурга і губерні, даваўся агляд жыцця і дзейнасці мусульман у Расіі і за мяжой, друкаваліся афіцыйныя і дзяржаўныя акты і заканадаўчыя распараджэнні, якія датычыліся розных пытанняў жыцця мусульман, што жылі у Расіі. Адносіны рэдакцыі да заканадаўчых актаў былі далёка не адназначнымі. Напрыклад, на яе старонках ішла вострая дыскусія адносна пытання вызвалення мусульманскіх святароў ад агульнай вайсковай павіннасці. Некаторыя татарскія асветніцкія літаратурныя колы па прычыне багацця публіку-

емай у гэтай газеце дзяржаўнай афіцыйнай інфармацыі называлі яе кансерватыўна-бюракратычнай, адносілі яе да клерыкальна-рэлігійнай па сваім накірунку.

Унікальны помнік усходняй архітэктуры на берагах Нявы — Саборная кафедральная мячэць — абавязана сваім паяўленнем таксама ініцыятыве і намаганням Баязітава. Пытанне аб пабудове мячэці у Санкт-Пецярбургу ўзнікла у 1882 годзе. Міністр унутраных спраў Д.А.Талстой згадзіўся дапамагчы ў ажыццяўленні праекта ( архітэктар — прафесар Мустафа Крычынскі, наш татарын — заўвага рэд.) Толькі у 1906 годзе, пасля шматлікіх бюракратычных перашкод Баязітаву удалося, нарэшце, стварыць асобны камітэт для збору сродкаў на будаўніцтва, які ён узначаліў. Сабраць патрэбную колькасць сродкаў аказалася цяжка. Па ініцыятыве Баязітава камітэт звярнуўся да генерал-ад"ютанта Сяіда Абдул-Ахмата, эміра бухарскага, з просьбай аказаць дапамогу. У выніку была атрымана матэрыяльная дапамога на куплю ўчастка зямлі пад будаўніцтва. Аднак цяжкасці на гэтым не скончыліся. У 1909 годзе тэхніка-будаўнічы камітэт Міністэрства ўнутраных спраў разам з Акадэміяй мастацтваў выказаў пратэст з прычыны выбара пляцоўкі для закладкі храма паблізу Петрапаўлаўскага сабора, царквы святой Тройцы і дома Пятра Вялікага, бо гэта, быццам, парушала цэласнасці гэтай найбольш старадаўняй часткі горада.

Ахун Баязітаў карыстаўся павагай і аўтарытэтам у вышэйшых колах імператарскай адміністрацыі, быў узнагароджаны многімі ордэнамі і медалямі, і яго візіт разам з членамі камітэта да тагачаснага старшыні Савета Міністраў П.А.Сталыпіна завяршыўся паспяхова. Дазвол на закладку мячэці, нарэшце, быў атрыманы. 3 лютага 1910 года адбыўся ўрачысты акт закладкі мячэці, на якім акрамя татарскай грамадскасці, прысутнічалі прадстаўнікі вышэйшых слаеў адміністрацыі імперыі. Стары пецярбурэц Усман-эфендзі Бурундукоў успамінаў: "Дзень быў марозны. Ахун, нягледзячы на хваробу, высокую тэмпературу, прыехаў своечасова і здзейсніў абрад закладкі. Баязітаў звярнуўся да прысутных на рускай мове са словамі удзячнасці ад імя мусульман, якія пражываюць у Расіі, а разам з тым і да ўсіх народаў Расіі памаліцца за шчасце і росквіт сваей Айчыны.

Такім быў гэты незаслужана забыты, выдатны татарскі асветнік, гуманіст, грамадскі дзеяч рэфарматарскага тыпу. Атаўлла Баязітаў таксама як і Ісмаіл-бей Гаспралы ( Гаспрынскі ), увесь час змагаўся са схаластычнымі поглядамі кансерватыўных прадстаўнікоў мусульманскага святарства і іншых канфесій, пры гэтым беражна захоўваючы і спалучаючы асновы Ісламу і еўрапейскай культуры.

Энергічнае, падзвіжніцкае жыццё з вялікімі эмацыянальнымі перагрузкамі, падарвала здароўе ахуна. Завяршыўшы адну з галоўных спраў свайго жыцця -- закладку Саборнай кафедральнай мячэці, Атаўлла Баязітаў -- ахун, імам, мударрыс — памер 21 красавіка 1911 года. У дзень яго пахавання, паводле традыцыі, якая існавала ў Санкт-Пецярбургу, яму як найвышэйшаму мусульманскаму дзеячу, быў аказаны апошні гонар. Па загаду граданачальніка на пяць хвілін быў спынены рух гарадскога транспарту і працяглыя гудкі заводаў і фабрык ушанавалі памяць памерлага. Пахаваны ен на татарскай пляцоўцы старадаўніх Волкавых могілкаў.

Кніга "Адносіны Ісламу да навукі і іншаверцаў" з"явілася вынікам глыбокага роздуму Баязітава. Гэта кніга была напісана на рускай мове і прызначана для чытачоў розных веравызнанняў. У гэтай кнізе Баязітаў пераканаўча даказвае верацярпімасць, якую прапаведваюць рэлігійныя ўстановы Ісламу, дружалюбныя адносіны мусульманскага свету да хрысціянскага. Ен лічыў, што ў Ісламе няма нічога варожага хрысціянству. Піша ен і пра адносіны Ісламу да навукі: "Мэта Ісламу — прымірыць навуку з рэлігіяй і нікольki не перагароджваць шляху вучоным у іх пахвальных імкненнях. Найвышэйшы ідэал, да якога імкнецца чалавецтва, і канчатковая мэта яго развіцця на зямлі — ёсць аб"яднанне рэлігіі і навукі, гэтых найважнейшых абласцей духоўнага свету чалавека". У прыватнасці, гэта кніга — адказ Баязітава на брашуру французскага вучонага Эрнеста Рэнана "Іслам і навука" ( 1883 ).

# ГАСАН КАНАПАЦКІ

Нарадзіўся ён 25 лютага 1879 года ў Менску ў шляхецкай сям"і мусульманскага веравызнання. Вучыўся ў Полацкім кадэцкім корпусе, затым у Санкт-Пецярбургу ў артылерыйскім вучылішчы да 1897 года. Паручнікам пачынае службу. У 1904 годзе накіраваны ў Забайкальскую вобласць, дзе фарміравалася Першая Сібірская артылерыйская брыгада. Там быў прызначаны старшым афіцэрам першай батарэі. У 1904 — 1905 гадах удзельнічаў у руска-японскай вайне. У Ляаянскай бітве ў жніўні 1904 года быў паранены. За удзел у вайне з Японіяй узнагароджаны медалямі Святой Ганны і Святога Станіслава. У 1906 г. артылерыйская брыгада перамясцілася ў Чэрчынск. Як афіцэр першай батарэі Гасан Канапацкі з"яўляўся таксама членам ганаровага суда, пазыковай касы і кіраўніком афіцэрскай бібліятэкі. У 1909 годзе атрымаў чын капітана. У 1912 годзе адпраўлены ў Хабараўск для абучэння рэкрутаў. Неўзабаве па ўласнаму жаданню быў пераведзены ў Калугу. У 1914 годзе камандаваў 57-й артылерыйскай брыгадай. У час Першай сусветнай вайны быў паранены. У 1916 годзе атрымаў званне падпалкоўніка, а 6 лістапада 1917 года — палкоўніка і камандава 69-й артылерыйскай брыгадай. У час вайны быў атручаны газамі, лячыўся і служыў у Менску ў эвакуацыйным пункце ( май — кастрычнік 1917 г. ). 10 мая 1918 года ў сувязі з расфарміраваннем 69-й артылерыйскай брыгады здаў грошы і дакументы Маскоўскаму абласному камісарыяту ваенных спраў і апынуўся ў родным горадзе — Менску.

На той час пасля абвяшчэння БНР існавала Цэнтральная вайсковая камісія, якая намагалася стварыць беларускае войска. Нізкая палітычная свядомасць у самой Беларусі не спрыяла стварэнню дзяржаўных вайсковых фарміраванняў. Перашкодай былі таксама нямецкая і польская акупацыі. Беларускі полк, які размяшчаўся ў Гродне, быў раззброены пасля 27 красавіка 1919 года. У жніўні 1919 года пасля ўступлення палякаў у Менск, на сустрэчы з беларусамі Юзаф Пілсудскі абяцаў супольнае змаганне за незалежнасць. Акупацыя Менска з 8 жніўня 1919 года да 11 ліпеня 1920 года паспрыяла вылучэнню паланафільскага напрамка адбудовы Беларусі. Сярод прыхільнікаў адбудовы Беларусі пры Польшчы былі: Павел Аляксюк, Аляксандр Прушынскі, Гасан Канапацкі. На аснове перамоваў з раней згаданымі Юзаф Пілсудскі выдаў дэкрэт, які дазваляў фарміраваць беларускае

войска і зацвярджаў Беларускую вайсковую камісію. Палкоўнік Гасан Канапацкі з увагі на мусульманскае веравызнанне і лаяльнасць польскай дзяржаве быў для Юзафа Пілсудскага выгадным кандыдатам у камандзіры. З дэкрэта Ю.Пілсудскага: "Палкоўніка Гасана Канапацкага, запрапанаванага мне Беларускай вайсковай камісіяй, назначаю камандзірам беларускага войска. Месцам фарміравання беларускага войска назначаю Слонім.

Дзеля арганізацыйнай падрыхтовачнай работы назначаю Беларускую вайсковую камісію, якая ў паразуменні з камісарыятам Усходніх зямель і камандаваннем Гродзенскай Акругі будзе прганізаваць беларускае войска:

1. Маючы адпаведныя наказы палкоўніку Канапацкаму.
2. Утвараючы адпаведныя падкамісіі.

У склад камісіі ўваходзяць: палкоўнік Канапацкі, сп. Рак-Міхайлоўскі, штабс-капітан Кушаль, сп. Аляксюк, палкоўнік Якубоўскі, сп.сп. Мурашка, Аўсянік, Прушынскі, штабс-капітан Якубоўскі."

У "Беларускім жыцці" ад 7 лістапада 1919 года Гасан Канапацкі так прадстаўляў канцэпцыю будавання беларускага войска: "Пачаткам будавання арміі галоўным чынам будзе падгатоўка кадраў, як афіцэрскіх, так і падафіцэрскіх. Для гэтага цяпер жа усе афіцэры арганізацый Гродзенскай і Віленскай, а таксама зарэгістраваныя ў Менску, па разглядзе іх дакументаў кваліфікацыйнай камісіяй будуць залічаны ў рэзерв і павінны праслухаць паўторныя афіцэрскія курсы і курсы беларусазнаўства, а асабліва беларускай мовы і пераглумачаную камандную і вайсковую тэрміналогію. Праслухаўшы курсы, кожны з іх атрымае адпаведнае становішча ў фармаваным войску".

На аснове дамоваў з польскімі вайсковымі ўладамі ў сакавіку 1920 года адкрыліся 9-месячныя курсы ў Варшаве ў Школе падхарунжых і 3-месячныя ў Астрове ( Ломжынскае ваяводства) для 100 — 120 беларусаў. Цэнтральным месцам фармавання войска быў Слонім, а пасля Баранавічы. Паводле гісторыка М.Сташкевіча было завербавана 485 чалавек.

Пасля адыходу палякаў летам 1920 года былі распушчаны Беларуская вайсковая камісія і Беларускае войска. Не было яно шматлікае, але гэта можна вытлумачыць адносінамі палякаў да беларускага палка ў Гародні ў 1919 годзе і наогул да Беларусаў.

Калі Рыжскі дагавор у 1921 годзе падзяліў беларускія землі, Гасан Канапацкі апынуўся ў Вільні. З гэтым перыядам звязана таксама

ягонАя дзейнасць у беларускім руху. Быў намеснікам старшыні Рады старэйшых Беларускага музычна-драматычнага гуртка і сакратаром Беларускага грамадзянскага сабрання. Пасля расколу у апошнім 21 верасня 1924 года за утворанай Часовай беларускай радзе быў намеснікам старшыні. Супрацоўнічаў з Францішкам Аляхновічам, Арсенем Паўлюкевічам, Макарам Касцевічам ( Краўцовым ). На з"ездзе Заходняй Беларусі, скліканым Часовай беларускай радай 26 чэрвеня 1926 г. Гасан Канапацкі удзельнічаў як прадстаўнік таварыства "Прасвета". На з"ездзе была зменена назва арганізацыі на Беларускую нацыянальную раду. Выступіла яна супроць Беларускай сялянска-работніцкай грамады.

Пасля перавароту у Польшчы у 1926 годзе некаторыя члены пачалі дамагацца адкрыць "Беларускі клуб". Ва уладах яго былі: Гасан Канапацкі, Усевалад Більдаюкевіч, Макар Касцевіч, Станіслаў Валэйша.

З 27 лістапада 1927 г. да 2 красавіка 1928 г. Гасан Канапацкі быў кіраўніком рэдакцыі "Беларускага раднага" — за гэты перыяд выйшлі 4 нумары.

Гасан Канапацкі удзельнічаў у беларускім руху таксама падчас Другой сусветнай вайны. Быў старшынёй бацькоўскага камітэта пры беларускай гімназіі у Вільні, у якой вучыўся яго сын Мацей. Пісаў таксама фельетоны у "Беларускі голас" — газету, якую выдаваў Францішак Аляхновіч. Знаемства з такімі беларускімі дзеячамі, як Ф.Аляхновіч, Фабіян Ярэміч, Баляслаў Грабінскі сведчыць, што ён быў актыўным дзеячам беларускага руху у Заходняй Беларусі. Прадстаўляў ён той напрамак, які лічыў, што у польскай дзяржаве беларусы павінны мець свае правы.

У 1946 годзе, нягледзячы на пажылы узрост ( 77 гадоў ), Гасан Канапацкі з сям"ёй ( жонка Алена з дому Ільясевіч, дачка Тамара і сын Мацей ) выехаў у Польшчу падчас "рэпатрыяцыі". Прыстанішчам стаў горад Быдгашч. Там дагэтуль стаіць дом, у якім жылі Канапацкія. Памёр Гасан Амуратавіч Канапацкі 11 мая 1953 года і пахаваны далёка ад роднага горада — Менска. На могілках у Быдгашчы, на камені выбіты паўмесяц і зорачка, мусульманскае выслоўе.

Летам 1993 г. на радзіму бацькі у Менск прыязджаў яго сын, журналіст, вучоны, даследчык культуры татар Мацей Канапацкі. Ён выступаў перад членамі згуртавання "Аль-Кітаб", гутарыў з татарскай моладдзю.

# МАХМУТ ГАРАЕЎ

Мая першая сустрэча з Гараевым адбылася шмат гадоў таму. Тады наш карабель стаяў у порце Генуя. На адной з вуліц гэтага горада ( а назва у яе "Вэнці сэтэмбэрэ " ) ёсць вялікая кнігарня, вітрыны якой працягнуліся амаль што на 50 метраў. Мне падабаецца глядзець на вітрыны кнігарняў. Якіх толькі кніг ні было на гэтай вітрыне, і аўтары якіх толькі краін ні былі прадстаўлены на гэтай кніжнай выставе. На жаль, вельмі мала было там твораў аўтараў, якія прадстаўлялі краіну, што звалася СССР. Салжаніцын, Аксёнаў, Някрасаў — гэта дысыдэнты, якія пакінулі краіну назаўжды ( тады мы так думалі ). А дзе ж нашыя лаўрэаты, вядомыя пісьменнікі, якія носяць зорку Героя ? Але неўзабаве я ўбачыў даволі тоўстую кнігу. Пераклаў яе назву, і атрымалася "Фрунзе — ваенны тэарэтык".

На вокладцы прачытаў прозвішча аўтара: М.А.Гараеў. Чыста татарскае прозвішча ! Папрасіў у крамніка гэты твор і пачаў яго гартаць. У той час я даволі добра ведаў італьянскую мову, аднак аналізаваць пісьменніцкі талент аўтара не адважыўся. Я не ведаю, ці былі рэцэнзіі на гэтую кнігу. Верыцца, што яна будзе заўважана тымі, хто працуе у напрамку ваеннай навукі, і будуць прааналізаваны на належным узроўні усе думкі генерала Гараева. Гэта вельмі сур"ёзная і важная праца, таму што у мысленні Махмута Ахметавіча — доктара ваенных навук і доктара гістарычных навук, знайшоў адлюстраванне вопыт нашых военачальнікаў па абароне сваей айчыны ад ворагаў, які ішоў яшчэ з часоў Казанскага ханства і Булгарскай дзяржавы.

Генерал Гараеў быў першым намеснікам начальніка генеральнага штаба і кіраваў ваеннай навуковай установай. Ён аўтар больш за 500 навуковых прац. Я не ведаю, ці можна вызначыць ступень яго эрудыцыі, навуковага кругагляду, дыяпазону пошукаў ? Тыя, хто працуюць разам з їм, адзначаюць адну рысу, якая вельмі рэдка трапляецца у прадстаўнікоў чалавечага роду: рабочы дзень генерала Гараева, аказваецца, доўжыцца 14 — 18 гадзін, а работу, выкананую ім за дзень, чалавек, які мае сярэдняя здольнасці, можа выканаць толькі на працягу цэлага месяца.

20 лютага 1993 г. у Маскве адбылася важная для татар падзея — кангрэс татарау-вайскоуцау. Нехта падлічыу, што сярод тых, хто прыняу удзел у гэтым мерапрыемстве ( аб ім паведамілі сродкі масавай інфармацыі ) генералау і адміралау з татар каля сарака, і што па колькасці гэтых найвышэйшых афіцэрау татары займаюць чацвёртае месца, пасля рускіх, украінцау і беларусау. Пры гэтым некаторыя татары лічаць, што слова "татарын", запісанае у пятым пункце "асабовай справы", адмоуна уплывае на павышэнне па службе татарына.

20 лютага 1993 г. урачысты вечар адкрыу прамовай па-татарску генерал Гараеу Махмут абый. Гаварыу з генераламі толькі па-татарску і з вялікім задавальненнем слухау татарскія песні. Тое, што ён пастаянна у курсе падзей, якія адбываюцца у Татарстане і што ён часта прыязджае у вёску, дзе нарадзілася яго маці, дае падставу гаварыць, што ён усей душой адданы свайму народу і ганарыцца сваім паходжаннем. Не ведаю, ці многа у нас асоб, падобных на Гараева.

У нашым, на 99 % савецкім грамадстве, чым вышэй татарын узняуся па іерархічнай лесвіцы, тым хутчэй ён забывае сваю нацыянальную прыналежнасць. Як толькі дасягае пэунай вышыні, поунасцю забывае родную мову, траціць цікавасць да гісторыі роднага народа, да будучыні сваей нацыі. Такія людзі звычайна суцяшаюць сябе словамі: "Я — інтэрнацыяналіст, ненавіжу нацыяналізм". Дык дзе ж вы, вучоныя, дзеячы культуры, дзе вы, былыя вайскоуцы з вялікімі зоркамі на пагонах ?

Для энцыклапедычнага даведніка "Татары Беларусі, Літвы і Польшчы" патрэбен артыкул пра выдатнага беларускага даследчыка татарскіх кітабаў — Яна Станкевіча. Пакуль мы думалі, дзе знайсці звесткі, у літаратурна-навуковым гадавіку "Скарынiч" ( вып.2, Мн., 1993 ) надрукаваны вельмі цікавы артыкул Вячаслава Станкевіча — сына Я.Станкевіча пад назвай " Бацькава адысея". Са згоды В.Станкевіча мы змяшчаем гэты матэрыял у "Байраме", захаваўшы правапіс гадавіка "Скарынiч".

## БАЦЬКАВА АДЫСЕЯ

### Маладосць у Ашмяншчыне

Янка Станкевіч нарадзіўся 26-га лістапада 1891-га году ў Арлянятах, Крэўскае воласці, Ашмянскага павету ( цяпер веска ў Ардашоўскім сельсавеце Смаргонскага раёна — заўвага рэд. ), на Віленшчыне у сялянскай сям"і Яна Станкевіча й Ганны з Пратоцкіх. Арляняты, або, як іх раней называлі — Вурлiняты, старавечнае сяло, якое сярод сваіх пачаткаў, паводле расказаў мясцовых людзей, было ўездам татарскай рыцарскай дружыны, пакліканай сюды Вялікімі Князямі Літоўскімі для абароны гаспадарства. Гэтыя татарскія рыцары тут у Віленшчыне й Меншчыне асяліліся, пажаніліся зь беларускамі, прынялі беларускую мову й шмат якія зь іх — хрысціянскую веру тутэйшага жыхарства. Гэтак, паводле расказаў, калі ім можна поўнасцю верыць, пачаўся род Станкевічаў у Арлянятах. Праўда, пэўныя рысы твару Станкевічаў і рысы характару на думку некаторых згаджаюцца з гэтай тэорыяй. А Станкевічаў у Арлянятах было шмат, гэтулькі, што, каб іх адрозніць, называлі мянушкамі. Напрыклад, сям"ю Янкі, што жыла за выганам, называлі Завыганскім. Бацька Янкі быў селянінам ня бедным, бо бацька ягоны дакупіў кусок зямлі й пры працавітай гаспадарцы, усе стараліся аб асьвеце дзяцей

Першыя гады навукі адбываюцца ў саматужнай школе ў сяле Чатырках — зарганізаванай і аплачванай бацькамі сялянскіх дзяцей. У 1909-м годзе Янка канчае Ашмянскае гарадское вучылішча. Ужо у той час малады Янка лічыцца сьведамым Беларусам і як 16-ці гадовы юнак займаецца кальпартажам ( распаўсюджаннем — заўвага рэд. ), а пазьней карэспандэнцыяй "Нашай Нівы" на Ашмяншчыне. Быў ён ведамы тады як Янучонак або Станкеўчык. Некаторы час працуе "дарэктарам" у Войштавічах у сям"і Вінцэнга Сухалета, здольнага самавука-будаўнічага.

## З нашаніуцамі у Вільні

Пазьней прыязджае у Вільню, дзе пачынае вышэйшую асьвету у каталіцкай духоунай сэмінарыі, — адным зь нямногіх шляхоу да асьветы беларускага сялянства. Але не надоуга, бо у першым годзе яго выключаюць за агрэсыуную беларускасьць. У той жа час знаёміцца з актыунымі адраджэнцамі, працаунікамі "Нашай Нівы": Вацлавам Ластоускім, братамі Луцкевічамі, пазьней з Максімам Гарэцкім, Янкам Купалам, жонкай якога была Станкевічанка, — далёкая сваячка, і з шмат іншымі. Перад выбухам Першай сусьветнай вайны у 1914-м годзе працуе сем месяцау сталым сябрам рэдакцыі "Нашай Нівы", аж да мабілізацыі яго у расейскае войска, дзе служыць спачатку жаунерам, а пазьней афіцэрам. Вайсковая служба дае магчымасьць, асабліва у хаатычныя рэвалюцыйныя часы, агітаваць беларускасьць і адведваць іншыя асяродкі беларускай дзейнасьці, як Менск і Пецярбург, дзе знаёміцца з прафесарам Эпімах-Шыпілам і беларускай унівэрсытэцкай моладзьдзю. У 1917 -м годзе, будучы на Румынскім фронце, дзе й большыня беларускіх частак расейскага войска, трапляе у аустрыйскі палон, адкуль незадоуга звольнены захадамі беларускіх дзейнікау у Вільні, акупаванай у той час немцамі. Варочваецца у Вільню й адразу уліваецца у грамадскую й палітычную працу. Юліяна Мэнкэ, пазьней Дубейкауская, із старой віленскай сям"і нямецкага паходжання, блізкая прыяцелька Івана Луцкевіча й удзельніца беларускага адраджэнскага руху, гэтак піша у сваіх успамінах: "Прыехау з войска Янка Станкевіч, малады, дзельны й зацяты Беларус. Мы усе называлі яго Янучок, а я зь Іванам казалі, што гэта наш Саванарола, дзеля ягонай фанатычнай адданасьці беларускай справе.

— Ён трохі аднабаковы й нудны сваім фанатызмам, — казала я іншым разам Івану.

— Нічога, — адказау ён, — і гэткія фанатыкі беларускае справы мусяць быць, з часам вырабяцца, на іх лічыць можна, яны не пахіснуцца і у працы сябе апраудаюць.

І як аказалася пазьней, гэта былі прарочыя словы Івана Луцкевіча.

Янка Станкевіч актыуны у Беларускай Віленскай Радзе, бярэ удзел у заснаваньні Беларускага Навуковага Таварыства у пачатку 1918-га году, супрацоунічае з Максімам Гарэцкім над "Маленькім беларуска-расейскім слоунікам", які выходзіць пазьней друкам у Менску. У сакавіку 1918-га году перабіраецца разам зь сябрамі Віленскай Беларускай Рады у Менск, дзе бярэ удзел у гістарычных паседжаньнях

Рады БНР, што кульмінуюцца абвешчаньнем незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі — 25-га сакавіка 1918-га году.

Пасьля нямецка-савецкага замірэньня ў канцы 1918-га году, Менск пападае пад савецкую ўладу, а Віленшчына перадаецца новапаўсталаму Летувіскаму гаспадарству. Віленскае насельніцтва бачыць магчымасьць супрацы або магчыма канфэдэрацыі на гістарычных падставах Вялікага Княства Літоўскага. У гэткім духу, Беларуская Віленская Рада ў дамоўленасьці з прэзыдэнтам Летувіскай Рады выбірае чэцьверць Летувіскай Тарыбы ( Рады ). Уваходзяць: В.Ластоўскі, І.Луцкевіч, кс.В. Талочка, Фалькевіч, Семашка й 26-ці гадовы Янка Станкевіч. Язэп Варонка выбіраецца міністрам беларускіх спраў. Але нажаль ваенныя падзеі й пазьнейшы летувіскі шавінізм не дазволілі далейшаму разьвіццю гэтай ідэі, хоць абмежаванае беларускае прадстаўніцтва існавала ў летувіскай сталіцы Коўні яшчэ некалькі гадоў.

У наступных гадох, хоць вайна фармальна закончылася ў сярэдняй Эўропе, Беларусь далей цярпела ад чарговых афэнзываў і водступаў розных войскаў — нямецкіх, летувіскіх, польскіх і бальшавіцкіх. У тую пару, асабліва ў часе польска-савецкіх войнаў 1919-га й 20-га гадоў, беларускі актыў выкарыстоўваў благія адносіны між імі дзеля арганізацыі беларускіх пачатковых школаў. У вясну 1920-га году, пасьля вучэньня на беларускіх настаўніцкіх курсах у Слуцку, дзе брала ўдзел каля 300 вучняў, Янка накіраваўся назад на Ашмяншчыну, дзе ўсялякімі спосабамі арганізоўваў беларускія пачатковыя школы. Як ён расказвае на захаванай істужцы, ён хадзіў пехатой па сёлах і пераводзіў з дапамогай сьведамых сялянаў існуючыя польскія й расейскія школы на беларускія. У гэты час ён таксама адчуў на сабе польскі ды расейска-бальшавіцкі шавінізм ды іх жаданьні для беларускага насельніцтва. Гэтая навука засталася яму ў памяці, калі пазьней некаторыя беларускія групы трагічна фліртавалі з камунізмам

Восеньню 1920-га году польскія войскі з дапамогай заходніх аліянтаў ( саюзнікаў — заўвага рэд. ), асабліва Францыі, адапіхнулі чырвоную армію аж пад Менск, дзе паўстала перамірэньне, якое й спыніла падзел Беларусі, аформлены канчальна Рыскім трактатам у 1921-м годзе. Пры гэтай апошняй польскай афензыве, вайсковыя часткі генэрала Жэлігоўскага сілком займаюць Вільню з ваколіцамі ў супярэчнасьць мірнаму Вэрсайльскаму дагавору. Палякі арганізуюць так

званую Сярэднюю Літву, фікцыйную тэрытарыяльную адзінку, з мэтай эвэнтуальнага ( верагоднага — заўвага рэд. ) далучэньня да Польшчы. Вялікая частка віленскіх беларусаў яе байкатуе, але некаторыя, пад уплывам праф. Вацлава Іваноўскага, які стаецца міністрам нутраных спраў, уважаюць, што трэба карыстаць усякія магчымасьці для беларускага агульнага дабра. Мовавед, а пазьнейшы пасол у польскі сойм, Браніслаў Тарашкевіч кіруе беларускім аддзелам пры міністэрсьцьве асьветы, а Янка Станкевіч, як школьны рэфэрэнт, высылаецца арганізаваць беларускія школы на мясцовасьцях. Гэтым разам есьць некаторая фінансавая падтрымка пры актыўным удзеле бухгальтара-беларуса Дабрыдзеня Жаўняровіча й дапамозе некаторых спалянізаваных віленчукоў, прыхільнікаў аднаўленьня гістарычнай Літвы. Вясной 1921-га году, ходзячы пехатой, езьдзячы фурманкай зь мяхамі кнігаў, Янку ды іншым удаецца адчыніць больш 200 беларускіх пачатковых і сярэдніх школаў у наступных паветах: Ашмянскім, Маладэчанскім, Валожынскім, Вялейскім і Лідзкім ( пры фармальным далучэньні Віленшчыны да Польшчы, бальшыня іх была зачыненена або пераведзена на польскія ).

Ягоныя мэнтары, як Антон Луцкевіч і Максім Гарэцкі, радзяць маладому актывісту працягваць фармальную й вышэйшую асьвету. Дзеля гэтага трэба перш здабыць гімназіяльную матуру. Хоць і цяжка 29-ці гадоваму дзяцюку сядзець на школьнай лаве й рыхтавацца да эгзаменаў, але Янка здабывае атэстат сьпеласьці ў Беларускай гімназіі ў Вільні, 14-га ліпеня 1921-га году. Ведамая паэтка Натальля Арсеньева некалі ўспамінала, што яна, 16-ці гадовая студэнтка, памагала Янку ў падрыхтоўцы да эгзаменаў. У міжчасе, у Чэхаславаччыне, урад гэтае новае славянскае рэспублікі дае спэцыяльныя стыпендыі для былых грамадзянаў Расейскай імпэрыі, зь якіх карыстаюць расейцы, беларусы ды асабліва ўкраінцы. Былы пасол БНР у Чэхаславаччыне Ігнат Дварчанін моцна заклікае беларусаў на студыі ў Прагу.

У Вільні пэрыяд "Сярэдняй Літвы" прыходзіць да канца. Каб паказаць сьвету быццам праўнасьць свайго захопу Вільні, палякі арганізуюць адмысловы сойм, заданьнем якога — зацьвердзіць фармальнак прылучэньне Вільні да Польшчы. Правіламі плебісцыту, праз выбары пэўных сабе людзей у сойм польскія ўлады здабываюць жаданы сабе рэзультат. Насельніцтва ня мае ніякае магчымасьці дэмакратыч-

выказаць сваю волю, й увесь беларускі актыў плебісцыт бай -

катуе ; многія пад пагрозай арышту. Янка у лютым 1922-га году у час выбарау, нелегальна й пехатой пераходзіць летувіска-польскую мяжу й за два дні трапляе у Коуню, дзе ад прадстаунііцтва БНР, ачольваемага ( кіруемага — заувага рэд. ) В.Ластоускім, атрымоувае пашпарт і накіроуваецца праз Нямеччыну у Прагу на студыі.

## Моваведа, выдавецтва й палітыка у Заходняй Беларусі

У Празе, маючы ужо трыццаць гадоу, Янка Станкевіч адзержвае дзьве найгалоунейшыя здабычы свайго жыцьця, а найма: — дактарат славянскай моваведы й гісторыі ды сяброуку рэшты свайго сямейнага й грамадзкага жыцьця — жонку Марылю.

Ягоны дактарат, адзержаны з Карлавага унівэрсытэту у 1926-м годзе, базавауся на вялікай арыгінальнай працы разшыфраваньня й трансьлітарацыі Аль-Кітабу, сьвятой кнігі беларускіх мусульманау з 17-га стагодзьдзя, пісанай беларускай мовай, але арабскім пісьмом. Аль-Кітаб гэты быу знойдзены Іванам Луцкевічам, археолагам-навукоуцам, і перададзены у Віленскі Беларускі Музэй, а пазьней пасланы да разьведаньня студэнту-моваведу у Празе. Мова Аль-Кітабу паказала рысы й прыклады мовы чыста беларускай перад уплывамі на яе, праз акупацыю стагодзьдзяу, польскай і расейскай мовау. Праца гэтая й пазьнейшыя карыстаюцца вялікай пашанай сярод навукоуцау-славянаведау. Але водгукі гэтай працы прыпомнілі маладому навукоуцу праудзівы твар расейскага шавінізму. Ягоныя навуковыя артыкулы былі надрукаваны у Менску Беларускай Акадэміяй Навук і хоць гэта было у 1925-м годзе, калі яшчэ шматлікія беларусы верылі, што у БССР "будуецца беларускі дом", віцэ-старшыня й сакратар Акадэміі былі звольнены із сваіх становішчау за гэткі "праступак", як праяуленне увагі да беларускай гістарычна-моунай спадчыны.

На зьезьдзе славянскіх студэнтау, які адбыуся у Празе у 1923-м годзе, Янка пазнаеміуся з чэскай студэнткай Марыяй Новак, якая прадаужала сваю вышэйшую асьвету, вярнуушыся у 1922-м годзе з Амэрыкі, дзе яна скончыла Васарскі каледж у штаце Нью Ерк. Гэтая ейная веда амэрыканскага жыцьця, дасканальнае валоданьне ангельскай мовай і здольнасьці наогул да мовау, як і арганізацыйная спрытнасьць і асабістая незалежнасьць, якасьці, якія яна прынесла у 50-ці гадовае сумеснае жыцьцё з Янкам Станкевічам, былі вялікай

маральнай і матэрыяльнай дапамогай ятонаму далейшаму навуковаму й грамадзкаму жыцьцю. У 1926-м годзе яна выяздждае за Янкам на Беларусь, краіну, дзе паводле ейных чэскіх прыяцеляў, "ваўкі дабранач выюць". Маладая пара бярэ шлюб у віленскім касьцеле сьв. Мікалая, адзіным у Вільні, дзе чыталіся казані па-беларуску. Шлюб даў 30-га кастрычніка 1926-га году ксендз Адам Станкевіч, ведамы віленскі беларускі дзеяч і сваяк Янкі з родных Арлянятаў.

Пачаткі маладога жанімства былі цяжкія ў чужым для Мары краі. Вызначэньне, што у іхным далейшым жыцьці было найважнейшым, а што другарадным, хіба найлепш адлюстроўвае кароткі успамін Мары зь першых дзён у Вільні: "Калі па розных цяжкасьцях я прыехала ў Вільню, спаткаў мяне Янка й завёў на кватэру ў інтэрнаце, закладзеным ксяндзом Адамам Станкевічам. Раз мы пайшлі з М.Шутавічанкай купіць трохі мэблі. Янка уважаў, што з мэбляў не вялікая карысьць, толькі стаяць, лепш ужыць грошы на выданьне календароў і падобнага. ( Мне прыпамінаецца, што нават пазьней, у багатай Амэрыцы, іхняя мэбля была таннае якасьці й няведамага паходжаньня. — В.С. ). Калі вярнуліся, мае грошы, якія я прывезла як дзядзіцтва ад бацькі, былі прапаўшы. Клікалі паліцыю. Аказалася, што прыходзіла жанчына прыбіраць кватэру Янкі й грошы прапалі... Але ніхто яе не злавіў, ня можна было давесьці. Янка мне абяцаў, што будзе пісаць артыкулы й грошы мне верне... Пазьней перанесьліся на Крывое Кола, у кватэру без вады й выгадаў".

Новы навуковец кідаецца ў беларускую выдавецкую й пэдагагічную дзейнасьць у Вільні. Выкладае беларускую мову ў Віленскай беларускай гімназіі, у Праваслаўнай духоўнай сэмінарыі і ў Віленскім унівэрсытэце Стафана Баторага. Гэта быў час, калі Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада — арганізацыя, якая ў працягу аднаго кароткага году здабыла больш як сто тысяч сяброў сярод беларускага сялянства, якое жадала паказаць свой супраціў польскай эксплеатацыйнай зямельнай палітыцы, пачала, аднак, дзякуючы камуністычнай правакацыі, разьбівацца масавымі арыштамі й судовымі працэсамі. Янка Станкевіч быў супраць ролі Грамады, хоць яна й мела шмат пазытыўных аспэктаў. Ён ня меў ніякіх ілюзіяў аб

камуністычных уплывах і іх запраўднай ролі пры Грамадзе. Янка меў горкае дасьведчаньне аб жыццёвай практыцы бальшавікоў пры уладзе у 1917 — 20 гадох і іх фальшывай агітацыі сярод студэнтства у Празе ды сярод вучняў Беларускай гімназіі у Вільні. І тут хіба цікава будзе зацеміць тую рысу, якая была характэрнай у ягоным жыцці. Ён не баяўся стаць адзінокім, займаць непапулярныя пазыцыі, калі быў асабіста пераканаsuccessful аб іх правільнасьці. Вось, хоць ягоныя духовыя правадыры й сябры, як Антон Луцкевіч і Браніслаў Тарашкевіч былі кіраўнікамі Грамады, ён заняў супрацьлежнае становішча, хоць і прадаўжаў зь імі навуковую лучнасьць. Шмат гадоў пазьней, у артыкуле ў газэце "Бацькаўшчына" на тэму Грамады, ён падсумоўвае свой пагляд аб гэтай пары: "Яшчэ падчыркну — сто разоў трэба падчыркнуць ! — галоўным вінаватым паўстаньня Грамады й усяго з гэтым зьвязанага, ёсьць польская экстэрмінацыйная ( фізічнае вынішчэнне — заўвага рэд. ) палітыка у дачыненьні да Беларусаў".

У 1928-м годзе Янка Станкевіч выбіраецца паслом у польскі сойм ад Лідзкай акругі. Польская палітыка моцна перашкаджала дзейнасьці прадстаўнікоў беларускага народу у сойме на карысьць малазямельнага й прыгнечанага селяніна. Выбарчы тэрмін зрываецца у 1930-м годзе, калі Пілсудзкі, кіраўнік аднаўлення Польскай Рэчыпаспалітай, пераймае уладу, разганяе сойм і такім чынам канчае кароткі польскі экспэрымэнт з дэмакратыяй. Пазьней ён таксама абмяжоўвае правы нацыянальных меншыняў, зрываючы нагляд Лігі Народаў у гэтай справе, на які Польшча згадзілася пры сваім заснаваньні. Будучы паслом у польскай сталіцы, доктар Янка Станкевіч выкарыстоўвае гэты кароткі час для навуковай працы пры Інстытуце спраў народаў і выкладання беларускай мовы на Варшаўскім унівэрсытэце.

Варочаючыся у Вільню, ён разгортвае шпарчэй сваю навуковую й выдавецкую дзейнасьць. Пачынае выходзіць часапіс "Родная мова", выдаваны Беларускім Гаспадарскім Зьвязом, адн й з апошніх легальна існуючых беларускіх арганізацыяў. Вядзе лекцыі беларусаведы пры Віленскім унівэрсытэце, бярэ удзел у працы Таварыства Прыяцеляў Беларусаведы, Беларускага Студэнцкага Саюзу у Вільні, праводзіць зборкі для чысьціні беларускай мовы, прадаўжае супрацу з Беларускім Навуковым Таварыствам у Вільні. У гэтую пару рыхтуе да выдання цэлы шэраг кніжак і артыкулаў з моваведы, гісторыі й этнаграфіі.

Янка Станкевіч здведвае сваю родную Ашмяншчыну, зьбірае жывыя асаблівасьці беларускай мовы, сустракаецца з моладзьдзю, сьведаміць у беларускасьці, дзе толькі абставіны дазваляюць. Адзін із зборнікаў народных казак і песьняў пачаўся із запісаньня тых, якімі забаўляла нас, дзяцей, наша служанка, вясковая дзяўчына з Ашмяншчыны. Адзін зь ягоных пазьнейшых супрацоўнікаў, Антон Шукелойць, успамінае, як ен, яшчэ будучы гімназістам, хадзіў на зборкі, што адбываліся ў старога дзеяча Аляксандра Барановіча ў Ашмяне, дзе напаўлегальна выхоўвалася беларуская студэнцкая моладзь. Як лектар Віленскага унівэрсытэту, Янка Станкевіч быў частым і папулярным тут гасьцём, вядучы гурткі на моваведныя й гістарычныя тэмы, як напрыклад: Мова ў Вялікім Княстве Літоўскім, Мова беларускіх татараў ды інш. Будучы яшчэ паслом, ен шмат спрычыніўся да зарганізаваньня й папаўненьня беларускай кнігарні ў Ашмяне, якая папулярызавала беларускія творы. Пры зьмене польскай палітыкі кнігарня была зачынена, але кніжкі разыйшліся сярод моладзі й прадаўжалі сваю асьветную дзейнасьць. ( Сям"я ў той час праводзіла некаторыя леты ў Новай Рудні ля Смаргоняў, дзе як 4-х або 5-ці гадовы хлапец я памятую вазёры з балотамі, аброслымі журавінамі, пяшчаныя ўзгоркі й цемныя лясы, дзе запраўды ваўкі вылі на дабранач . )

Сытуацыя для беларусаў пад Польшчай усё далей горшае. Янка Станкевіч губляе ўсякія магчымасьці працаваць на заработак у сваей прафэсіі. Купляе кнігарню на Вострабрамскай вуліцы ў Вільні, зь якой фінансавыя вынікі даволі мізэрныя, але яна дае магчымасьць распусюджваць беларускія выданьні й асабліва адрыўныя календары з гаспадарскімі парадамі, якія сталіся вельмі папулярнымі сярод сялянства.

( працяг будзе )

# У СІМФЕРОПАЛІ НА КУРУЛТАІ

26-га ліпеня 1993 г. у поўдзень я прыехала ў Сімферопаль. Было горача. Пры выхадзе з вакзала у горад невялікі базар. Я даўно не бачыла такога багацця разнастайнай гародніны і садавіны, але цэны былі такія, што гэта багацце адразу паблекла. Я накіравалася па адрасу, які мне далі у Менску.

Гэта быў дом на ўскраіне горада. Невялікі чысцюткі панадворак. Я назвала сябе людзям, якія былі тут, і мяне адвезлі ў Палац Прафсаюзаў, дзе павінна было адбыцца паседжанне курултаю. Праважатым маім быў вельмі харошы малады крымскі татарын. Ён мне паказаў і расказаў пра славутасці горада. Ні мячэцяў, ні іншых будынкаў усходняй архітэктуры нам не трапілася, хоць горад не пацярпеў у час вайны.

Я звярнула ўвагу на амаль паўпустыя тралейбусы, якія часта праходзілі па міжгародніх маршрутах на Ялту, Алушту і ў іншыя гарады. Палац прафсаюзаў, куды мы прыехалі, стаяў як быццам у лесе. Вялізны будынак, знутры абліцаваны мармурам. Там я атрымала картку і мандат дэлегаткі і накіравалася ў гасцініцу.

Ранкам 27 чэрвеня дэлегаты і госці курултаю — прадстаўнікі Крыма і дыяспары сабраліся ў адным з залаў Палаца, дзе адбыліся сустрэчы, знаёмствы. Тут можна было купіць кнігі, часопісы і газеты, якія прывезлі з сабою удзельнікі курултаю.

А дзесятай гадзіне было урачыстае адкрыцце 20-й сесіі 2-га курултаю крымскататарскага народа. Зал быў біткам набіты дэлегатамі, гасцямі, журналістамі з Крыма, Кіева і замежных дзяржаў. У рабоце сесіі прымалі удзел 216 дэлегатаў. Многа гасцей было з Турцыі, Румыніі, Венгрыі, Англіі, ЗША і інш. Гэта былі людзі, якія займаюць у сваіх краінах высокія пасады — міністры, навукоўцы, супрацоўнікі пасольстваў, бізнесмены.

З прывітальным словам да дэпутатаў і гасцей выступіў старшыня Меджлісу крымскататарскага народа спадар Мустафа Джамілёў. Быў выкананы гімн "Антэкэмэн". Муфтэй Крыма Сейтджаліль-эфендзі прачытаў адпаведныя аяты з Кур"ана. Затым пачалася работа сесіі ў адпаведнасці з парадкам дня.

У прэзідыум курултаю былі абраны члены меджлісу. Гэта вядомыя, адданыя справе адраджэння крымскататарскага народа людзі, якія ў мінулым праследаваліся таталітарным рэжымам.

Спачатку былі даклады-справаздачы аб выкананні рашэнняў 19-й

сесіі 2-га курултаю і аб агульнай палітычнай сітуацыі на Крыме і Украіне, пра стан і задачы вяртання татар на Радзіму. Затым пачаліся выступленні дэлегатаў і гасцей курултаю. Нягледзячы на тое, што многія выступленні я не разумела ( мая родная казанскатарская мова адрозніваецца ад крымскататарскай ), па рэакцыі зала можна было меркаваць, што яны выклікалі вялікую цікавасць прысутных. Відаць, не было тэхнічных сродкаў, каб выступленні прамоўцаў даць у сінхронным перакладзе. Праўда, нам яшчэ пашанцавала у тым, што мы пазнаёміліся з крымскай татаркай-урачом, якая паціху перакладала для нас выступленні з крымскататарскай і турэцкай моў.

Жадаючых выступіць было так многа, што работу курултаю прыйшлося прадоўжыць на дзень. На трэці дзень работы сесіі выступіў наш дэлегат — намеснік прэзідэнта "Аль-Кітаб" Ібрагім Канапацкі. Ён коратка і цікава расказаў пра жыццё беларускіх татар. Гэта было, відаць, адзінае выступленне, пасля якога былі бурныя воплескі усіх прысутных.

Пасля трэцяга дня работы сесіі быў вялікі канцэрт крымскіх татар. Гэта быў казачна цікавы вечар, які праходзіў пад буру апладысментаў і авацый. Сольныя выступленні артыстаў змяньваліся харавымі песнямі і танцамі. Артысты былі пераважна маладымі. Стройныя, адзетыя ў прыгожыя народныя строі крымскія татаркі пакарылі слухачоў і гледачоў сваёю жаноцкасцю, элегантнасцю, прыгажосцю, высокім майстэрствам выканання народных танцаў. Вельмі спадабаўся усім госць з Турцыі. Ён цудоўна спяваў на турэцкай мове і акампанаваў сабе на народных інструментах. Яго доўга не адпускалі са сцэны. Пазней я даведалася, што Ібрагім Канапацкі размаўляў з кіраўніком ансамбля і запрасіў артыстаў прыехаць з канцэртамі на Беларусь.

Пры заканчэнні работы курултаю выступіў Мустафа Джамілёў.

Дай, Аллаг, сілы крымскім татарам вярнуцца і жыць на сваёй Бацькаўшчыне.

## ВЯЛІКАЕ ГОРА

16 лістапада 1993 г. у Менску на кватэры у сына Ісмаіла памерла добрая мусульманка — Танзіля Варановіч. Родам яна з Клецка Менскай вобласці. Нарадзілася 25 сакавіка 1910 г. у Айшы і Сулеймана Ільясевічау. Гадавалася у даволі вялікай сям"і, мела старэйшага брата Бікіра, малодшых сясцёр Аміню і Фэлю, малодшага брата Мурата ( Амурата ). З мужам Мухарэмам Самуілавічам Варановічам гадавала трох сыноу — Арслана ( Леаніда ), Мухарэма і Ісмаіла. Рана стала удавою. На жыццё зарабляла шыццём ( была добрай майстрыхай ), працавала на сваім агародзе. Дачакалася унукау і праунукау.

Пахавана 17 лістапада на Асмолаускім мізары згодна з усімі патрабаваннямі мусульманскай веры. З вялікай скрухай даведаюцца пра гэту сумную вестку усе тыя, хто яе ведау, усе тыя, хто ведае яе сыноу, унукау і праунукау. Няхай ёй будзе рай светлы.

## ПАВАЖАЮЦЬ МУСУЛЬМАНСКУЮ ТРАДЫЦЫЮ

У Менску, у сям"і Мустафы і Халімы Ждановічау 23 снежня 1993 г. адбылася жалобная вячэра. Родныя і сваякі Ждановічау, студэнты-мусульмане, сябры згуртавання "Аль-Кітаб" памаліліся за душы мусульман — бацьку Халімы — Алея Іванавіча ( Ях"яевіча, маці памерлага Залія ) і маці Халімы — Разіі ( была дачкою Айшы і Ібрагіма ) і за душу бацькі Мустафы — Мацея ( сын Хасеня ), які загінуу як савецкі воін у 1944 г., вызваляючы Польшчу ад нямецка-фашысцкіх акупантау.

Мусульмане прынеслі і раздалі садагу у памяць пра сваіх памерлых родных і блізкіх.

Чыталі суры з Кур"ана, у тым ліку і суру Ясін.

# В Е Р Ш Ы

Добры сябар "Байрама" Яуген Гучок паведаміу нам, што у маладой і вельмі таленавітай беларускай паэткі Святланы Багданкевіч ёсць сярод іншых верш, які звязаны з татарскай тэматыкай. Са згоды паэткі мы друкуем яго на нашай паэтычнай старонцы.

## Т А Т А Р С К А Е   П Р А Д М Е С Ц Е

Было тут калісьці
ля Свіслачы дзесьці
Татарскае
у колішнім Менску
прадмесьце,
Ды знесена часам —
было і сплыло ...
Няма ужо гародау,
чауноу ля чаротау,
Ні вулак крывых,
ні казы каля плоту,
Ні іншай няхітрай якой драбязы,
Ня вартай слязы.

Давездзены пляц да парадку,
да ладу
( Бульдозер гудзеу і стараўся каток ).
І тая экзотыка,
бы па загаду,
Знямела і збегла —
вадою у пясок ...

І толькі у начы
у глыбіні даляглядү
Засвеціцца,
часам ластупны пагляду,
Забыты з-за нечага недагляду,
З татарскай мячэці
маладзічок.

Пастаянны чытач "Байрама" доктар геолага-мінералагічных навук Эрнст Ляўкоў перадаў у нашу рэдакцыю 11-ы нумар за 1993 г. штомесячнага часопіса маладых літаратараў Беларусі "Першацвет". Ён звярнуў нашу ўвагу на верш "Магаметанская мячэць".

У гэтым нумары "Першацвета" нізка з васьмі вершаў Ігара Карповіча, партрэт прыгожага юнака і кароткая нататка Уладзіміра Клімовіча. 27 ліпеня 1993 г. перастала біцца сэрца такога маладога, такога таленавітага сына Беларусі — Ігара Карповіча. Тут мы друкуем яго верш, запазычаны з "Першацвета".

## МАГАМЕТАНСКАЯ МЯЧЭЦЬ

"Які цудоўны народ і багаты, шчодры край !" —
думаў, узяты ў палон, сын Святога айца Магамета.
Зміры́ўся з тым, што не вернецца ў свой крымскі Сарай.
Спрытна стаў на калені і ўскінуў рукі да неба:

"Блаславі, Алах ! Дай мір, хлеб і шчасце гэтай зямлі !"
Перакавалі шаблі на больш карысную рэч — арала;
у добрым саюзе з гасцёўнымі гаспадарамі жылі,
і зямля стрымала слова — новай Бацькаўшчынай стала.

Не пашкадаваў час і старую драўляную мячэць,
але з-за гэтага кліч роднай веры не знік.
У тым сіла — не можа яна памерці і не можа яна згарэць...

І вельмі цікава: чаму на эмблеме — ветах, а не маладзік ?..

Чытачы "Байрама", відаць, звярнулі увагу на тое, што ні адна наша кніжачка не абыходзіцца без удзелу Яугена Гучка. Піша вершы ( хутка выйдзе з друку яго новы зборнік ), публіцыстычныя артыкулы, навукова-даследчыя працы для многіх газет і часопісау. Друкуем два яго вершы.

ххх

Жылі татары у Беларусі
Не год, не два; векі жылі.
Для іх яна была улусам,
Яны ж ёй воямі былі.

За яе волю і здароуе
Уздымалі дзіду, булаву,
Таму й законы аб двухмоуях
Ім не узбрылі у галаву.

Нет, я — не Байрон, я другой ...
М.Лермонтов

ххх

Так, ты — не Байран, ты — другі,
Ты — нібы першы тут,
Бы Пушкін,
Які, вядома, што і вершам
Хапау чужыя берагі
І у расейскую карону
Цягнуу,
бы ад дзяцей карову ...

А Байран — лорд, паэт і вой,
За волю Грэцыі сабой
Бяз рэшты узду і заплаціу ...
Так, не імперац Байран быу !

# БЕЛАРУСКА-КРЫМСКАТАТАРСКІ СЛОЎНІК

## 1100 слоў і сказаў ад дзядзькі Ісмаіла Мемэтава

| Беларускае слова | Крымскататарскае слова |
|---|---|
| таварыш | аркъадаш |
| тады | о заман, о вакъат |
| так | ойле, бойле |
| такі ( займ. ) | ойле |
| таксама | дага ( да'а ), эмде |
| там | анда |
| таму ( прысл. ) | о, ойле |
| татка | бабачыгъам |
| твар | дет, юз |
| твой | сени |
| твор | эсэр |
| творчы | деди |
| то ( зл., часц. ) | о |
| той | о |
| толькі | тек, ялнъыз |
| тона | тонна |
| трава | от, когет |
| трактар | трактар |
| трохі | аз, аз джа |
| тры ( ліч. ) | уч |
| трымаць | тутмакъ |
| трыста | уч юз |
| трыццаць | отуз |
| трэба | керек |
| трэці | учунджи |
| туды | анда |
| тут | мнда |
| ты | сен |
| тыдзень | афта |
| тысяча | дынъ |
| тэатр | тыятр |
| тэхніка | санаат, техника |

| | |
|---|---|
| убачыць | кормек |
| увага | дикъат |
| увайсці | кирмек |
| увесь | эписи |
| удавацца | олды |
| удзел( лёс ) | баш языcы |
| удзел ( у нечым ) | иштрак этмек |
| удзельнік | иштракчи |
| ужо | энде |
| узровень | сынчыр |
| узняцца | алмакъ |
| узяць | алмак: |
| украсці | хырсызламакъ |
| улада | укмет |
| умацаванне | беги тмек |
| умець | билъмек |
| умова | ал |
| упасці | йыкъылмакъ |
| урад | укмет |
| ураджай | беркет |
| усміхацца | кульмек |
| уставаць | турмакъ |
| установа | идаре |
| устаць | тур |
| усюды | эр ерде |
| усякі | эр-кез |
| ух | ух, ох |
| уцякаць | къанмакъ |
| уцячы | къачмакъ |
| участак | болюк |
| учора | дуневун |
| фабрыка | фабрика |
| фашыст | фашист |
| ферма | ферма |
| форма | сфат |
| фронт | джебе |

| | |
|---|---|
| хадзіць | джурмек, юрмек |
| хай | барсын |
| халодны | сувукъ, салкъын |
| хапаць ( дастаткова ) | етер |
| харашо ( добра ) | яхшы |
| хата | эв |
| хатка | эвчик |
| хацецца | истемек |
| хацець | истемек |
| хвіліна | дакъка |
| хвост | къуйрукъ |
| хіба ( злуч., часц. ) | ойлемп |
| хлеб | отмек |
| хлопец | оглан |
| хлопчык | огланчыкъ |
| ход | юруш |
| хто | ким |
| хутка | чабик, тез |
| хутчэй | чабикче, тездже |
| цар | падиша |
| цела | вджут |
| цёмны | къара, эсмери |
| цётка | ала |
| ці | бир парча, парча |
| ціха | яваш |
| цэлы | бутунь |
| цэнтнер | центнер |
| цэх | цэх, болюк |
| цяжка | агъыр |
| цяжкі | агъыр |
| цяпер | шимди |
| чаго ( прысл. ) | не |
| чакаць | беклемек |
| чалавек | адам, киши |
| чаму ( прысл. ) | не ичунь |

| | |
|---|---|
| чарга | сра |
| час | вакъыт |
| часам ( прысл. ) | бир вакъытлерде |
| часта | сыкъ-сыкъ |
| частка | болюк, парча |
| чатыры | дорт |
| чацверты | дордунъджи |
| член | аза |
| чорны | къара |
| чорт | шейтан |
| чужы | ят |
| чуць ( дзеясл. ) | ишитмек |
| чый | кимин |
| чым ( зл. ) | неден |
| чырвоны | къызыл, къырмызы |
| чысты | темиз |
| чытаць | окъумакъ |
| шапка | шапке |
| школа | мектеп |
| шлях | ёл |
| шмат ( прысл. ) | чокъ |
| што ( злуч. ) | не |
| што ( займен. ) | не |
| шукаць | къыдырмакъ |
| шчасце | бахыт |
| шырока | кенъ |
| шырокі | кенъ |
| шэры | кок |
| шэсць | джунь |
| шэсцьдзесят | алт мыш |
| эй | эй |
| эх | эх |
| я | мен |
| які | насыл |
| ясны | белли |
| яйчэ | дага (дака) |

Баішся — не кажы, сказау — не бойся.
Кьоркьсань — айтма, айтсань — кьоркьма.

Згуртаваных авечак і воук баіцца.
Топлы койлардан — кьашкьырда коркьар.

Забі ворага сваім вялікадушшам.
Душманны мерметинъен ольдюр.

У хаце, у якой няма старых — няма спакою.
Кьарталар олмагьан эвде реатлыкъ екъ.

Што у маладосці пасееш, тое у старасці пажнеш.
Яшлыкьта не сачсань, кьартлыкьта оны орасынъ.

Будзь у маладосці маладым, а у старасці — старым.
Яшлыкьта яш ол, кьартлыкьта кьарт ол.

---

МУСУЛЬМАНСКІ КАЛЯНДАР
ПАМЯТНЫХ ПАДЗЕЙ І СВЯТ

Нашы мусульмане ведаюць, што ёсць арабска-мусульманскі і турэцка-мусульманскі каляндар, паводле якога святы на І, часам на 2 дні разыходзяцца. Польскія татары святкуюць па арабскаму календару, а большасць нашых татар — па турэцкаму. Тут мы друкуем найважнейшыя святы і падзеі па двух календарах, на першым месцы па арабскаму, на другім — па турэцкаму.

| | | |
|---|---|---|
| Ва-л-Мірадж | з 8 на 9 студз. | З 9 на І0 студз. |
| І-ы дзень Рамазана | ІІ лютага | І2 лютага |
| Рамазан-Байрам | І3 — І5 сакавіка | І4 — І6 сакавіка |
| Курбан-Байрам | 20 — 23 мая | 2І — 24 мая |
| Новы, І4І5 год Хіджра | І0 чэрвеня | ІІ чэрвеня |
| Ашура | І9 чэрвеня | 20 чэрвеня |
| Мяўлюд | І9 жніўня | 20 жніўня |

Супастаўную табліцу склаў
Амар Суданскі

# ТУРЭЦКА-МУСУЛЬМАНСКІ І ЕЎРАПЕЙСКІ КАЛЯНДАР
## на 1414 — 1415 год Хіджра — 1994 год

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| РАДЖАБ ( раджабун ) | 18 | Сб | 1 | СТУДЗЕНЬ ( январь ) | ШАЎБАН ( ша"бану ) | 19 | Ат | 1 | ЛЮТЫ ( февраль ) |
| | 19 | Нд | 2 | | | 20 | Ср | 2 | |
| | 20 | Пн | 3 | | | 21 | Чц | 3 | |
| | 21 | Ат | 4 | | | 22 | Пт | 4 | |
| | 22 | Ср | 5 | | | 23 | Сб | 5 | |
| | 23 | Чц | 6 | | | 24 | Нд | 6 | |
| | 24 | Пт | 7 | | | 25 | Пн | 7 | |
| | 25 | Сб | 8 | | | 26 | Ат | 8 | |
| | 26 | Нд | 9 | | | 27 | Ср | 9 | |
| | 27 | Пн | 10 | | | 28 | Чц | 10 | |
| | 28 | Ат | 11 | | | 29 | Пт" | 11 | |
| | 29 | Ср | 12 | | РАМАЗАН ( рамаданун ) | 1 | Сб | 12 | |
| | 30 | Чц | 13 | | | 2 | Нд | 13 | |
| ШАЎБАН ( ша"банун ) | 1 | Пт" | 14 | | | 3 | Пн | 14 | |
| | 2 | Сб | 15 | | | 4 | Ат | 15 | |
| | 3 | Нд | 16 | | | 5 | Ср | 16 | |
| | 4 | Пн | 17 | | | 6 | Чц | 17 | |
| | 5 | Ат | 18 | | | 7 | Пт | 18 | |
| | 6 | Ср | 19 | | | 8 | Сб | 19 | |
| | 7 | Чц | 20 | | | 9 | Нд | 20 | |
| | 8 | Пт | 21 | | | 10 | Пн | 21 | |
| | 9 | Сб | 22 | | | 11 | Ат | 22 | |
| | 10 | Нд | 23 | | | 12 | Ср | 23 | |
| | 11 | Пн | 24 | | | 13 | Чц | 24 | |
| | 12 | Ат | 25 | | | 14 | Пт | 25 | |
| | 13 | Ср | 26 | | | 15 | Сб | 26 | |
| | 14 | Чц | 27 | | | 16 | Нд | 27 | |
| | 15 | Пт | 28 | | | 17 | Пн | 28 | |
| | 16 | Сб | 29 | | | | | | |
| | 17 | Нд | 30 | | | | | | |
| | 18 | Пн | 31 | | | | | | |

Заўвага: маладзіновыя пятніцы пазначаны літарамі з індэксам — Пт"

1 студзеня — еўрапейскі Новы год.
7 студзеня — Каляды у праваслаўных.

З 26 на 27 раджаба ( з 9 на 10 студзеня ) — Ва-л-Мірадж.
З 14 на 15 шаўбана ( з 27 на 28 студзеня ) — ноч Берат.
1 рамазана ( 12 лютага ) — пачынаецца Саум — Святы Пост.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| РАМАЗАН ( рамадануп ) | 18 | Ат | 1 | САКАВІК ( март ) |
| | 19 | Ср | 2 | |
| | 20 | Чц | 3 | |
| | 21 | Пт | 4 | |
| | 22 | Сб | 5 | |
| | 23 | Нд | 6 | |
| | 24 | Пн | 7 | |
| | 25 | Ат | 8 | |
| | 26 | Ср | 9 | |
| | 27 | Чц | 10 | |
| | 28 | Пт | 11 | |
| | 29 | Сб | 12 | |
| | 30 | Нд | 13 | |
| ШАУВАЛ ( шаууалюн ) | 1 | Пн | 14 | |
| | 2 | Ат | 15 | |
| | 3 | Ср | 16 | |
| | 4 | Чц | 17 | |
| | 5 | Пт" | 18 | |
| | 6 | Сб | 19 | |
| | 7 | Нд | 20 | |
| | 8 | Пн | 21 | |
| | 9 | Ат | 22 | |
| | 10 | Ср | 23 | |
| | 11 | Чц | 24 | |
| | 12 | Пт | 25 | |
| | 13 | Сб | 26 | |
| | 14 | Нд | 27 | |
| | 15 | Пн | 28 | |
| | 16 | Ат | 29 | |
| | 17 | Ср | 30 | |
| | 18 | Чц | 31 | |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| ШАУВАЛ ( шаууалюн ) | 19 | Пт | 1 | КРАСАВІК ( апрель ) |
| | 20 | Сб | 2 | |
| | 21 | Нд | 3 | |
| | 22 | Пн | 4 | |
| | 23 | Ат | 5 | |
| | 24 | Ср | 6 | |
| | 25 | Чц | 7 | |
| | 26 | Пт | 8 | |
| | 27 | Сб | 9 | |
| | 28 | Нд | 10 | |
| | 29 | Пн | 11 | |
| ЗІЛЬ-КААДА ( зіль-ка"да ) | 1 | Ат | 12 | |
| | 2 | Ср | 13 | |
| | 3 | Чц | 14 | |
| | 4 | Пт" | 15 | |
| | 5 | Сб | 16 | |
| | 6 | Нд | 17 | |
| | 7 | Пн | 18 | |
| | 8 | Ат | 19 | |
| | 9 | Ср | 20 | |
| | 10 | Чц | 21 | |
| | 11 | Пт | 22 | |
| | 12 | Сб | 23 | |
| | 13 | Нд | 24 | |
| | 14 | Пн | 25 | |
| | 15 | Ат | 26 | |
| | 16 | Ср | 27 | |
| | 17 | Чц | 28 | |
| | 18 | Пт | 29 | |
| | 19 | Сб | 30 | |

8 сакавіка — Дзень Жанчын.
З 26 на 27 рамазана ( з 9 на 10 сакавіка ) — Кадр-ноч.
1 — 3 шаувала ( 14 — 16 сакавіка ) — Рамазан-Байрам.
25 сакавіка — Дзень Абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| ЗІЛЬ-КААДДА (зіль-ка"да) | 20 | Кд | I | ТРАВЕНЬ (май) |
| | 2I | Пн | 2 | |
| | 22 | Ат | 3 | |
| | 23 | Ср | 4 | |
| | 24 | Чт | 5 | |
| | 25 | Пт | 6 | |
| | 26 | Сб | 7 | |
| | 27 | Нд | 8 | |
| | 28 | Пн | 9 | |
| | 29 | Ат | IO | |
| | 30 | Ср | II | |
| ЗІЛЬ-ХАДДЖА (зіль-хадджа) | I | Чц | I2 | |
| | 2 | Пт" | I3 | |
| | 3 | Сб | I4 | |
| | 4 | Нд | I5 | |
| | 5 | Пн | I6 | |
| | 6 | Ат | I7 | |
| | 7 | Ср | I8 | |
| | 8 | Чц | I9 | |
| | 9 | Пт | 20 | |
| | IO | Сб | 2I | |
| | II | Нд | 22 | |
| | I2 | Пн | 23 | |
| | I3 | Ат | 24 | |
| | I4 | Ср | 25 | |
| | I5 | Чц | 26 | |
| | I6 | Пт | 27 | |
| | I7 | Сб | 28 | |
| | I8 | Нд | 29 | |
| | I9 | Пн | 30 | |
| | 20 | Ат | 3I | |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| ЗІЛЬ-ХАДДЖА (зіль-хадджа) | 2I | Ср | I | ЧЭРВЕНЬ (июнь) |
| | 22 | Чц | 2 | |
| | 23 | Пт | 3 | |
| | 24 | Сб | 4 | |
| | 25 | Нд | 5 | |
| | 26 | Пн | 6 | |
| | 27 | Ат | 7 | |
| | 28 | Ср | 8 | |
| | 29 | Чц | 9 | |
| | 30 | Пт" | IO | |
| МУХАРРЭМ (мухаррэм) | I | Сб | II | |
| | 2 | Нд | I2 | |
| | 3 | Пн | I3 | |
| | 4 | Ат | I4 | |
| | 5 | Ср | I5 | |
| | 6 | Чц | 26 | |
| | 7 | Пт | I7 | |
| | 8 | Сб | I8 | |
| | 9 | Нд | I9 | |
| | IO | Пн | 20 | |
| | II | Ат | 2I | |
| | I2 | Ср | 22 | |
| | I3 | Чц | 23 | |
| | I4 | Пт | 24 | |
| | I5 | Сб | 25 | |
| | I6 | Нд | 26 | |
| | I7 | Пн | 27 | |
| | I8 | Ат | 28 | |
| | I9 | Ср | 29 | |
| | 20 | Чц | 30 | |

I і 2 траўня — Вялікдзень у праваслаўных і Дзень Працы.
9 мая — Дзень Перамогі.
IO мая — Радаўніца.
IO — I3 зіль-хадджа ( 2I — 24 мая ) — Курбан-Байрам.
I мухаррэма ( II чэрвеня ) — Новы, I4I5 год хіджра.
IO мухаррэма ( 20 чэрвеня ) — Дзень Ашура.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| М У Х А Р Р Э М ( мухаррамун ) | 2I | Пт | I | Л І П Е Н Ь ( июль ) |
| | 22 | Сб | 2 | |
| | 23 | Нд | 3 | |
| | 24 | Пн | 4 | |
| | 25 | Ат | 5 | |
| | 26 | Ср | 6 | |
| | 27 | Чц | 7 | |
| | 28 | Пт | 8 | |
| | 29 | Сб | 9 | |
| | 30 | Нд | IO | |
| С А Ф А Р ( сафарун ) | I | Пн | II | |
| | 2 | Ат | I2 | |
| | 3 | Ср | I3 | |
| | 4 | Чт | I4 | |
| | 5 | Пт" | I5 | |
| | 6 | Сб | I6 | |
| | 7 | Нд | I7 | |
| | 8 | Пн | I8 | |
| | 9 | Ат | I9 | |
| | IO | Ср | 20 | |
| | II | Чц | 2I | |
| | I2 | Пт | 22 | |
| | I3 | Сб | 23 | |
| | I4 | Нд | 24 | |
| | I5 | Пн | 25 | |
| | I6 | Ат | 26 | |
| | I7 | Ср | 27 | |
| | I8 | Чц | 28 | |
| | I9 | Пт | 29 | |
| | 20 | Сб | 30 | |
| | 2I | Нл | 3I | |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| С А Ф А Р ( сафарун ) | 22 | Пн | I | Ж Н І В Е Н Ь ( август ) |
| | 23 | Ат | 2 | |
| | 24 | Ср | 3 | |
| | 25 | Чц | 4 | |
| | 26 | Пт | 5 | |
| | 27 | Сб | 6 | |
| | 28 | Нд | 7 | |
| | 29 | Пн | 8 | |
| Р А Б Б І У Л Ь - А В В А Л Ь ( рабіун аль- ауувалю ) | I | Ат | 9 | |
| | 2 | Ср | IO | |
| | 3 | Чт | II | |
| | 4 | Пт" | I2 | |
| | 5 | Сб | I3 | |
| | 6 | Нд | I4 | |
| | 7 | Пн | I5 | |
| | 8 | Ат | I6 | |
| | 9 | Ср | I7 | |
| | IO | Чц | I8 | |
| | II | Пт | I9 | |
| | I2 | Сб | 20 | |
| | I3 | Нд | 2I | |
| | I4 | Пн | 22 | |
| | I5 | Ат | 23 | |
| | I6 | Ср | 24 | |
| | I7 | Чц | 25 | |
| | I8 | Пт | 26 | |
| | I9 | Сб | 27 | |
| | 20 | Нд | 28 | |
| | 2I | Пн | 29 | |
| | 22 | Ат | 30 | |
| | 23 | Ср | 3I. | |

27 ліпеня — Дзень Незалежнасці,

I2 раббі-уль-авваля ( 20 жніуня ) — Маўлюд.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| РАББІ УЛЬ-АВВАЛЬ (рабйун аль-ауваль) | 24 | Чц | I | ВЕРАСЕНЬ (сентябрь) |
| | 25 | Пт | 2 | |
| | 26 | Сб | 3 | |
| | 27 | Нд | 4 | |
| | 28 | Пн | 5 | |
| | 29 | Ат | 6 | |
| | 30 | Ср | 7 | |
| РАББІ УЛЬ-АХЫР (рабйун аль-ссані) | I | Чц | 8 | |
| | 2 | Пт" | 9 | |
| | 3 | Сб | I0 | |
| | 4 | Нд | II | |
| | 5 | Пн | I2 | |
| | 6 | Ат | I3 | |
| | 7 | Ср | I4 | |
| | 8 | Чц | I5 | |
| | 9 | Пт | I6 | |
| | I0 | Сб | I7 | |
| | II | Нд | I8 | |
| | I2 | Пн | I9 | |
| | I3 | Ат | 20 | |
| | I4 | Ср | 2I | |
| | I5 | Чц | 22 | |
| | I6 | Пт | 23 | |
| | I7 | Сб | 24 | |
| | I8 | Нд | 25 | |
| | I9 | Пн | 26 | |
| | 20 | Ат | 27 | |
| | 2I | Ср | 28 | |
| | 22 | Чц | 29 | |
| | 23 | Пт | 30 | |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| РАББІ УЛЬ-АХЫР | 24 | Сб | I | КАСТРЫЧНІК (октябрь) |
| | 25 | Нд | 2 | |
| | 26 | Пн | 2 | |
| | 27 | Ат | 4 | |
| | 28 | Ср | 5 | |
| | 29 | Чц | 6 | |
| ДЖУМАЗІЛЬ-АВВАЛЬ (джумада аль-уля) | I | Пт" | 7 | |
| | 2 | Сб | 8 | |
| | 3 | Нд | 9 | |
| | 4 | Пн | I0 | |
| | 5 | Ат | II | |
| | 6 | Ср | I2 | |
| | 7 | Чц | I3 | |
| | 8 | Пт | I4 | |
| | 9 | Сб | I5 | |
| | I0 | Нд | I6 | |
| | II | Пн | I7 | |
| | I2 | Ат | I8 | |
| | I3 | Ср | I9 | |
| | I4 | Чц | 20 | |
| | I5 | Пт | 2I | |
| | I6 | Сб | 22 | |
| | I7 | Нд | 23 | |
| | I8 | Пн | 24 | |
| | I9 | Ат | 25 | |
| | 20 | Ср | 26 | |
| | 2I | Чц | 27 | |
| | 22 | Пт | 28 | |
| | 23 | Сб | 29 | |
| | 24 | Нд | 30 | |
| | 25 | Пн | 3I | |

I7 верасня — Уз"яднанне Заходняй і Усходняй Беларусі.

## ЛІСТАПАД (ноябрь)

| Month | | | |
|---|---|---|---|
| ДЖУМАЗІЛЬ-АВВАЛЬ | 26 | Ат | I |
| | 27 | Ср | 2 |
| | 28 | Чц | 3 |
| | 29 | Пт | 4 |
| | 30 | Сб | 5 |
| ДЖУМАЗІЛЬ-АХЫР ( джумада аль-ссані ) | I | Нд | 6 |
| | 2 | Пн | 7 |
| | 3 | Ат | 8 |
| | 4 | Ср | 9 |
| | 5 | Чц | I0 |
| | 6 | Пт" | II |
| | 7 | Сб | I2 |
| | 8 | Нд | I3 |
| | 9 | Пн | I4 |
| | I0 | Ат | I5 |
| | II | Ср | I6 |
| | I2 | Чц | I7 |
| | I3 | Пт | I8 |
| | I4 | Сб | I9 |
| | I5 | Нд | 20 |
| | I6 | Пн | 2I |
| | I7 | Ат | 22 |
| | I8 | Ср | 23 |
| | I9 | Чц | 24 |
| | 20 | Пт | 25 |
| | 2I | Сб | 26 |
| | 22 | Нд | 27 |
| | 23 | Пн | 28 |
| | 24 | Ат | 29 |
| | 25 | Ср | 30 |

## СНЕЖАНЬ (декабрь)

| Month | | | |
|---|---|---|---|
| ДЖУМАЗІЛЬ-АХЫР | 26 | Чц | I |
| | 27 | Пт | 2 |
| | 28 | Сб | 3 |
| | 29 | Нд | 4 |
| РАДЖАБ ( раджабун ) | I | Пн | 5 |
| | 2 | Ат | 6 |
| | 3 | Ср | 7 |
| | 4 | Чц | 8 |
| | 5 | Пт" | 9 |
| | 6 | Сб | I0 |
| | 7 | Нд | II |
| | 8 | Пн | I2 |
| | 9 | Ат | I3 |
| | I0 | Ср | I4 |
| | II | Чц | I5 |
| | I2 | Пт | I6 |
| | I3 | Сб | I7 |
| | I4 | Нд | I8 |
| | I5 | Пн | I9 |
| | I6 | Ат | 20 |
| | I7 | Ср | 2I |
| | I8 | Чц | 22 |
| | I9 | Пт | 23 |
| | 20 | Сб | 24 |
| | 2I | Нд | 25 |
| | 22 | Пн | 26 |
| | 23 | Ат | 27 |
| | 24 | Ср | 28 |
| | 25 | Чц | 29 |
| | 26 | Пт | 30 |
| | 27 | Сб | 3I |

2 лістапада — Дзень Памяці.

5 раджаба ( ноч з 8 на 9 снежня ) — Рагаіб-ноч.

25 снежня — Раство у каталікоў.

# З ТАТАРСКАЙ КУХНІ

У "Байраме" № 4 надрукаваны энцыклапедычны артыкульчык пра папулярны ў мусульман напітак — шарбет. Рэцэпт і спосаб прыгатавання некаторых шарбетаў мы змяшчаем, запазычыўшы змест з кнігі "Букет напитков Татарстана", Казань, 1993 г. Аўтары Р.Бушкоў і Ф.Мазітава.

Г р а н а т а в ы ш а р б е т . Зварыць цукровы сіроп, праз 10 хвілін дадаць да яго сіропу з ружы, даць ахаладзіцца, а затым уліць гранатавы сок, перамяшаць і паставіць у халадзільнік.

На 1 л вады — 15 кавалкаў цукру, 0,5 малой лыжкі ружавага сіропу, 2 шклянкі гранатавага соку.

Л і м о н н ы ш а р б е т . 1-ы с п о с а б . Зняць цэдру з лімонаў, заварыць у двух шклянках вады на працягу 5 — 7 хвілін, даць настаяцца, ахаладзіць. Сок лімонаў выціснуць у асобны посуд. Зварыць цукровы сіроп, уліць у яго узвар цэдры, перамешваючы на працягу 10 хвілін, дадаць ружавага алею, а калі ахалодзіцца — лімонны сок. Паставіць напітак у халадзільнік.

На 1 л вады — 25 кавалкаў цукру, 1 капля ружавага алею ці 1 — 1,5 малыя лыжкі ружавага сіропу, 4 лімоны.

2-гі с п о с а б . 2 ачышчаныя лімоны нарэзаць, заліць 3 л вады, якая папярэдне была вараткам, дадаць 300 г цукру і давесці да кіпення на агні. Працадзіць спачатку цераз друшляк, націскаючы на кавалачкі лімона лыжкай, а затым цераз двайную марлю. Наліць у шкляны посуд, пакласці зрэзаную з палавіны лімона цэдру, шчыльна закаркаваць і паставіць на холад. Праз гадзіну цэдру выняць.

Ш а р б е т з а п е л ь с і н а в а й ц э д р ы . Цэдру 4 апельсінаў заліць 2 л халоднай вады, якая была вараткам, дадаць 2 малыя лыжачкі лімоннай кіслаты, настаяць на працягу сутак. Вымачаную цэдру прапусціць цераз мясарубку і пакласці зноў у тую ж ваду. Затым дадаць яшчэ 3 л халоднай вады, якая была вараткам, пракіпяціць. Цукар дадаецца па смаку. Як толькі напітак ахалодзіцца — працадзіць.

Ш а р б е т з у р у к а . Урук перабраць, перамыць некалькі разоў, пакласці з цукрам у варатак і варыць да таго часу, покуль урук не стане мяккім. Гатовы шарбет ахаладзіць і можна падаваць на стол. У кожную піялу ( ці кубак ) кладзецца 3 — 5 штук урука. На 1 шклянку 10 г урука, 30 — 40 г цукру.

# З М Е С Т